

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 20 красавіка 1990 г. № 16 (3530) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


*22 красавіка—120-ая гадавіна з дня нараджэння У. І. Леніна*



## Ленін. Крокі гісторыі

Масква. Красная плошча. Гулкая цішыня на золку дня. Праз колькі хвілін уступае ў свае правы ранак. Ранак новага, падобнага і не падобнага на мінулыя, дня. Адсюль спяшаецца люд — малады і стары, заклапочаны і бесклапотны ў сваім памкненні трапіць туды, куды вось ужо дзесяцігоддзі ідзе і ідзе прыезджы люд,— да Леніна. Да Леніна?

Згадваючы кадры хронікі далёкага дваццаць чацвёртага, кадры, якія не ўмяшчаюць бясконцы людскі паток — паток непамернага гора і неўсвядомленай, але ўжо ўзніклай трывогі, ніяк не можаш суаднесці іх з гэтым, сённяшнім: няма ж магілы, не да магілы ідуць... Думка, калі злёгку адысціся ад яе і зірнуць як бы збоку, здасца амаль што святатацкай у сваім памкненні пасягнуць на святое, на святыню, і хоць узнікла яна не сёння і не толькі ў мяне, яна і сёння выкліча град папрокаў, а то і абвінавачванняў, — няўцям будзе ўсім, хто папракае і абвінавачвае, што абараняюць яны не памяць пра вялікага чалавека, вялікага сына нашай эпохі, не вучэнне яго, шмат у чым скажонае, а то і скампраметаванае пасля яго смерці, а міф, веру ў Бога-чалавека, супраць якой усё сваё жыццё выступаў сам Уладзімір Ільіч.

Якая ж слепата скоўвала ўсіх нас, што так аднадушна, з такім энтузіязмам здраджвалі мы яго запаветам,— і не прынята, адпрэчана яго пісьмо-папярэджанне, і цела не пахавана ў зямлі, і вучэнне, якое да апошняга часу не знаходзіла верных паслядоўнікаў, расцягвалася на цытаты, і вялікія прадбачанні, да якіх прыйшоў ён напярэдадні смерці, не пачуты, не заўважаны. Якая сляпая вера трымае нас і сёння, што мы не бачым святатацтва ў тым, што столькі лжывых, а то і злачынных правадыроў узыходзіла на трыбу-

(Працяг на стар. 2—3).

# Перадз'ездаўская экспрэс-анкета «ЛіМа»

**25 красавіка адбудзецца чарговы, дзесяты па ліку з'езд пісьменнікаў Беларусі. Мы звярнуліся да некаторых членаў СП з просьбай адказаць, з якімі думкамі і спадзяваннямі яны ідуць да свайго з'езда, якім бы хацелі яго бачыць, якім уяўляецца ім заўтрашні дзень творчага саюза.**

**Лідзія АРАБЕЙ:**

Членам нашага Саюза пісьменнікаў я з'яўляюся з 1958 года, гэта значыць, трыццаць два гады. Чаго я толькі не пабачыла за гэты час! Памятаю, як «скідалі» ў нас то адно, то другое кіраўніцтва.

Тым часам падрастала новае пакаленне. Праўда, вельмі скора яно, з галёркі перабіралася ў прэзідыум і тады ўжо лічыла, што праўда, справядлівасць перамаглі, што ўсё цяпер ідзе, як трэба.

І цяпер у арганізм саюза, як свежая, маладая кроў, улілося шмат моладзі, яна кіпіць, бунтуе. І няхай бунтуе. Яна па праву можа адмовіцца ад шмат якой спадчыны, што пакінулі ёй старэйшыя таварышы. Але каб не здарылася з ёй таго самага, што з некаторымі яе папярэднікамі, каб не палічылі, што праўда перамагла ўжо і больш нічога не трэба перайначваць.

Падобна, што сёння і ў нашым Саюзе пісьменнікаў крызіс, перш за ўсё крызіс начальніцкі, сакратарскі. Хацелася б, каб наш з'езд вывеў саюз з гэтага крызісу. І мне хочацца заклікаць сваіх таварышаў па пяру, каб яны вельмі адказна паставіліся да задачы — выбару новага кіраўніцтва. Вядома, усе людзі — людзі і няма сярод іх анёлаў і ўсім, як гэта кажуць, не дагадзіш. Але мне хочацца, каб не мела месца тут групаўшчына і каб тыя, хто зоймуць прасторныя кабінеты ў нашым саюзе, адчулі ўсю глыбіню сваёй адказнасці і за літаратуру, і за кожнага чалавека — члена саюза, і каб наш пісьменніцкі саюз зрабіўся нам сапраўдным другім домам.

**Янка БРЫЛЬ:**

Спадзяюся на дэмакратызм, пры разуменні, вядома, што дэмакратызм — не поўная распрэжанасць.

Я за тое, каб наш творчы саюз існаваў, інакш — поўная раз'яднанасць. Але, на жаль, шмат у нас яшчэ інертнасці. Усе нібыта шчырыя патрыёты, а як дойдзе да справы, дык на вечары ў памяць таварыша няма каму выступіць. Увогуле боязна за стан нашай літаратуры. Для моладзі як быццам не стала творчых аўтарытэтаў.

Што ж да структуры СП, то з прапановамі рэканструкцыі я выступаў яшчэ ў 60-х гадах. Старшыня, два намеснікі і моцны арганізацыйны вузел — вось што, на мой погляд, патрэбна. Мы ў нявыгадным становішчы, бо няма пэўнасці з агульнасаюзным пісьменніцкім статутам. Каб не прыйшлося нам вынаходзіць веласіпед...

Хацелася б, каб прыйшлі ў кіраўніцтва людзі, здольныя рабіць добрае для літаратуры. І хоць усе мы сёння кінуліся ў палітыку, але не варта забывацца, што галоўнае для пісьменніка — стол і папера. Чаго не напішаш ты, ніхто за цябе не напіша.

**Аляксандр ДРАКАХРУСТ:**

Лічу важнай атмасферу шчырасці, адкрытасці — хай яна і запануе на з'ездзе. Пазіцыя кожнага па ўсіх пытаннях павінна быць яснай. Было б пажадана, каб пытанні палітыкі і літаратуры занялі на ім аднолькавае месца. Усё-такі гэта з'езд **пісьменнікаў.** Перакосу ў той ці іншы бок я асабіста не хацеў бы.

Арганізацыйныя структуры хай будуць вольнымі ад стэрэатыпаў, ад зададзенасці. Маюць права на існаванне і жаночая асацыяцыя, і «Апрель», і іншыя. Саюз пісьменнікаў не літміністэрства, тут гуртуюцца людзі па творчых інтарэсах і чалавечых сімпатыях.

**Вольга ІПАТАВА:**

Скажу пра тое, што мяне непакоіць. Шмат у нашым творчым саюзе люду, якому не баліць, які сядзіць і чакае, што будзе далей. І гэта ў той час, калі ад грамадскай актыўнасці кожнага з нас залежыць многае!

Вядома, усім хочацца проста пісаць, займацца творчасцю, але каб грамадзянская пасіўнасць не адгукнулася нашым дзецям...

Наша дэмакратыя робіць першыя крокі, ёй могуць запраста перабіць крылы. Выбары паказалі, што народ не заўсёды можа ўспрыняць намаганні інтэлігенцыі, скіраваныя на нацыянальны і духоўны ўздым. І гэта не віна яго, народа, а бяда. Ды я лічу, што нельга апускаць рукі. Трэба ваяваць — у тым ліку і на з'ездзе. Розумам я ўсведамляю, што балота пасіўнасці ўскалыхнуць цяжка, але ўсё ж спадзяюся, што ў беларускім характары адбудзецца

(Працяг на стар. 2).

(Пачатак на стар. 1).

зрух. Нам не ўдасца адседзецца!..

Варта было б пераглядзець і пытанне аб членстве ў СП. У нас ёсць людзі, якія не толькі добрага для літаратуры не зрабілі, а наадварот — усяляк ёй шкодзяць. Творчая суполка — не дабрачынная таварыства, на літаратуру трэба працаваць. Падобна, што пра гэта забываюцца некаторыя даўнія і наваспечаныя члены саюза, і сама прыёмная камісія.

**Уладзімір КАЛЕСНІК:**

Хацелася б, каб з'езд даў большае адчуванне свабоды творчасці і гарантыі правоў творцы. Саюз пісьменнікаў сёння — гэта спроба гуртавання па творчых сімпатыях вакол канструктыўных, важных для адраджэння духоўнасці ідэй. Важна, каб ідэі гэтыя не раз'яднoўвалі, не ўносілі канфліктаў, каб гаворка не звялася да амбіцыйных спрэчак. Каб нашы разыходжанні не разводзілі нас па розных партыях, бо палітычныя рознагалоссі могуць зменшыць нашы творчыя патэнцыі. Патрыятычны прыліў, які перажывае грамадства, павінен даць магчымасць выпрацаваць разумныя балансіры — як сродак, што дапаможа дасягнуць раўнавагі грамадскіх дзеячаў вакол ідэі адраджэння, гісторыі, культуры, маральных каштоўнасцей.

Што ж да будовы саюза, то я паслаў свае меркаванні і прапановы на адрас кіраўніцтва СП БССР. Спадзяюся, да іх прыслухаюцца.

**Мікола МАЛЯЎКА:**

Хачу, каб з'езд быў сумленным ад пачатку да канца, каб выступаючыя не азіраліся на пасады ды абоймы і не проста дзеля прыгожага слоўца выходзілі на трыбуну. З'езд усёткі не фэст і не піянерскі збор. Чакаю сур'ёзнай гаворкі пра тое, што нас хвалюе, што ўдалося і што не ўдалося. Было б добра, каб мы выбралі кіраўнікоў, здольных думаць не толькі пра сябе, а пра ўсіх нас — ад старэйшых да нядаўна прынятых у саюз.

Якія маю прапановы? І саюз, і літфонд павінны мець большую самастойнасць. Даўно пара адмовіцца ад «вясельных генералаў»: кіруючыя пасады абавязваюць да працы — нервовай, цяжкай. Заганным лічу звычай выкарыстоўваць кансультантаў у якасці служак для сакратароў — паперу напісаць ці яшчэ там штО... На пасадах кансультантаў маглі б быць кіраўнікі творчых секцый. Думаю, што варыянтаў можа быць шмат. Галоўнае, каб саюз быў рабочай арганізацыяй.

**Пімен ПАНЧАНКА:**

Мне ўспамінаецца мой першы пісьменніцкі з'езд — вясной 1938-га. Я тады настаўнічаў, мне было 20 гадоў, яшчэ і кніжка не выйшла. У 1934 у такім жа ўзросце прынялі А. Куляшова. Часы былі трывожныя, толькі і чуеш: то гэтага пасадзілі, то таго... А кіравалі намі Бэндэ, Клімковіч і іншыя. Не, у той час я не хацеў бы вярнуцца...

Не ведаю, ці змагу я прысутнічаць на з'ездзе па стану здароўя, але хачу, каб ён прайшоў творча. Хай больш будзе моладзі, хай яна сцвярджае сябе творамі, а не толькі спрэчкамі. Сваё слова пра народ і час — толькі гэта можа сёння зацікавіць людзей.

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ:**

Думаю, што з'езд будзе гарачы. Мяркуючы па некаторых матэрыялах беларускай прэсы і па той сітуацыі, што склалася ў расійскай пісьменніцкай суполцы, пэўныя сілы будуць навязваць нам ідэі, якія могуць прывесці да расколу. А раскол нам не на карысць, як і сляпое пераймание маскоўскіх структур.

Бачу наш саюз самастойнай арганізацыяй, а СП СССР — пабудаваным на федэратыўных пачатках. Пра структуру скажу наступнае: дастаткова старшыні і двух сакратароў, з неабходнай колькасцю рэферэнтаў і членаў праўлення. Праўленне можа быць меншым чым цяпер, каб аператыўна вырашаць пытанні. Пажадана, каб прыйшлі людзі маладзейшыя, актыўныя, здольныя думаць не толькі пра сябе.

**Кастусь ТАРАСАЎ:**

На маю думку, апошнія гады Саюз пісьменнікаў Беларусі як грамадская арганізацыя быў не на ўзроўні. Слаба чуўся пісьменніцкі водгук на падзеі бурлівага палітычнага жыцця рэспублікі. Масавыя ўцёкі сакратароў саюза са сваіх пасад — лепшае гэтаму сведчанне.

Я чакаю, што на з'ездзе будзе створана мінская гарадская пісьменніцкая арганізацыя. Гэта ж дзіва, што ёсць абласныя аддзяленні з дзесяткам членаў, а амаль тры сотні пісьменнікаў Мінска падпарадкаваны непасрэдна настроям ці разлікам сакратарыята, адчуваюць прамую залежнасць ад яго волі ці бязволля. У час выбараў кампаніі выпускаліся лістоўкі, якія ганьбілі пісьменнікаў, а сакратарыят саюза не рэагаваў ніяк на гэта. Які ж сэнс у саюзе, калі ён не забяспечвае ахоўы годнасці нават заслужаных сваіх членаў? Палітыка «абы ў нашай пісьменніцкай хатцы было ціха» карысці нам не прынясе. Зразумела, што ўсе, хто з такой палітыкай нязгодныя, будуць гуртавацца вакол іншых ідэй.

Спадзяюся, што з'езд абмяркуе стан пісьменніцкай актыўнасці, нашага ўдзелу ў сацыяльным і палітычным жыцці.

# «Давайце не будзем дзяліцца...»

## ПЕРШЫЯ КРОКІ НОВАГА ПРЭМ'ЕРА

**Як ужо паведамлялася ў друку, Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 7 красавіка г. г. Кавалёў М. В. вызвалены ад пасады Старшыні Савета Міністраў рэспублікі ў сувязі з выхадам на пенсію, а на гэту пасаду назначаны Кебіч В. Ф. Імя нашага новага прэм'ера добра ведаюць у рэспубліцы. Яму пяцьдзесят чатыры гады. Па паходжанні з сялян. Па спецыяльнасці інжынер-механік. Працаваў у партыйных органах. Са снежня 1985 года быў намеснікам Старшыні Савета Міністраў рэспублікі, старшынёй Дзяржплана Беларускай ССР.**

У мінулы аўторак Вячаслаў Францавіч Кебіч сустрэўся з групай прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі, рэдактараў газет, кіраўнікоў грамадскіх арганізацый (ТБМ імя Скарыны, Беларускага камітэта абароны міру, БНФ за перабудову «Адраджэнне» і інш.).

— Давайце будзем зыходзіць з таго, што нас сёння ўсіх хвалюе, «фармалаў» і «нефармалаў», — з гэтых слоў пачаў гутарку новы кіраўнік урада. — Давайце не будзем дзяліцца, а будзем разам займацца наспелымі праблемамі — праблемамі Чарнобыля, экалогіі, міласэрнасці... У дадзеных выпадках усе мы павінны быць «нефармаламі», нефармальна, з усёй адказнасцю адносіцца да свайго абавязку. Сёння раніцай я слухаў выступленне па радыё прэзідэнта Беларускага экалагічнага саюза Б. П. Савіцкага, — ён тут прысутнічае, — і я гатовы пагадзіцца з кожным яго словам...

В. Ф. Кебіч зазначыў, што ў апошнія дні адбыліся сур'ёзныя зрухі ў справе ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, паведаміў аб тых захадах, якія прымаюцца па патрабаванні рэспубліканскага ўрада ў Маскве — у Савеце Міністраў, Дзяржплане, Вярхоўным Савеце («У Вярхоўным Савеце адобрана без якіх-небудзь істотных агаворак наша комплексная праграма па ліквідацыі вынікаў аварыі... Адкінута як заганная канцэпцыя 35 бэр» і г. д.), і заклікаў прысутных выказацца, падзяліцца сваімі думкамі і прапановамі.

Больш як трохгадзінная размова насіла свабодны, нязмушаны характар. Паколькі парадак дня папярэдне не вызначаўся, то ў гутарцы ўзнімаліся самыя розныя пытанні грамадска-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця рэспублікі: ад Чарнобыля да структуры Саўміна, ад экалагічнай сітуацыі да становішча спраў у нацыянальнай навуцы, культуры, асвеце, да задач нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Выступілі Н. Гілевіч, Б. Сачанка, акадэмік І. Ліштван, прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза Б. Савіцкі, гісторык, намеснік старшыні сойма БНФ «Адраджэнне» М. Ткачоў, дырэктар Інстытута радыялогіі АН БССР Я. Канапля, намеснік старшыні Беларускага камітэта абароны міру І. Кірычэнка, галоўныя рэдактары газет А. Вярцінскі, У. Наркевіч, З. Прыгодзіч, сакратар Мінскага гаркома партыі П. Краўчанка. У сустрэчы прымала ўдзел і адказвала на асобныя пытанні намеснік Старшыні Савета Міністраў Н. Мазай.

У заключэнне ўдзельнікі сустрэчы абмяняліся меркаваннямі наконт арганізацыйных і грамадска-палітычных акцый, якія плануюцца да 26 красавіка — Дня чарнобыльскай трагедыі. Як і напачатку, прагучаў заклік да еднасці, да «нацыянальнай згоды».

Наш кар.

# Падарунак да свята

Неўзабаве Мінск зробіцца цэнтрам Усесаюзнага свята славянскай пісьменнасці, асветы і культуры, якое пачнецца 24 мая — у дзень святых Кірылы і Мяфодзія, стваральнікаў славянскага алфавіта. Актыўна распачалася падрыхтоўка да гэтага свята ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Пасля першага ж чытання ўсяму творчаму калектыву купалаўцаў вельмі спадабалася новая камедыя маладога балгарскага драматурга Хрыста Бойчава, якая ў беларускім перакладзе называецца «Швейцарыя, Швейцарыя...» У дасціпна напісанай п'есе многа душэўнай цеплыні, дабрыні да людзей, спагады.

Для пастаноўкі спектакля «Швейцарыя, Швейцарыя...» была запрошана творчая група з Габраўскага тэатра імя Рача Стаянава: рэжысёр-пастаноўшчык Іярдан Гаджаў, мастак Ардаш Тавукчыян. Правесці першыя рэпетыцыі дапамагаў і драматург тэатра Велізар Велчаў. У спектаклі будуць заняты народныя артысты БССР П. Кармунін, Г. Гарбук, П. Дубашынскі, заслужаныя артысты рэспублікі М. Зінкевіч, З. Зубкова, А. Рынковіч, Т. Нікалаева, В. Філатаў, А. Памазан, М. Федароўскі, А. Падабед, артысты М. Кірычэнка, Ю. Авяр'янаў. Прэм'еру плануецца паказаць пасля 24 мая ў дні Свята славянскай пісьменнасці, асветы і культуры.

Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.

**Усесаюзны тыдзень міласэрнасці**

# Пад знакам «Надзеі»

**Міласэрнасць... Паняцце гэтае, якое было забылася, апошнім часам вяртае сваё сапраўднае, першаснае значэнне. Грамадства, як і належыць яму па маральных, этычных нормах, пачынае са спагадай ставіцца да кожнага, хто да нядаўняга часу па сутнасці быў забыты, прадастаўлены самому сабе. Узніклі ўстановы і арганізацыі, якія адмаўляюцца ад казённых мерапрыемстваў, што яшчэ нядаўна праводзіліся дзеля галачкі ў справаздачах, пераходзяць да такіх кантактаў з людзьмі, у аснову якіх пакладзена звычайная чалавечая спагада, чуласць, душэўнасць.**

**Адна з такіх арганізацый — творчы саюз «Голас», створаны пры Беларускім таварыстве інвалідаў. Узначальвае «Голас» Уладзімір Варшанін. Уладзімір Мікалаевіч сам піша вершы, музыку і мо таму імкнецца згуртаваць вакол сябе аднадумцаў. Саюз лічыць сваёй задачай арганізацыю розных студый, якія б аб'ядноўвалі людзей па інтарэсах, дапамагалі б лепшаму раскрыццю іх творчых індывідуальнасцяў, давалі б практычныя парады.**

**Менавіта такія абавязкі ўзяла на сябе першая студыя з сімвалічнай назвай «Надзея», якой кіруе Вольга Янчанка. Вольга Георгіеўна — журналістка (зараз яна на пенсіі), любіць літаратуру, піша і сама. Вакол студыі згуртаваны не толькі мінчане. Да немінчан ладзяцца выезды, часцей за ўсё з «Рэпарцёрам». Калі ж удаецца сабрацца разам, студыйцы абмяркоўваюць творы, гавораць аб планах. Кіраўніцтва студыі дапамагае асобным аўтарам надрукавацца, тым самым запальваючы перад імі агеньчык надзеі.**

**Напрыклад, пінчанін Уладзімір Цмыг. Пасля цяжкай траўмы пазваночніка правёў некалькі гадоў у нерухомасці (перад гэтым быў геолагам), але не паў, як кажуць, духам. Прызванне знайшоў у паэзіі. Вершы У. Цмыга ўжо друкаваліся ў адным з калектыўных зборнікаў выдавецтва «Мастацкая літаратура», часта з'яўляюцца ў перыядычным друку.**

**У Дражні ў Доме інвалідаў жывуць Сяргей Міхайлоўскі і Ігар Далідовіч. Абодва таксама пішуць вершы. Уладзімір Аўчыннікаў — чалавек сталага ўзросту, працуе інжынерам. У сваіх апавяданнях звяртаецца да ваенных успамінаў. Наталля Карпуць працуе ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР, а свае самыя запаветныя думкі давярае вершам, вядзе вялікую грамадскую работу.**

**Студыйцы даўно марылі аб сваім выданні. І вось мара гэтая ажыццявілася. Выйшаў першы нумар весніка «Надзея». Пад рубрыкай «Творчасць студыйцаў» змешчаны вершы, проза, публіцыстыка, рэцэнзіі. У нумары таксама «Служба знаёмстваў», «Куточак юрыста», інфармацыя па сацыяльных і медыцынскіх пытаннях.**

**Мяркуецца, што выданне стане перыядычным — штоквартальнікам і будзе мець цану. Першы ж нумар выйшаў бясплатна.**

НАШ КАР.

# Ленін. Крокі гісторыі

(Пачатак на стар. 1).

**ну маўзалея і імем Леніна, клятвай, звернутай да яго імя, апраўдвалі свае грахі і злачынствы перад народам?**

**Дык ці да Леніна мы ідзём, ідучы ў маўзалей?**

**«Быццам яго зямля не прыняла, га? Але за што?» — дасюль чую я ціхі, горкі ўсхліп немаладой ужо сялянкі ў паркалёўцы, што зацяняла выцвілыя ці выплаканыя за жыццё вочы, — горкія словы яе, звернутыя да сябе самой і да ўсіх нас, усіх, хто прыняў некалі гэтае жыццё на веру, не задумаўшыся над яго вечным сэнсам.**

**Працяг, развіццё, удасканаленне... Хіба не ў самім гэтым руху — жыццё чалавека, жыццё чалавечага роду, жыццё народа? А мы не-не і імкнёмся ў думках назад, у мінулае, спрабуем адалец, раскідаць, а пасля і раскрышыць ужо пражытыя дзесяцігоддзі, і не заўважаем, што ламаем, вытоптваем жывыя парасткі — парасткі чалавечых лёсаў, чалавечых дзеянняў і спадзяванняў. Быццам не ведаем і ведаць не хочам, што на абломках, сярод столькі разоў палітых крывёю руін нельга, немагчыма адным днём узгадаваць новае, нікому няведамае, што зноў і, магчыма, на доўгія гады, заглушыць усё дзядоўнік...**

**Спробы пачаць усё спачатку, з кропкі адліку, з нуля — няплённыя. І таму, што гісторыю не павярнуць назад, і таму, што пасля ўсяго, што адбылося з намі і краінай, вярнуцца няма куды — у дасталінскіх часах нам, тым, хто прайшоў і не прайшоў страшнае, крывавае чысцілішча 1929—1949 гадоў, няма месца. Мы наогул мала чым нагадваем сёння людзей, гісторыя існавання якіх пачыналася ў памятным Кастрычніку: жывучы ў свеце фраз, лозунгаў, слоўных канструкцый, якія на доўгія гады замянілі ўсю аб'ектыўную інфармацыю пра нашу рэчаіснасць, мы міжволі ўбіралі, «усмоктвалі» веру ў сілу гэтых слоў, у тое, што яны значаць куды больш, чым самыя відочныя, самыя жахлівыя факты. «Усмоктвалі» — і пераставалі давяраць сваім вачам, сваім пачуццям, свайму жыццёваму вопыту, і пераставалі адчуваць патрэбу думаць. Так, так, не толькі страх, але і адсутнасць патрэбы думаць ператваралі нас, цэлыя народы, у сацыяльны прыдатак дзяржавы, і гэта трэба прызнаць. З болем, з горыччу, але прызнаць. Іісці далей.**

**У разважаннях і спрэчках сучасных гісторыкаў і філосафаў усё больш адкрыта чуюцца ноткі расчаравання: шмат што з таго, што ў нядаўнія часы аб'яўлялася навуковай тэорыяй, якая ледзь што не паўсюдна і канчаткова перамагла, вырастала з міфа, аказвалася па сутнасці міфалогіяй, якая выкарыстала самыя архаічныя формы свядомасці, па самой прыродзе сваёй аўтарытарнай, схільнай да веры ў існаванне міфічнага ідала, правадыра, Бога-чалавека. І хоць несумненна, што трывога іх шмат у чым абаснаваная і вера ў добрага цара цаною вялікай крыві была падменена вераю ў добрага і мудрага «бацьку народаў», што сама ідэя сацыялізму намаганнямі палітыкаў і паслухмяных ім «тэарэтыкаў» вульгарызавана і да нядаўняга часу насіла характар апалагетычнага апраўдання рэальнасці, якою б гэта рэальнасць ні з'яўлялася, але ў вышэйшай ступені і не навукова і амаральна абвінавачваць за гэта яе творцу, яе стваральніка. І не толькі таму, што меркаваць пра ідэю сацыялізму адзіна па тым, што існавала і існуе ў рэальнасці, ігнаруючы яе тэарэтычна выпрацаваную мадэль, гэтак жа няправільна, як і меркаваць пра рэальнасць адзіна ў адпаведнасці з ідэяй, але і таму, што тым самым пацвярджаецца той жа міф, які аспрэчваецца, і ўвесь ход гісторыі, увесь ход пераўладкавання жыцця ставіцца ў залежнасць ад кагосьці аднаго, ад гаспадара.**

**Гісторыя не належыць, як ніколі не належала, нікому паасобку. І аб гэтым не грэх было б памятаць і тады, калі ў шматпакутным жыцці і ў шматтомных працах Леніна пільна вышукваюцца сведчанні супраць яго праваты, кананізаванай, адно што не абагаўлёнай намі, і тады, калі ў захапленні сваёй, дазволенай цяпер, смеласцю сцвярджаецца, што ўсім ходам паслярэвалюцыйных падзей адпрэчана ідэя сацыялізму. Гэта калі лічыць, што Ленін — Бог, то, адшукаўшы сляды яго сумненняў, ды і проста памылковых разважанняў на старонках прац (вось так, маўляў, ён пісаў да рэвалюцыі, з ссылкі, а вось такую рэвалюцыю ставіў на дакуменце пасля рэвалюцыі), засумняваешся, а то і зняверышся ў ім; а калі памятаць, што Ленін — чалавек і не быў застрахаваны ні ад сумненняў, ні**

## *Выбарчы клуб «ЛіМа»*



# ДЗЕЛЯ АДРАДЖЭННЯ ДУХОЎНАСЦІ

**З перадвыбарчай платформы кандыдата ў народныя дэпутаты БССР па Чкалаўскай выбарчай акрузе № 19, загадчыка кафедры Мінскага інстытута культуры Анатоля ГРЫЦКЕВІЧА**

У выпадку майго выбрання буду паслядоўна адстойваць у парламенце рэспублікі прынцыпы чалавечнасці, дэмакратызацыі жыцця, адраджэння духоўнасці і маральнасці.

Асноўнымі накірункамі сваёй дзейнасці *лічу*:

— поўную эканамічную самастойнасць і рэальны суверэнітэт рэспублікі пры вяршэнстве яе законаў над саюзнымі *і іх адпаведнасць* міжнародным пагадненням;

— усталяванне шматпартыйнай сістэмы як гарантыі дэмакратызацыі грамадства;

— поўную незалежнасць заканадаўчых, выканаўчых і судовых органаў;

— скасаванне наменклатуры і яе сацыяльна - эканамічных прывілеяў, правядзенне атэстацыі кіруючых кадраў рэспублікі *ўсіх узроўняў, перш за ўсё* ў галіне эканомікі, экалогіі, культуры; скарачэнне не менш як на 50 працэнтаў штатных адзінак вызваленых работнікаў усіх грамадскіх арганізацый з выкарыстаннем вызваленых сродкаў на павышэнне *пенсій, стыпендый, грашовых* дапамог на развіццё адукацыі, навукі, культуры;

— патрабаванне ад урада СССР, саюзных міністэрстваў, вінных у чарнобыльскай катастрофе, поўнай кампенсацыі ўсіх выдаткаў па ліквідацыі яе *паследстваў; тэрміновае* адсяленне ў бяспечныя месцы людзей з забруджаных радыенуклідамі зон, спыненне ў іх усялякай гаспадарчай дзейнасці адпаведна канцэпцыі беларускіх вучоных, зацверджанай Вярхоўным Саветам БССР, забеспячэнне насельніцтва Беларусі экалагічна чыстай харчовай прадукцыяй;

— ліквідацыю на працягу 5 гадоў *або перапрафіляванне* ўсіх шкодных для здароўя людзей прадпрыемстваў, будаўніцтва ў будучым толькі экалагічна чыстых і навукаёмістых вытворчасцяў;

— адраджэнне нацыянальнай культуры і мовы, садзеянне развіццю моў і культур прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць на тэрыторыі Беларусі, вяртанне вернікам храмаў, адраджэнне гістарычнай памяці беларускага народа, рэлігійнасці.

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА 34-ы

2 красавіка гарадская рада ТБМ вылучыла мяне кандыдатам у народныя дэпутаты БССР *па 1-й Ленінскай выбарчай акрузе* г. Мінска. Акруговая выбарчая камісія сабралася толькі 9-га, у перадапошні дзень тэрміну рэгістрацыі, але ўжо 6-га голас па тэлефоне ветліва мяне папярэдзіў, што я зарэгістраваны не буду («ёсць указанне Цэнтральнай выбарчай камісіі»). Сапраўды, 9-га па палудні я атрымаў выпіску з пратакола пасяджэння камісіі, дзе сказана: «Отказать тов. Круковскому Владимиру Яковлевичу в регистрации кандидатом в депутаты, т. к. городская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны использовала свое право по выдвижению кандидата в народные депутаты БССР, ранее выдвинув кандидатом т. Позняка З. С., который 4.03.90 г. был избран народным депутатом БССР. Основание—ст. 34 Закона БССР о выборах народных депутатов Белорусской ССР». І подпісы: «Председатель окружной комиссии З. Павлович, секретарь комиссии С. Долдонова».

Вось табе і на! Паўторныя выбары рэгламентуюцца 57-м артыкулам 10-га раздзела закона, а тут спасылка на 34-ы *артыкул*. Да таго ж, мне дакладна вядома, што некаторыя арганізацыі і ўстановы паўторна вылучылі кандыдатаў, і яны зарэгістраваныя, і ўжо вядуць перадвыбарчую барацьбу. Нясу заяву-пратэст у Цэнтральную выбарчую камісію. З ходу, не разглядаючы на камісіі, чалавек з юрыдычнай групы заяўляе, што мне будзе адмоўлена. Іду са скаргай да пракурора БССР Г. Тарнаўскага. Чалавек з прыёмнай, зірнуўшы на маю скаргу, тут жа сцвярджае, што будзе адмова.

У вас магла ўзнікнуць думка, што для тых арганізацый ці ўстаноў, якія ўдала зарэгістравалі сваіх кандыдатаў і ў першым туры, і на паўторныя выбары, ёсць *у законе нейкія* выключэнні або тлумачэнні. Не шукайце, няма. Проста наш закон аб выбарах—тое славутае дышла.

Але паспрабуем звярнуцца да звычайнай чалавечай логікі.

На чым грунтуецца рэгістрацыя кандыдатаў, скажам, ад ВІЗРУ, ад Рэспубліканскай рады ТБМ, ад Маскоўскага РАУС, ад лабараторыі оптыкі ІФ АН БССР, ад рады ТБМ Кастрычніцкага раёна ды шмат іншых?

Іхнія кандыдаты, маўляў, у першым туры праваліліся. А калі праваляцца і гэтыя, дык можна вылучаць і ў трэці тур, і ў чацвёрты? (Бо я абсалютна ўпэўнены, што з такім законам аб выбарах мы будзем галасаваць, як мінімум, да канца бягучага года). Можна запярэчыць таксама, што сапраўдным «гаспадаром» дэпутата, аж да адклікання, з'яўляецца акруга, яе жыхары, якія за яго прагаласавалі, а не той, хто яго вылучаў. Выключэнне—калі толькі арганізацыя і вылучыла і абрала (скажам, таварыства глухіх або ветэраны).

Чалавечая логіка, безумоўна, тут ні пры чым. Тут пануе нейкая іншая логіка, якая падмацоўваецца і недасканаласцю Закона аб выбарах і адвольным абыходжаннем з ім тых, хто мае ўладу.

Вось *і мушу я*, экс-кандыдат, апеліраваць да грамадскай думкі.

**Уладзімір КРУКОЎСКІ,**
**мастак.**

## *Надзёныя радкі*

**Заява ТАСС аб адным з цяжкіх злачынстваў сталінізму—расстрэле вясной 1940 года інтэрніраваных польскіх афіцэраў у Катынскім лесе, пад Смаленскам — у цэнтры ўвагі польскай і савецкай грамадскасці.**

**З удзелам прэзідэнта Польшчы В. Ярузельскага адбылася ўрачыстая *жалобная цырымонія передачы сімвалічнага праху* з месцаў пахавання польскіх ваеннаслужачых у Катыні для перанясення ў Варшаву...**

**(З газет).**

**Мікола ЯНЧАНКА**

### *Ходзьмы дадому, паны афіцэры!*

Пані!
Адкрыйце
Гасцінныя дзверы!
Едуць з Катыні
Да вас кавалеры.
Едуць жаўнеры,
Паны афіцэры,
Едуць да Касі,
Ядвісі і Веры.
Пані!
Адкрыйце
Гасцінныя дзверы!
Вы ж іх чакалі,
Чакалі паўвека.
Многія пані
*Закрылі павекі*,
Многія пані
Сталі сівымі.
Яны ж засталіся
Навек маладымі
У памяці вашай,
На фотапаперы...
Пані!
Адкрыйце
Гасцінныя дзверы!

●

Чаму ж на спатканні,
Чаму ж на сустрэчы
Нязмернае гора
Прыгнула вам плечы.
Вочы,
Бы крэпам,
Засланы журбою.
Маршы жалобы,
Бы хвалі прыбою.
Зацепліце свечкі,
Ядвісі і Веры:
— Ходзьмы дадому,
Паны афіцэры!
Ходзьмы ў Варшаву,
У Каліш,
У Познань...
Вярнуцца дадому
Ніколі не позна.

●

Паўвека мінула.
*Дывізія бору*
Стаіць у шарэнгах,
Гатовая к бою.
Узняты галіны,
Бы рукі ў праклёнах.
Стаяць батальёны,
Шумяць батальёны.
Шумяць
Роднай пушчы,
Сваёй Белавежы,
І дум іх мярэжы,
І сноў іх мярэжы
На захад
У Польшчу
Ляцяць год за годам,
Граніцы і межы ім —
Не перашкода.
І Польшча-матуля
Іх не забывала,
Пяшчотныя
Хмаркі-лісты пасылала,
Жывіла іх душы
Гаючай вадою,
Надзеяй,
Што вернуцца
Хутка дадому.

●

Цяпер вы
У польскай
Пакутнай зямліцы.
За ўсё перад вамі
Хачу *павініцца*.
Скажу,
Ваша гора —
Ўсяго толькі гора.
У нас жа да гора
І ганьба,
І сорам.
Дык спіце,
*Не думайце больш*
Пра адплату,
Адплатаю горкаю
Нам Курапаты
І сорак мільёнаў
Апаленых лёсаў,
Крывавыя рэкі,
Сіроцкія слёзы...
Дык *пільнымі* ж будзем:
Зусім не да твару
Народам,
Як калісь,
Быць катаў ахвярай.
Няхай жа у сэрцах
Ніколі не стыне
І боль Курапатаў
І *горыч* Катыні.

**Віктар ШУТКЕВІЧ**

### *Сугуччы*

Сугуччы трагічнага часу,
Ці ж яны выпадковыя:
Хатынь,
Катынь,
Курапаты...
Тыя ж самыя хаты,
Каты там і тут каты...

Варшава.

ад памылак, то трэба прызнаць, што па тытанічнасці здзейсненага мала каго можна паставіць побач з ім.

Што гэта за шлях — з адной крайнасці ў другую ад аднадушнага, фанатычнага абагаўлення правадыроў да іх аднадушнага *аплёўвання?* Спачатку баязліва, з аглядкаю, сцвярджалася, што Сталін наўмысна сказіў, скампраметаваў ленінскае вучэнне, пакінуўшы, падрыхтаваўшы для Леніна, яшчэ напярэдадні яго смерці, ролю ідала, палітычнага і рэлігійнага; цяпер жа нярэдка, асабліва ў прысутнасці заходніх «слухачоў», з выклікам сцвярджаецца, што карані сталіншчыны — у ленінскім палажэнні аб дыктатуры пралетарыяту. Тое, што гэтае палажэнне вырвана з кантэксту і не пачута (ці свядома адвергнута) вынікова, прарочая думка Леніна аб дыктатуры пралетарыяту, якая зменіцца дыктатураю *працы, калі свабодная* праца стане эквівалентам свабоды, сяму-таму здаецца не такім важным. Але **гэта** важна. **Гэта** — важней за ўсё.

Праца павінна стаць эквівалентам свабоды. Вось тое галоўнае, да чаго пасля пакутных разважанняў прыйшоў Ленін і што не было зразумета і прынята не толькі яго пераемнікам, стваральнікам сістэмы паўфеадальнага прымусу і дзяржаўнага гвалту над асобаю, але і шчырымі падзвіжнікамі сацыя*лізму, бліжэйшымі яго паплечнікамі*. Вынік жыцця, вынік тытанічнай працы думкі пасля ўсіх прыкідак, рашэнняў, разыходжанняў і сутыкненняў з блізкімі — «новая эканамічная палітыка», у якой зроблена спроба ўлічыць шматукладнасць жыцця ў краіне і сыходзіць з яе развіцця,— не знайшла на той час паслядоўнікаў, і ў гэтым — най*большая* трагедыя *Леніна. Леніна*, а не яго вучэння. Дагэтуль жа крытыка ленінскага вучэння, ад каго б яна ні зыходзіла, выглядае, мякка кажучы, неабгрунтаванай, бо за цэлае стагоддзе філасофія не прапанавала нам ніякага іншага шляху *да сапраўднага народаўладдзя*, і ўсе заклікі вярнуцца назад, у мінулае, каб паўтарыць шлях развіцця іншых народаў, разбіваюцца аб рэальнасць.

Выбару ў 1917 годзе не было. Усё, што адбылося,— адзінае, *што супрацьстаяла* тады яшчэ больш крываваму зыходу, усеагульнаму развалу. Выбар, той, які мы робім цяпер, магчыма, можна было зрабіць нашмат раней, і тое, што гісторыя распарадзілася інакш, тлумачыцца, на мой погляд, незавершанасцю новай тэорыі сацыялізму, якую выношваў Ленін,— ён у адзіноцтве вёў сваю перадсмяротную барацьбу *і не паспяваў*, не паспеў адысці ад не зжытай яшчэ эпохі, да канца не зжытай і ім самім. Паслядоўнікаў жа — не было. Ідэя, якая не вылілася ў завершаную тэорыю, патрабавала свайго развіцця, удасканалення — і была *адхілена тым*, што перамагло хутка пасля яго смерці.

Так, магчыма, і ў тэорыі сацыялізму (на сённяшняй ступені яе развіцця) ёсць тое, што належыць крытычна разгледзець і асэнсаваць, што вымагае крытыкі, але — крытыкі, а не абвяржэння. Не сёння вядома, што крытыка, а тым больш абвяржэнне любой тэорыі патрабуе не толькі доказаў яе недасканаласці ці несапраўднасці, але і новых тэарэтычных *выкладак* — новай тэорыі! — а не простай, зусім мяшчанскай спасылкі на чужую рэчаіснасць: вунь жа, маўляў, **яны** змаглі пабудаваць свой сацыялізм без усякіх тэорый і праграм, разлічаных на будучыню.

У кожнага народа свой шлях. Наш шлях вызначаны ўсім ходам нашай гісторыі, і ў разважаннях аб тым, *што калі* за мінулыя сем дзесяцігоддзяў сацыялізм збудаваны не быў, то ён — мёртванароджанае дзіця рэвалюцыі,— чуюцца ранейшыя, тыя ж, што і ў першыя паслярэвалюцыйныя гады, нецярплівасць і нецярпімасць: тады разбураўся і быў дашчэнту разбураны стары свет, цяпер нярэдка робяцца спробы разбурыць усё тое, што хоць у нейкай ступені апраўдвала тыя разбурэнні. І ўсведамленне таго, што як некалі, так і цяпер, як «правыя» так і «левыя» імкнуліся і імкнуцца ў сваіх прэтэнзіях маніпуліраваць народам, яго воляю,— усведамленне *горкае*. Калі ўсе адхрышчваюцца ад дэмагогіі мінулага, дэмагогіі, на жаль, не становіцца меней. Праўда, сёння яна іншая, са знакам мінус, і, услухоўваючыся ў розныя галасы, учытваючыся ў разважанні самага рознага кшталту, часам пачынае здавацца, што ідзе не толькі пошук праўды, але і пошук няпраўды.

Я не стану сцвярджаць, што праўда ў свеце адна, але **гэтая**, наша, выпакутаваная Леніным, выпакутаваная народам і аплачаная крывёю лепшых яго сыноў і дачок, хіба не бліжэй, не даражэй нам, чым любая іншая?

Крокі гісторыі апярэджвае толькі думка, думка прарока, прадказальніка будучага. Адным з такіх прадказальнікаў будучага, прарокам, які спрабаваў увасобіць у жыццё свае вя*лікія прадбачанні і не змог*, не паспеў, быў і застаецца для ўсяго свету Ленін. І, думаецца, **яго** вучэнне, пераасэнсаванае і прадоўжанае ў працах філосафаў новага часу, будзе жыць, **яго** шлях, прадоўжаны намі, нашымі дзецьмі і ўнукамі, акажацца правільным.

**Таіса БОНДАР.**

# З пошты «ЛіМа»

## • Пяць пытанняў ветэранам

## • «У хоры больш не спяваю...»

## • На лекцыі «Айчыны»

ХАЧУ ПРАПАНАВАЦЬ адкрыць у нашай рэспубліцы незвычайны музей. Зразумела, зараз не вельмі зручны час — цяжкім грузам на ўсіх нас вісіць Чарнобыль, вельмі складаная экалагічная сітуацыя, «кульгае» на абедзве нагі эканоміка, культура і яшчэ шмат што іншае. Таму той-сёй можа заўважыць: не да музеяў нам...

Аднак кожны дзень мінулае раскрывае невядомыя раней факты гісторыі. Пра злачынствы Сталіна і яго памагатых, пра намаганні і авантуры Хрушчова, пра «залатыя гады» кіравання Брэжнева. Але мы ўсе чамусьці забываем, што гэта — наша гісторыя, хоць часамі крывавая і жорсткая, але ўсё ж — гісторыя. Забываем, і гінуць пад гусеніцамі бульдозераў помнікі вялікім і малым «правадырам», раптоўна знікаюць з бібліятэк іх «вялікія творы», а абліччы — з музейных залаў. Ужо зараз у Новарасійску «Малая зямля» — вельмі дарагі сувенір. Я не заклікаю ўшаноўваць памяць гэтых людзей. Аднак ёсць у нас на зямлі такія музеі як Асвенцім, яны ж ствараюцца не для ўшанавання фашызму, а для перасцярогі, каб такога больш ніколі не было. Вось і музей былых нашых дзеячаў павінен засцерагаць нас ад ужо зробленых памылак.

Экспанаты для яго знайсці зусім не цяжка. У запасніках музеяў, шмат дзе на прадпрыемствах і ўстановах ёсць успаміны аб «правадырах», іх фота і мастацкія партрэты, бюсты. Чаму б не сабраць разам гэтыя рэліквіі часу?

Яшчэ зусім нясмела вяртаем мы гістарычныя назвы вуліцам і гарадам. Адтуль убіраюцца мемарыяльныя дошкі і помнікі былым дзеячам. Навошта ж іх везці на звалкі? У Мінску, напрыклад, як лічу я і вельмі многія мінчане, не месца ў цэнтры горада помніку памагатаму Сталіна — Калініну. Яго помнік і мемарыяльная дошка таксама могуць стаць экспанатамі музея.

А колькі ў нас «бессмяротных твораў» саноўных аўтараў! І яны могуць мець месца ў такім музеі.

На стварэнне падобнага музея шмат сродкаў не трэба: помнікі, бюсты, мемарыяльныя дошкі, шыльды з назвамі гарадоў і вуліц могуць размясціцца дзе-небудзь на ўскрайку парку, нават пад адкрытым небам.

Думаю, людзі з цікавасцю пайшлі б паглядзець на былых «правадыроў», пачытаць або паслухаць пра іх учынкі, паглядзець і паспрабаваць разабрацца самім у тым часе, у якім жылі яны самі, іх бацькі і дзяды.

**В. БАСАК,**
**аспірант**
**Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі.**
г. Мінск.

□

МОЖНА БЫЛО Б і абысці маўчаннем невялікі допіс прадстаўнікоў Савета ветэранаў вайны і працы Лепельскага раёна ў адной з газет, калі б узнятыя ў ёй пытанні не выходзілі за рамкі лепельскіх інтарэсаў. У допісе гаворка ідзе пра шматтысячны мітынг у Мінску 25 лютага г. г. На гэтым мітынгу прысутнічаў і я. Менавіта на ім упершыню адчуў, што і ў нас, у Беларусі, ёсць народ. Аўтары ж нататкі сцвярджаюць, што арганізатары мітынгу ігралі «на асабістых амбіцыях».

Маё першае пытанне: у чым гэтыя амбіцыі? Можа, у тым, што БНФ называе адкрытым тэкстам відавочныя ісціны, ад якіх упарта адмахваюцца афіцыйныя асобы? Сярод іх — адмова кансерватыўнага кіраўніцтва рэспублікі зарэгістраваць грамадскія дэмакратычныя арганізацыі, чые праграмы не абвяргаюцца ў адкрытым друку; бессаромная ўзурпацыя права «наменклатуры» выстаўляць свае кандыдатуры «ў глыбінцы», прытым пераважна на безальтэрнатыўнай аснове; свядомае (а значыць і злачыннае) хаванне з мэтай кабінетнага спакою праўды аб чарнобыльскіх справах і інш.

Дык чаго ж патрабавалі асабіста для сябе лідэры БНФ, паважаныя ветэраны? І як вам падабаецца паспешна апублікаваная пасля названага мітынгу Заява ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР з асуджэннем мітынгу? Вам не падалося, што дакумент гэты нарадзіўся ў вузкім коле асоб? Для таго ж, каб выпрацаваць думку ўсіх членаў ЦК, трэба, як мінімум, сабраць пленум. Але штосьці я не чуў паведамлення аб ім.

Другое пытанне: у чым заключаецца называемая вамі «стабільнасць рэспублікі, якая развіваецца»? Можа, у росце стабільных чэргаў за штодзённымі таварамі, чэргаў, якія нярэдка ператвараюцца ў бойкі? Ці ў стабільна і імкліва ўзрастаючым жалаванні партыйных функцыянераў? Ці не здаецца вам дзіўным, што вы атрымліваеце менш, чым тыя, хто энергічна каваў застой і цяпер знаходзіцца ва ўладзе?

Трэцяе пытанне: у чым вы ўбачылі «попирание исторической правды и здравого смысла», а таксама паклёп на ленінскую партыю з боку Зянона Пазняка? Вы, відаць, думаеце, што лепшую частку народа нашай краіны на працягу дзесяцігоддзяў браў за горла і ставіў да сценкі, пакрываў тэрыторыю сеткай канцлагераў і заліваў краіну крывёю нехта адзін усемагутны са сваімі памагатымі, прычым беспамылкова і ў парадку асабістай ініцыятывы? Магчыма, вы зможаце каго-небудзь пераканаць, што ўся гэтая гіганцкая бойня не асвячалася пэўнай ідэалогіяй?

Пытанне чацвёртае: хто ж каго асляпляе ў чарнобыльскіх справах — лідэры БНФ самі сябе ці партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва Беларусі — усіх астатніх? Альбо вам невядома, што ў 1987 і 1988 гадах цяперашнія кіраўнікі рэспублікі, ведаючы ад вучоных праўду, маўчалі пра чарнобыльскія справы? Вымушаны яны былі загаварыць пра іх пасля публічных выступленняў Алеся Адамовіча і іншых сапраўдных патрыётаў. Вы б спыталі ў іх, гэтых кіраўнікоў, чаму з Чарнобыльскага рахунку № 904 Дзяржбанка СССР, які сабраў амаль 543 мільёны рублёў ахвяраванняў, Беларусь атрымала толькі 3,68 працэнта! Дык каму ж павінна быць горш ад таго, што аб гэтым уголас гаворыць БНФ?

Запэўніваючы вас у сваёй павазе, лічу нялішнім паведаміць, што ў начной 4-гадзіннай размове са мной і двума маімі калегамі 19 чэрвеня 1989 года цяперашні сакратар ЦК КПБ А. С. Камай быў вымушаны паказаць нам сапраўдную карту радыяцыі па некалькіх забруджваючых радыенуклідах з грыфам «Сакрэтна, выканана ў адным экземпляры». У адкрытым жа друку публікаваліся дадзеныя толькі па цэзію-137.

Дык у чым жа вы бачыце — гэта маё пятае пытанне — эфектыўнасць дзеянняў цяперашняга кіраўніцтва рэспублікі «па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай бяды», якая, дарэчы, ад майго месцажыхарства знаходзіцца значна бліжэй, чым ад вашага? Толькі давайце чэсна, па-ветэранску.

**І. КАРАБАНАЎ,**
**дацэнт Мазырскага педінстытута імя Н. К. Крупскай, кандыдат біялагічных навук, ветэран працы, член КПСС з 1961 года, выдатнік народнай асветы БССР.**



Малюнак А. ГУРСКАГА.

□

ДЛЯ АДСЯЛЕННЯ жыхароў з забруджаных раёнаў патрэбна жыллё, якога катастрафічна не хапае. А ў гэты ж час Мінгарвыканкам прымае рашэнне аб зносе моцных, здаровых дамоў па вул. Кавальская, Нова-Уфімская, Вузаўская і інш.

А калі зірнуць на гэтую праблему з іншага боку, вачамі людзей, якія пацярпелі ад аварыі, дык, думаецца, са зносам можна было б і пачакаць. Тым больш, што гэтыя дамы пабудаваны ў 50-х гадах і могуць яшчэ паслужыць людзям.

Адных дабрачынных канцэртаў і суботнікаў недастаткова. Можна яшчэ і не выкідваць грошы на знішчэнне добротнага жылля ў такі цяжкі час.

**Г. РУДЗЯНКОЎ,**
**інжынер.**
г. Мінск.

□

Я З'ЯЎЛЯЮСЯ ўдзельнікам Асіповіцкага хору ветэранаў вайны і працы. 14 сакавіка 1990 г. перад чарговай рэпетыцыяй здарылася такое, што абурыла мяне, выбіла з раўнавагі.

Кіраўнік хору Ю. Камісараў і наш «імпрэсарыо» П. Санковіч, даведаўшыся, што я з'яўляюся сябрам БНФ «Адраджэнне», «ветліва прапанавалі» мне выйсці са складу хору. Маўляў, «вы нас ганьбіце сваімі фашысцкімі значкамі» (маецца на ўвазе значок з «Пагоняй», які я нашу).

Адбывалася гэта ў прысутнасці многіх ветэранаў, у прыватнасці, афіцэраў у адстаўцы — членаў савета хору. І ніхто з іх не ўступіўся за мяне. Атрымліваецца, што калі я ваяваў, не шкадуючы жыцця на франтах Вялікай Айчыннай, а пасля сумленна працаваў, ніхто асабліва маімі перакананнямі не цікавіўся. А цяпер, у часы перабудовы, галоснасці, плюралізму думак, я стаў ворагам?..

Вельмі прашу надрукаваць мой ліст. Можа, кіраўнікі хору папросяць у мяне прабачэння? Мо савет хору таксама адумаецца?

**У. І. АЛЬШАНІК,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**
г. Асіповічы.

□

23 САКАВІКА г. г. выйшаў экстраны спецвыпуск весніка «Шаг» — (выданне райкома партыі Цэнтральнага раёна г. Мінска) з артыкулам Т. Бумажковай пра Беларускі народны фронт і замежнага паддана Надсана. Артыкул вытрыманы ў лепшых традыцыях часоў Вышынскага. У гэтым жа выданні прачытаў аб тым, што Мінгарвыканкам зарэгістраваў новую грамадскую арганізацыю: культурна-асветніцкае таварыства «Айчына» («Отечество»). У інтэрв'ю з яго кіраўніком В. Дашкевічам гаворыцца, што ні арганізацыйна, ні ідэйна гэтае таварыства ні з «Памяццю», ні з якой-небудзь іншай падобнай групоўкай не звязана. Аднак яго члены не хаваюць, што ідуць па шляху аб'яднання з патрыятычнымі сіламі Расіі і Украіны. «Айчына», сказаў В. Дашкевіч, супраць народнага фронту. КПСС — вось адзіная сіла, здольная вывесці краіну з крызісу.

Пасля прачытання інтэрв'ю мне захацелася бліжэй пазнаёміцца з гэтым таварыствам і 30 сакавіка ў 18 гадзін я ўжо сядзеў у аўдыторыі № 223 Дома палітасветы (уваход свабодны), дзе сабралася чалавек 40. З'явіўся лектар і прадставіўся: Федзькін Аляксандр Васільевіч, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Мінскай вышэйшай партыйнай школы, былы выкладчык школы КДБ.

З першых жа слоў лектар, што называецца, «узяў быка за рогі» і абрынуўся на міжнародны імперыялізм і сіянізм, як на адзіных віноўнікаў усіх нашых бедаў. Яны, маўляў, распальваюць у СССР міжнацыянальную варожасць, нацкоўваюць беспартыйных на камуністаў, спрабавалі навязаць планы павароту сібірскіх рэк, вывезці за мяжу танкі і стратэгічную сыравіну, вінаватыя ў тым, што паліцы нашых магазінаў пустыя і г. д. Для вядзення падрыўной работы сіяністы, аказваецца, укараняюць у кіраўніцтва СССР сваю агентуру.

Моцна перапала ад А. Федзькіна Л. Троцкаму, Я. Свярдлову, В. Ландсбергісу, А. Бразаўскасу, Б. Ельцыну, Ю. Афанасьеву, Я. Еўтушэнку, Ю. Сямёнаву...

Потым А. Федзькін, намаляваўшы на дошцы шасціканцовую зорку і растлумачыўшы, што гэта сімвал яўрэйскага светаўладарніцтва, сцёр яе са словамі: «Не хачу, каб ён паганіў нашу дошку». У адказ зала выбухнула апладысментамі.

Няма больш жадання пераказваць усю гэтую бязглуздзіцу. Скажу толькі, што мэта «лекцыі», як я зразумеў, заключалася ў тэарэтычнай падрыхтоўцы кадраў «таварыства». Чым жа адрозніваецца «Айчына» ад «Памяці»? Можна сказаць — нічым.

**А. ШАРШНЁЎ,**
**юрысконсульт.**
г. Мінск.

Віктар ЖУК

# На мяжы, парослай чарнабылам...

**У «зоне адчужэння» разам з Віктарам КАЗЬКО, альбо Рэпартаж з «таго свету» і — размова пра гэты**

*«...Хай гэтым ваенным полымем ахоплены адзін толькі наш горад, сама вайна ні ў чым не саступае сусветнай. Яна больш за сусветную, таму што ваюем мы. Нас заб'юць — і канец свету. Што ж гэта за свет, калі ў ім няма мяне».*

**В. КАЗЬКО. «Но пасаран».**[1]

— ПАМЯТАЕШ сумны жарт таго часу, калі над намі гайдаўся лозунг: «Усё — дзеля чалавека!», і мы, хто моўчкі, хто ўголас, дадавалі: як завуць гэтага адзінага, канкрэтнага, чалавека? Для яго сапраўды ў нашай агульнай хаце было ўсё. А што для звычайнага, маленькага, чалавека? Яму людскага месца не знайшлося. Забыліся пра яго дойліды і будаўнікі будучыні. Таму і не трэба гэтая будыніна нармальнаму чалавеку. Яна прыгнятае яго. І ён пачаў яе нішчыць. Вось яна з трэскам і валіцца. Не вытрымліваюць ні дах, ні сцены, ні падмурак... Тонуць караблі, рвуцца газаправоды, гараць бібліятэкі... Чарнобыль у гэтым ланцугу як найбольшая з заваяваных вяршынь.

Усё ясна? Ды не, якраз нічога і незразумела. Найперш, як жа гэтак атрымалася? Бо задумана было нібыта няблага. І чаму столькі працягвалася? Гэта для гісторыі семдзесят гадоў — імгненне. Для чалавека — усё жыццё...

Так пачалася гэтая размова з Віктарам Казько.

ЁН ТОЛЬКІ што напісаў невялічкую аповесць, замежная назва якой нагадвае ўсім вядомы дэвіз той грамадзянскай вайны, што папярэднічала другой сусветнай: «Но пасаран!» Аднак пераклад, як заўважае сам Казько, не патрэбны яшчэ і таму, што на ўсіх мовах свету словы гэтыя аднолькавыя і ўсім зразумелыя. Апавядае новы твор пісьменніка пераважна пра дзяцінства пакалення, чыя сталасць пазначана Чарнобылем. З гэтага пакалення і сам ён, Віктар Казько. І хаця на старонках аповесці няма слова «Чарнобыль», чытач, які цяпер штодня адчувае атрутны подых «зоны», напэўна падумае, адкуль яна пайшла. Маю на ўвазе не тэхнічны бок катастрофы, бо пра гэта мы ўжо нямала ведаем. Казько звяртаецца да сацыяльных вытокаў Чарнобыля. І шукае карані таго буйнасцябловага шматгадовага пустазелля, якое палешукі трапна называюць чарнабылам. Менавіта ягонае насенне нясуць з сабой, у сваіх душах, героі аповесці. І варта толькі кінуць гэтае «зерне» на ўгноеную глебу... Пісьменнік па-мастацку даследуе сувязь чарнабылу духоўнага з тым, смяротна небяспечным, брудам радыяцыйным, які сёння абмяжоўвае нармальнае жыццё ўжо на палове зямлі беларускай.

Прынамсі, гэтак прачытаў аповесць я. Для гэтага меў падставу. Як і раней, калі я ўваходзіў у ягоную «хату», пабудаваную паводле кніжных законаў, — у свет аповесці «Суд у Слабадзе» ці раманаў «Неруш», «Хроніка дзетдомаўскага саду», зноў з'явілася асабістая патрэба спаткацца і пагутарыць з аўтарам у хаце не ўяўнай. Бо, апроч эмацыянальнага напалу вобразаў і філасофскай глыбіні роздуму, маюць творы Казько і гэтую адметнасць: яны дапамагаюць знайсці адказы на адны, надзённыя, пытанні і адначасова нараджаюць новыя, якіх не менш.

Ды толькі Казько не любіць доўгіх гаворак за пісьмовым сталом. І звычайна запрашае мяне паехаць туды, дзе ён нарадзіўся, дзе дыхае паветрам свайго маленства, дзе п'е з крыніцы сакавітай народнай мовы, далучаецца да клопатаў сваіх землякоў, якім, мяркуе, абавязаны лепшымі старонкамі сваіх твораў. У гэтых вандроўках ён і раскрываецца як найцікавейшы суразмоўца.

Вось і зараз мы паехалі на Палессе. Аднак цяпер гэта была зусім іншая дарога, не тая, што да красавіка 1986-га. І ў размове нашай, як і на колах машыны, мы набліжаліся ўжо не да найпрыгажэйшай прасторы ўздоўж Прыпяці, а да «таго свету», што патыхае навокал нябачнай смерцю. Наперадзе была паслячарнобыльская «зона».

РАЗ-ПОРАЗ, асабліва калі мы ўзляталі на пагоркі, Казько, як і належыць вадзіцелю, пазіраў у люстэрка задняга агляду. Аднак рабіў гэта так засяроджана, нібы там, у імжыстай далечыні, куды імкліва сцякала наша сённяшняя дарога, бачыў ён і нешта такое, чаго не заўважаў я, маладзейшы... Дык мо таму яшчэ ў новай аповесці зноў вяртаецца ён у маленства, што адтуль не так ужо й далёка да тае гістарычнае мяжы, ля якой закладзены падмурак нашай «хаты», скуль яна пачала будавацца нанава як «адна асобна ўзятая», вакол якой планаваўся райскі сад?..

— Сапраўды, каб зразумець прычыны развалу і разрухі, што пануюць сёння ў гэтай «хаце», трэба заглыбіцца ў мінулае і ўзяць на пробу рэчыва «падмурку». Іначай мы і надалей будзем балбатаць пра «асобныя недахопы» будаўніцтва, як быццам у астатнім усё добранька і хораша. Куды ўжо лепш: Чарнобыль — на двары. І гэта не выпадак, а вынік усіх нашых папярэдніх дзеянняў, пачынаючы з падыходу да будоўлі. З узаемаадносін будаўнікоў. Я пра тое, што катастрофа эканамічная, тэхнічная і экалагічная бязлітасна выявіла іншую — сацыяльную, духоўную і маральную. З яе пачалося. Усё ж пачынаецца з чалавека: і дабро, і зло.

**— Урэшце, да гэтай жа высновы прыйшлі і спецыялісты, якія даследавалі прычыны чарнобыльскага выбуху: найменш трывалым звяном у ланцужку «тэхнікі бяспекі» быў сам чалавек. І той акадэмік, што «прабіў» укараненне недасканалага тыпу рэактара, і той, хто «эканомна» праектаваў і будаваў АЭС, і той, хто праводзіў злачынныя «эксперыменты» ў красавіцкую ноч. І кожны з «атамшчыкаў», што нібыта для народа шчыраваў, як высветлілася, дбаў найперш пра сваё: пасады, прэміі, званні...**

— Ды ўвогуле ўсе мы так або іначай пра гэта дбаем. Тут галоўнае, каб твая, асабістая, мэта спалучалася з агульнай, грамадскай. Самае ж жахлівае, што адбылося з намі задоўга да Чарнобыля, дык гэта менавіта не супадзенне «свайго» і «нашага». Адзін выйграе за кошт астатніх, а ў выніку страта, што мяжуе з пагібеллю — для ўсіх...

Бяда заўсёды разам з намі. Бо яна ў свядомасці, у яго раздвоенасці: адно пішам — для «іх», а другое, зусім іншае, у галаве трымаем — для сябе. Гэтае вар'яцтва і вяло нас напрасткі да Чарнобыля.

**— Тады падзеі тваіх твораў адбываюцца як бы на прамежкавых станцыях гэтага шляху. І апошняя аповесць ці не найбольш сімвалічная. Бо «Но пасаран» — гэта яшчэ і мянушка канкрэтнага чалавека, хлопчыка з замурзанага пасёлка чыгуначнікаў. Аднагодкі пазбягаюць называць яго па-людску, таму што для ўсёй іх каманды ён — першы змагар за сусветную рэвалюцыю. Гэта мара маленства, а ў дарослым жыцці ёй супрацьстаіць камуніст, дырэктар мясцовай базы, якому ні пасада, ні партбілет, ні заклікі не перашкодзілі ўкрасці ў пасёлка і дзяржавы мільён. Мабыць, так ацаніў ён сабекошт партбілета. Ці, нарэшце пабудаваў камунізм у адной, асобна ўзятай, хаце — сваёй, уласнай... Аднак не гэты пярэварацень здзіўляе. Колькі падобных прыкладаў бачым мы ў жыцці. Звыкліся ўжо... Вось пякучая загадка: як і чаму віхрасты хлопчык Янночка стаў Но Пасаранам?**

— А што ж ён бачыў вакол сябе з таго часу, як расплюшчыў вочы? За тое, што недзе ў іншым жыцці проста недарэчна і смеху варта, тут людзі выкручваюць адзін аднаму рукі і крышаць галовы. Таму што з маленства ведаюць толькі адно: барацьба, барацьба, барацьба. Сценка на сценку. Голы голага гняце і крычыць: кашулю не парві! Спрадвечныя каштоўнасці жыцця там, дзе яно — у добрых адносінах паміж людзьмі, тут жа — усё навыварат. Нейкі ўсеагульны зрух па фазе, які распачаўся задоўга да Янночкавага нараджэння.

Прыгадаем выдатнага знаўцу душы чалавечай — Дастаеўскага. З якім прадчуваннем бяды раздумваў ён: «шырокі, шырокі чалавек...» Бо выразна ўсведамляў памеры таго цьмянага боку «самага дасканалага» стварэння прыроды, які чалавечае супольніцтва на працягу тысячагоддзяў цывілізаванага развіцця аддзяляла своеасаблівай мяжой маральных забаронаў. Найперш: «не забі!» У нашым жа «выключным» грамадстве, будаўніцтва якога гэтак урачыста ўсім абвясцілі, спрадвечную мяжу адразу пераступілі. «Выключылі». Маўляў, жыццё — гэта барацьба класаў, і маральна ўсё, што забяспечвае ўладу «класу найперадавому», спрыяе дасягненню яго, вядома ж, высакароднай мэты — «усеагульнага шчасця». Нават забойства таго, «хто не з намі». Вось так і вырваўся наверх той першабытны, чорны, сатанінскі, спапяляючы пачатак душы. І пайшло-паехала. Ажно да пошугаў радыяцыйнага полымя Чарнобыля. Да мяжы існавання жыцця наогул.

**— Чарнобыль, дарэчы, падказвае свой, адпаведны, вобраз. Пад уздзеяннем выпраменьвання ўсепранікальнай, як радыяцыя, разбуральнай ідэі парушыўся «генетычны код» арганізму чалавечага супольніцтва. Ген варожасці ўзяў верх. Пачаліся мутацыі. Яны ж, як сведчаць навукоўцы, найбольш праяўляюцца ў трэцім пакаленні. І вось тут злавеснае супадзенне: менавіта на гэтае пакаленне прыпадае Чарнобыль. Калі, вядома, пачынаць адлік з часу закладкі «падмурку» названай хаты. Тут ужо поўная згода з крылатай фармулёўкай: ідэя стала матэрыяльнай сілай. І стварыла..., «зону».**

— *Мара пра нейкі рай на зямлі* — ідэальнае грамадства — заўсёды была ў нашым народзе. Мабыць, таму сацыяльным эксперыментатарам так лёгка ўдалося навеяць велізарнай колькасці людзей гэты «сон залаты»... Мару злучылі з прывідам. І «новы чалавек» сапраўды нарадзіўся. А як яго гадавалі? На маіх вачах соткі абразалі пад вуглы хаты, звodзілі з падворку кароў, парсюкоў, гусей... «Прыватніцкую» псіхалогію знішчалі. А зараз схамянуліся: патрабуецца ініцыятыўнасць...

Пачалося, я лічу, з «ідэйнага», чорна-белага погляду на свет, згодна якому і адбываўся падзел народа на «сваіх» і «чужынцаў». Маніякальнае правядзенне *лініі на класавую барацьбу* і вызначыла новую мяжу, што прайшла нават праз першаячэйку грамадства: брат паўстаў супраць брата, сын данёс на бацьку, жонка — на мужа...

Нармальнае жыццё скончылася. Надышла трагічная раз'яднанасць і адчужанасць аднаго чалавека ад другога. Інакш кажучы, тая ж вайна, якая і пасля дакладна абмежаванай гісторыкамі грамадзянскай, працягвалася, па сутнасці, у нашай «хаце».

Ваеннымі дзеяннямі супраць свайго ж народа былі і калектывізацыя, і генацыд сталінізму, і пазнейшае ціхае задушванне жывой думкі ў «дурдоме». Агонь гэтага пажару часам толькі прытухаў, хаваўся ў прысаку. І зноў разгараўся, як *толькі падкідвалі «дроў»*. А іх мы шчодра ламаем і ў гаспадарчых справах, і ў міжнацыянальных адносінах, і ў дачыненні да культуры. І ўжо тут ніводзін знешні вораг так не нашкодзіў, як свае «слугі народа». Тыя, «упаўнаважаныя», што заўсёды нас, жабракоў, суцяшалі: маўляў, як бы кепска вы ні жылі, затое вайны няма. А мы таму і жылі так, што яна была.

Аб тым жа, што гэтая зацягнутая «кампанія» і ў наш час не скончылася, сведчаць вядомыя падзеі кастрычніка восемдзесят восьмага ў Мінску. Я называю іх усё тым жа «дзікім паляваннем каралёў сталіншчыны» — на мірных людзей, з вайсковай зброяй...

І НЕ БЫЛО пільнай патрэбы шукаць новыя вобразы да разваг Віктара Казько, бо іх выдатна ілюстравала ўсё, што бачылі мы, калі даехалі да «лініі фронту». Менавіта пра ваенныя дзеянні нагадвалі БМП і іншая вайсковая тэхніка вакол «зоны». На аддаленым ад дарогі ўзлеску тырчалі, скіраваныя ў блакіт неба, нібы тонкія апаленыя дрэвы, стваліны зенітных гармат. Ці не з іх разбівалі радыяцыйныя хмары, каб попел Чарнобыля асыпаўся на галовы людзей тутэйшых, а не на нейчыя ў сталіцах? Калі так, дык хіба гэта не той жа, нядобрай памяці, «заградатрад»?! І што потым застаецца ў душы чалавека, які выконвае такі загад?

А вось і калючы дрот, які, здаецца, цягнецца з далячынь ГУЛАГа — крок за крокам на бетонных дыбах-слупах — да далягляду будучыні. Сцераглі вароты з шыльдай «Запретная зона. Проход воспрещен!» маўклівыя і насцярожаныя паўднёвыя салдацікі. І ўжо тут аніяк не пазбегнуць аналогіі, бо яна літаральна праціная: яны, азербайджанцы і армяне, тут, калі нашы, беларусы, там — на мяжы дзвюх ахопленых узаемнай варожасцю рэспублік. І там, і тут насуперак заканадаўству і розуму выконвае «свой абавязак» войска, якое стваралася для абароны ад ворага іншаземнага.

А яшчэ мы сутыкнуліся з дзіўнай тайнай. Нібыта ваеннай і ў той жа час — усім знаёмай. А на свеце, як заўважыў Казько на гэты конт, няма нічога больш жахлівага за тайну, якую ведаюць усе. І ўсе маўчаць: ахоўваюць тайну. Вось гэта сапраўдная, свядомая, тайна.

Ехалі цераз Гомель, дзе даведаліся: толькі што адбылося пасяджэнне бюро абкома партыі, на якім разглядалі становішча ў забруджаных раёнах. І ў тым ліку ў Брагінскім, куды кіраваліся мы. Натуральна, зацікавіліся гэтымі матэрыяламі. Звярнуліся ў абком. Нам гэтак жа натуральна, будзённа і звыкла адмовілі.

Што ж хавала партыйнае бюро ад нас, дарэчы, членаў партыі, толькі радавых, і ад вас, *нашы чытачы*? Тое, што павінны ведаць усе, хто мусіць жыць у «зоне» і вакол яе. У прыватнасці, што не зніжаецца радыяцыйнае забруджванне раслінаводчай і жывёлагадоўчай прадукцыі. Не стае чыстых кармоў, і ўжо не толькі ялавічына, але і свініна назапашвае атруту. Належнага ж кантролю за чысцінёй прадуктаў няма. *Не лепш выглядаюць* і іншыя «мерапрыемствы» па ліквідацыі вынікаў Чарнобыля. Напэўна, таму і сталі «тайнай».

Дарэчы, знаёміць з гэтай інфармацыяй забараніў сам «першы». Свядома не называю ягонае прозвішча. Бо ўпэўнены, што гэта не мае істотнага значэння. Відаць, у падобным становішчы, апавіты апаратнай арматурай сістэмы, гэтаксама «жалезабетонна» паводзіў бы сябе і нейкі *больш «мяккі»* кіраўнік. Дый не працуе больш той чалавек у Гомелі, атрымаў павышэнне і наступнае званне, якое адпавядае генеральскаму. Мо таму, што старанна і без агаворак выконваў свой «салдацкі» абавязак — усе загады зверху? Што Казько на гэта скажа?

— Дзікае паляванне, тым больш доўгае, амаль бесперапыннае, — працягваў ён думку, — выпрацоўвае і своеасаблівы тып палітыка - паляўнічага. Філасаф Бярдзяеў нават назваў гэты тып новым антрапалагічным. Гэты «мутант» распаўсюджвае ваенныя метады, найперш гвалт і разбой, на пабудову ўсяго жыцця. Такія ж вартасці, як праўдалюбства ці міласэрнасць, падобныя лідэры адкідаюць на абочыну свайго шляху. І да людзей, што працягваюць жыць паводле «састарэлых» *каштоўнасцей*, ставяцца з недаверам, пагардай і нянавісцю. Дарэчы, менавіта гэтыя якасці здаўна песцілі ў сабе «прафесійныя рэвалюцыянеры»...

Мо нехта і будзе аспрэчваць жорсткія высновы пісьменніка. Ды толькі не я. Іначай як мне ўцяміць сэнс усім вядомай «тайны»? Свядомасць адмаўляецца пагаджацца з яе існаваннем. Няўжо нават у агульнай бядзе такіх памераў *«но пасаранцы»* працягваюць падзяляць народ на «сваіх» і «чужынцаў»?! Першым, далучаным да клана — дакладная інфармацыя, чыстыя прадукты, патрэбныя лекі, спецыяльнае абслугоўванне... Другім жа — межы «зоны», па-за якія «яны» — не пройдуць! Прафесійныя палітыкі, якія ў сваім вузкім коле, амаль як некалі — «тройкай», пазбаўляюць усіх астатніх хай адной толькі праўды аб становішчы ў забруджаных мясцінах, па сутнасці, зноў выносяць жудасны прысуд мільёнам людзей. Толькі з адтэрміноўкай выканання... Калі ж меркаваць па паліцах мясцовых крамаў, дык вольна набыць

**(Працяг на стар. 6—7).**

[1] «Полымя», 1990, № 4.

# На мяжы, парослай чарнабылам...

(Пачатак на стар. 5).

на «магільныя» надбаўкі да зарплаты можна хіба што дамавіну.

Загадка часу абнаўлення: дзеля якога «чалавека» ўсё гэта зараз?!

АДНАК мы ехалі далей. На Гомельшчыне да нас і, вядома ж, — да размовы далучыліся спадарожнікі. Адзін з іх — «беларускі Цыялкоўскі», дзівак-вынаходца Анатоль Юніцкі. Ён распрацоўвае новы «Ноеў каўчэг» — касмічны, на якім збіраецца выратаваць ці не ўсё чалавецтва адразу. Займацца гэтым у Юніцкага ёсць асабістая падстава: вёсачка Крукі ў Брагінскім раёне, дзе ён нарадзіўся, зараз у самай чорнай ад радыяцыйнага бруду «зоне». Казько зацікавіўся Юніцкім, бо заўважыў у ягоным праекце нейкае святло надзеі ў той, здавалася, бязвыхаднай цемры, дзе апынуўся зараз, у час працы над новым раманам — пра Чарнобыль. А Юніцкі скарыстаў рэдкую мажлівасць разам з намі прабіцца ў «зону», наведаць радзіму. Аднак, каб трапіць туды, за дрот, нам спатрэбілася дапамога «сталкера», які мае пастаянны пропуск ва ўсе куткі раёна, — першага сакратара Брагінскага райкома партыі Аляксандра Пракопава. Той найперш прапанаваў перасесці ў свой «газік», бо наша машына, растлумачыў ён, у «чорнай» зоне так набярэцца «блох» радыяцыі, што ў Мінск яе потым не ўпусцяць. Дый шафёру Пракопава карцела нас везці. Фёдар Бабранок таксама ўраджэнец Крукоў. І сямейнікі — дзед і маці, — якія не былі там з часу эвакуацыі, наказалі яму паглядзець: што там з роднай хатай?

Да сустрэчы з Пракопавым мы ўжо пачулі ад сваіх калег і мясцовых жыхароў, што ён — нетыповы «апаратчык». Ці недысцыплінаваны салдат партыі, які ў першыя паслячарнобыльскія дні парушыў няпісаны статут унутранай і каравульнай службы. Маштаб небяспекі Пракопаў усвядоміў адразу, дзякуючы знаёмым, якія працавалі на АЭС. І даў загад распачаць эвакуацыю дзяцей і цяжарных жанчын з тых жа Крукоў якраз тады, калі кіраўнікі-суседзі вывозілі людзей на першамайскую дэманстрацыю. Асцярожныя і паслухмяныя атрымалі потым ордэны і павышэнні, пераехалі жыць у чыстыя сталіцы. А ратаўнік Пракопаў — званне «панікёра», з якім тут, у Брагіне, і застаўся. Дарэчы, гаварыў з намі Пракопаў на роднай мове. І, як высветлілася, няблага ведае сучасную беларускую літаратуру.

З сабой у машыну Пракопаў прыхапіў дазіметр: «Гэта для вас, хлопцы. Каб пераканаліся, што быць у чорнай зоне не можна больш за гадзіну». Сам жа ён матаецца па раёне без дазіметра. Бо дзве трэці жыхароў Брагіншчыны, якія яшчэ не выселены, гэтых прыбораў пакуль не маюць. Зараз сам Пракопаў для іх своеасаблівы «вымяральнік небяспекі», і калі ўжо ён з дазіметрам, дык справы — дрэнь.

Дарэчы, стрэлка дазіметра амаль увесь час мітусілася ля апошняй рыскі. Упершыню яна зашкаліла, як толькі мы ад'ехалі ад «прыфрантавога» Брагіна на нейкіх 300 метраў і заўважылі нязвычны знак «Въезд на обочину запрещен». Наш гаспадар дадаў, што абапал гэтай шашы збіраўся і вывозіўся 15-сантыметровы верхні пласт глебы, асабліва забруджаны радыяцыяй. А зараз непадалёк ад дарогі былі ўзараныя палеткі, цераз якія поўз трактар з нейкім прычапным агрэгатам. Якім — разгледзець было цяжка, бо па-над трактарам кучаравілася хмарка чорнага пылу, і ветрык цягнуў яе да шашы...

**— Вось яны — цэзій, стронцый і плутоній разам узятыя, — кіўнуў у той бок Пракопаў. — Ляжаць бы ім там, куды трапілі. Калі ўжо такое здарылася. Аднак па-ранейшаму на ўсёй тэрыторыі вакол Брагіна працягваецца паляводства. Яго ж без пылу не бывае... Таму ўвесне і ўлетку мусім зноў і зноў мыць дарогі і дамы. А ўвосень шукаем, куды падзець брудныя «дары палёў».**

Вядома, разумеюць людзі, што няма плёну ад іх працы. Толькі шкода: разносіцца радыяцыя. Далёка за межы Брагіншчыны. Трэба тэрмінова мяняць профіль раённай гаспадаркі. Напрыклад, на прывазных чыстых кармах весці жывёлагадоўлю. А палі засеяць шматгадовымі травамі, каб затрымаць радыяцыю ў зямлі.

«трапнае» параўнанне: выдаткі, патрэбныя на Чарнобыль, складаюць кошт дзвюх БАМаў — «дарог у будучыню». Мы ж зараз ведаем, што была тая дарога — у нікуды... І не трэба забывацца пра народныя рублікі, раней сабраныя на дапамогу ахвярам — больш за 600 мільёнаў. Дзе ж яны? Як скарысталі частку іх — бачым, ільвіную ж долю аддалі — і каму? — забойцу: атамнаму ведамству. Ці не атрымаецца гэтак зноў?

справа, я лепш зразумеў, калі нядаўна прачытаў у той жа цэнтральнай газеце, якая спявала салоўкам у самыя чорныя для нас пасля выбуху дні, артыкул «Атомный заповедник». Нібыта слушная там прапанова: паназіраць за раслінамі і жывёламі ў зоне. Аднак думка працягваецца далей: з пазіцый «чыстай» навукі было б добра атрымаць унікальны матэрыял аб уплыве радыяцыі, асабліва невялікіх дозаў на працягу доўгага часу, на людзей. Для «чысціні» ж эксперыменту — каб мець потым падставы для абагульненняў — трэба не менш пяцідзесяці тысячаў «паддоследных» удзельнікаў. Яшчэ лепш — мільён... Тады два мільёны чалавек, якія мусяць сёння жыць на забруджанай зямлі ў нашай рэспубліцы, вядома, удвая лепш. Калі працягваць гэтую людаедскую логіку, дык можна ахвяраваць і ўсім дзесяцімільённым народам. Вядома ж, дзеля лепшай будучыні ўсяго чалавецтва...

Мараль зноў падмяняецца ідэяй нібыта навуковай і «адзіна правільнай». Тады давайце называць рэчы сваімі імёнамі: не «запаведнік», а рэзервацыя для тых, хто глытае радыяцыю!..

Дарэчы, вялікая паслячарнобыльская зона падзяляецца на тры часткі. І калі межы апошняй, да якой мы, нарэшце, пад'ехалі —«зоны адчужэння», што за дротам, ці прамежкавай —«зоны адсялення» вызначаны дакладна, дык дзе пачынаецца і заканчваецца першая — «зона жорсткага кантролю», у якой прапісаны брагінцы, мы так і не заўважылі. Як не зважаюць на тыя нязменныя прыкметы свайго побыту, з якімі сутыкаюцца штодня і паўсюдна.

500 квадратных кіламетраў.

Потым мы заходзілі ў пакінутыя сялянскія хаты. І бачылі ў самаробных рамках іншыя, забытыя ў мітусні эвакуацыі, фотакарткі — хлапчукоў у «афганскай» форме. Яны ў той час па загаду «но пасаранцаў» яшчэ выконвалі «інтэрнацыянальны абавязак»... Бадай, на гэтым можна было б і скончыць ваенныя аналогіі, каб не пазнейшыя сляды людзей, якія заўважылі мы ў хатах. Усе яны былі ўшчэнт абрабаваны.

Колькі ўжо гаворак вёў на гэты конт Пракопаў і ў Гомелі, і ў Мінску... Аніякіх вынікаў. Таму сорамна Пракопаву ездзіць да сваіх землякоў. Бо яны пытаюцца: навошта прыехаў, калі не можаш выратаваць? А той, хто можа, едзе не сюды, а ў замежны круіз. Як ахвяра Чарнобыля. Сапраўды, біты нябітага вязе.

Дарэчы, як жартуе з гэтай нагоды бюракратыя... Просіць сакратар райкома зрабіць у Брагіне належную каналізацыю для дажджавых сцёкаў. А яму ў адказ: «Вось ахне яшчэ адзін рэактар, тады і «ліўнёўка» табе будзе».

Аднак, што ні рабі на забруджанай зямлі, а ўплыў радыяцыі на людзей усё-такі будзе захоўвацца. Калі вырашаць праблему як след, дык трэба перасяляць ці не ўсіх насельнікаў раёна. І касмічнага «кола» Юніцкага» для гэтага пакуль не трэба. Дастаткова звычайнага, бо ёсць жа чыстыя і амаль не заселеныя мясціны на той жа Віцебшчыне... Думка не новая. Чаму ж, зноў-такі, ніякіх зрухаў?

Тут варта прыгадаць названае пасяджэнне бюро Гомельскага абкома. З яго ў мясцовай газеце было сціплае паведамленне, дзе адзначалася, што пад кіраўніцтвам партарганізацыі прамысловасць вобласці, у тым ліку — аграрны комплекс, «спраўляецца з планамі». Ці трэба тлумачыць, аб чым гэты «працоўны рапарт» гаворыць тым, хто ведае, што планы вобласці пасля Чарнобыля ў параўнанні з ранейшымі амаль не змяніліся? І пра што найбольш дбалі гомельскія кіраўнікі, калі на прапановы аб перасяленні людзей у іншыя вобласці адказвалі: «Працоўныя рэсурсы не аддадзім. Хто ж свае планы выконваць будзе?!»

Мабыць, таму і новыя пасёлкі для перасяленцаў ставілі гэтак паспешліва тут жа, на сваёй тэрыторыі, нярэдка побач з «зонай».

АДЗІН такі новенькі гарадок нам сустрэўся. Зграбных дамкоў з усімі выгодамі, пабудаваных нібы пад адміністрацыйную лінейку, мы налічылі 34. І ўсе былі пустыя. Іх так і не засялілі, бо неўзабаве высветлілася, што месца тут таксама забруджанае не менш за тое, адкуль людзей вывозілі. Кошт пасёлка Пракопаў вызначыў у некалькі мільёнаў. А потым дадаў свае «разлікі» Казько.

— Паводле новай дзяржаўнай праграмы, для ліквідацыі вынікаў катастрофы нам, на Беларусі, спатрэбіцца семнаццаць мільярдаў. І рэспубліканскі «апарат» нібыта таксама змагаецца ў Маскве за атрыманне сродкаў. Канечне, абуральна, што Дзяржплан Саюза і Акадэмія медыцынскіх навук аспрэчваюць гэтую суму. Бо на мяжы знікнення цэлая нацыя... Аднак трэба ўлічыць, у чые рукі трапяць гэтыя грошы. Спашлюся на аднаго з нашых мінскіх кіраўнікоў, які знайшоў

Апроч дазіметра, мы мелі яшчэ і другі звышадчувальны «лічыльнік» — у свядомасці, які вызначаў ступень іншага, не менш небяспечнага для жыцця забруджвання... Для мяне гэты «адлік» быў звязаны з кнігамі і выступленнямі Казько, дзе «стрэлка» даўно ўжо папярэджвала аб небяспецы. Прыгадаю хаця б раман «Неруш», таленавітае сведчанне пра «танкавы» націск на Палессе бульдозераў меліяратараў. Праўду пра Чарнобыль Казько таксама сказаў уголас адным з першых, у чэрвені 1986-га, з трыбуны VIII з'езда Саюза пісьменнікаў СССР. На той час гэта патрабавала мужнасці, бо, паводле публікацый цэнтральнай прэсы, над Прыпяццю заліваліся салаўі, і шкоды было не больш, чым ад прасвечвання рэнтгенам у паліклініцы... Пісьменнік жа прыгадаў, што Палессе здавён называлі варотамі вайны. І прамова яго была, па сутнасці, пытаннем: няўжо зараз праз гэтыя вароты супраць майго народа распачаўся наступ з прымяненнем найсучаснай ядзернай зброі?! І вось зараз аповесць «Но пасаран», якая сведчыць, што мы сапраўды наблізіліся да апошняй рысы — мяжы. Не толькі таму, што забруджваецца наша зямля. Засмечваецца і разбураецца сама душа чалавека. І таго, хто аддае вар'яцкія загады, і таго, хто іх выконвае.

Мае асабістыя ўражанні ад аповесці і таго, што бачыў у «зоне», паступова спалучыліся ў адну «карціну», у «рамках» якой рэчаіснасць была на мяжы суцэльнага абсурду, і выглядала мо нават больш жахліва, чым некалі ў ГУЛАГу, з якога запазычылі гэтае слова — «ЗОНА». Бо там «зэкі» ўсё ж цешылі сябе надзеяй на нармальнае жыццё, што ёсць недзе па-за дротам, і што маюць будучыню калі не яны, дык іх нашчадкі. Тыя ж, хто жыве ў паслячарнобыльскай «зоне»— яе «гераічныя працаўнікі», — усведамляюць, што пазбаўляюць нармальнага жыцця не толькі сябе, але і сваіх дзяцей, унукаў... І тым не менш трываюць. Цягнуць свой крыж. Што ж павінна было адбыцца з людзьмі, каб яны, ад бога надзеленыя інстынктам захавання свайго роду, сябе так паводзілі? Няўжо сапраўды, як піша Казько, ужо зрабілі з іх «цвікі», якія добраахвотна забіваюцца ў магільную дошку?!

Вось і шафёр наш Федзя, які займаўся трусаводствам, бясстрасна, нібы між іншым, паведаміў, што трусы ў Брагіне гінуць у трэцім пакаленні...

Што ж чакае людзей? Чамусьці маўчыць навука... Вось якое на гэты конт меркаванне Казько:

— Апошнім часам на Беларусь зачасцілі замежныя вучоныя. Усе яны згодны, што Чарнобыль — трагедыя сусветных памераў. А далей, калі трэба падказаць, як ратаваць людзей і прыроду «зоны», пачынаецца нейкае мармытанне. У чым тут

КАНЧАТКОВА дазіметр зашкаліла ў Круках, калі мы зазірнулі ў былую вясковую бібліятэку. Паліцы былі перакулены, кнігі і часопісы раскіданы па падлозе. Адну кніжку, першую, што апынулася пад рукой, я падняў. Здзьмухнуў з вокладкі слой усё таго ж незвычайнага пылу, які нагадвае попел... І тут мяне нібы токам скаланула. Гэта быў Дастаеўскі — «Бесы». Ланцуг, у якім не ставала нейкага звяна, імгненна самкнуўся. Я даведаўся пра паходжанне Но Пасарана.

Якая ўсё-такі шчодрая на злавесныя вобразы «зона»! Паводле гэтага, Верхавенскі і іншыя прыхільнікі самавольства, аб небяспечнасці якіх задоўга папярэдзіў пісьменнік, дацягнуліся-такі і да неабмежаванай улады і да энергіі расшчэпленага атама, што гэтую ўладу забяспечвае. Вынік—Чарнобыль. Ці, як вызначылі навукоўцы, параўнаўшы выкіды радыяцыйных рэчываў,—75 Хірасімаў. І дзве трэці гэтага «боезапасу» абрынулася на Беларусь.

Прынамсі, паралель з творам Дастаеўскага дапамагае лепш уявіць сапраўдны твар тых апекуноў чалавецтва, якія даводзяць, што навука патрабуе ахвяр, і патрабуюць для «ўсеагульнага шчасця» мільён галоў. Гэта логіка «д'ябла» Верхавенскага.

Яшчэ некалькі крокаў па папакойчыку, і на вочы трапляе разгорнуты на каляровай укладцы часопіс з партрэтам аўтара «Малой зямлі», у маршальскай форме, з поўным наборам узнагарод, пераважна баявых... Дарэчы, зямля, што апынулася за дротам толькі тут, на Брагіншчыне, складае

Вартаўнікі «зоны», мо тыя ж салдаты, якія расстрэльвалі радыяцыйныя хмары, нібы акупанты, забралі ўсё больш-менш каштоўнае, што тут заставалася. Нават кафлю са сценаў паздзіралі. У каго зараз «страляюць» ва ўпор гэтыя да рэшты зараджаныя радыяцыяй рэчы?!

Парадокс «чорнай зоны»: адны і тыя ж людзі «ахоўваюць» нас ад небяспекі і вязуць яе да нас на продаж. Як пра гэта гаварылі раней? «Мірны атам — у кожную хату!» Закона ж, на падставе якога можна прыцягнуць за гэта да адказнасці, пакуль няма. Бо маёмасць у «зоне» як бы нічыйная. Таму сапраўдныя межы «зоны адчужэння» часам далёка па-за дротам.

Чарнобыльскі «рэнтген» бязлітасна выяўляе брудныя «плямы» ў душах, на якія мы, прадстаўнікі «новага грамадства», так доўга заплюшчвалі вочы... Вы, чытач, напэўна, таксама чулі сентыментальныя байкі пра старых, якія вяртаюцца ў свае пакінутыя ў «зоне» хаты. Што зробіш: настальгія... Аднак таму ж Пракопаву не да сантыментаў. У адной з маўклівых вёсачак, якую мы праязджалі, ён здалёк заўважыў постаць дзядка, які паспешліва ад нас схаваўся.

**— «Партызан»! — вызначыў Пракопаў. — Гэта жах, што адбываецца... Пенсіянеры з эвакуацыйнымі пасведчаннямі паехалі да сваіх дзяцей у гарады: Гомель, Магілёў, Мінск, Кіеў... Яны мелі права атрымаць кватэры без чаргі. Дзякуючы ім, маладыя палепшылі свае жыллёвыя ўмовы. А потым высветлілася, што бацькі — чужыя сярод сваіх... Прыязджаюць да мяне, просяць прытулак у Брагіне. Аднак яго, вольнага, па-першае, няма. А, па-другое, нават юрыдычна не маем права даць кватэру чалавеку з іншагародняй прапіскай. І вяртаюцца яны ў свае вёскі. Чалавек семдзесят такіх зараз у раёне.**

Першай мы адшукалі хату, дакладней — старэнькую, скасабочаную халупку, дзе адна, без бацькі, узгадавала маці Анатоля Юніцкага. Прайшоўся ён па рыпучых масніцах, па якіх поўзаў яшчэ немаўлятам, дакрануўся рукой да нечакана нізкай столі, сеў на лавачку ля ганка і заплакаў... Разгаварыўся Анатоль потым, калі мы ўжо кіраваліся ў другі канец вёскі, да Федзінай хаты. Ён выкладаў нам ідэю свайго вынаходства— агульнапланетнага «кола», з дапамогай якога можна выдаліць у космас усю брудную вытворчасць, у тым ліку — электрастанцыі, а людзей вазіць туды працаваць вахтавым метадам.

**— Будаваць такі транспарт і прамысловасць у космасе трэба неадкладна, — спяшаўся пераканаць нас Юніцкі, — бо калі людзі яшчэ паўстагоддзя пажывуць, як раней, дык гэта і будзе трэцяя сусветная вайна, пасля якой месца чалавеку на зямлі ўжо не застанецца...**

Ды толькі пераконваць нас тут, дзе мы адчувалі сябе іншапланецянамі, якія шукаюць на былой Зямлі прыкметы разумнага жыцця, было не трэба.

На вясковым майдане, ля плота канторы саўгаса, ззяла яркімі, пафарбаванымі пад зо-

лата, надпісамі «Да здравствует коммунизм!» і «Слава КПСС!» дыхтоўная Дошка гонару, якую нібы абмінула чорная віхура. Побач стаяў недабудаваны, без даху, Палац культуры, а ў цэнтры плошчы — пастамент... без помніка. Запытальна паглядзелі на Пракопава.

**— Гэтая гаспадарка толькі пачала станавіцца на ногі, — адказаў ён. — Будаўніцтва вось распачалі. І помнік збіраліся паставіць, Леніну... Не паспелі.**

«Помнікам» на бліжэйшыя 300 гадоў — на час паўраспаду мясцовай разнастайнасці радыенуклідаў — стала сама вёска з пустымі вачніцамі хат і амаль цалкам зараслая бур'янам-чарнабылам, які паступова прабіваўся, ламаючы асфальт, і на плошчы.

Казько паглядзеў на Юніцкага з сумнай усмешкай.

— З пункту гледжання тэхнікі ты, пэўна, маеш рацыю. Аднак што ж панясём мы туды, у міжзорную прастору? Якую мараль? І на падмурку якой ідэі будзем там будавацца? Калі цяперашняй, дык што зменіцца? Толькі «зона» пашырыцца. Да касмічных памераў. Трэба перш навучыцца жыць па-людску тут, на Зямлі. Навесці парадак у сваім духоўным «космасе». Утаймаваць ланцуговую рэакцыю разбурэння. І хай «зона», раз яна з'явілася, будзе для нас не запаведнікам, а дапаможнікам: як не трэба жыць. Каб пазбегнуць яшчэ горшай, ужо зусім непапраўнай бяды. Чарнобыль, можа, апошняе нам папярэджанне: гэта менавіта мяжа. Паедзем далей у ранейшым кірунку, да новых «вяршынь», — галовы складзём.

АДНАК было вакол нас і нешта яшчэ, вельмі істотнае, што замінала прызнаць гэтую зямлю безжыццёвай пусткай. Была вясна. Красавік. Прырода прачыналася, выходзіла ў лета. Пачыналі ружавець галінкі дрэў. Зацвіталі сады, якімі здаўна славілася Брагіншчына.

Хараство было казачнае. І душы нашы адкрываліся яму насустрач. Нібыта гэта і быў той даўно абяцаны райскі сад, куды нас, маласвядомых, дубцом падганялі. Бо мы ж нарадзіліся, каб казку зрабіць явай... Ды раптам падаў свой «голас» дазіметр, які адлічыў гранічна дапушчальную дозу. Дый кожны з нас ужо адчуваў, як сталі шурпатымі вусны, а ў горле накруціўся гаркавы клубок, і застукала ў скронях. Нібы «зона» збівала нябачным цвіком два паўшар'і мозга: левае і правае, адно з якіх, паводле навукі, займаецца «тэхнікай», а другое адказвае за мараль.

Няцяжка было ўявіць, што будзе ў гэтым садзе ўвосень. Як будуць пунсавець на дрэвах, ападаць і засцілаць зямлю дыванам прыгожыя яблыкі, налітыя... стронцыем. Пакаштуюць Адам ці Ева такога яблычка і заснуць навекі. Таму, як разумныя ўдовіны сыны, пайшлі мы прэч з гэтага зачараванага саду. Я ж асабіста па дарозе прыгадаў, як у «Хроніцы дзетдомаўскага саду» Казько апісаў сапраўдны эпізод жыцця вёскі свайго маленства. Мужыкі здымаюць бюст «бацькі ўсіх народаў», аднак разбіць яго пабойваюцца, і пасля некатарага роздуму закопваюць пад яблынямі... Зараз, пасля Чарнобыля, гэтая старонка рамана ўспрымаецца як прароцтва. Аднак у той час яшчэ амаль нічога не ведалі пра радыяцыю, якая лёгка пранікае ад каранёў да кароны і дае свае плады.

Не, усё ж гэта не жывая зямля. Бо гэтаксама растуць і пладаносяць дрэвы на могілках. Аднак там ужо «той свет», дакладней, яго мяжа, да якой жывыя прыходзяць толькі зрэдку. Як, дарэчы, дазваляюць наведваць могілкі ў «зоне» на раданіцу. Прывозяць сюды пахаваць і нябожчыкаў, былых жыхароў гэтых мясцін.

Далейшы накірунак руху і размовы падказаў сваім гаспадарскім клопатам Пракопаў. Ён вызначаў наш маршрут: ну як, хлопцы, адразу дадому, ці ўсё ж паглядзім на галоўнага «вінаватага»? Тут непадалёк, на Прыпяці, ёсць месца, адкуль саркафаг — як на далоні...

Сапраўды, куды ж нам, жывым, ехаць з «зоны»?

Што мы выбралі, вы, чытач, ужо напэўна здагадаліся. Бо жыве ва ўсіх нас гэта помслівае жаданне: убачыць зло ў яго канкрэтным увасабленні. Казько, дарэчы, адзначыў гэта ў аповесці «Суд у Слабадзе». Факт, таксама ўзяты з жыцця: у зале, дзе судзілі здрадніка, ваеннага злачынцу, які не ўзнімаў галавы, людзі запатрабавалі: «Пакажыце нам яго твар!»

Здавалася б, навошта мне прыгадваць гэта зараз, калі наша грамадская думка, нарэшце, амаль адказала на першае спрадвечнае пытанне: хто вінаваты ў нашай агульнай бядзе? Аднак засталася звычка ўвасабляць усё зло, што прычыніла нам сістэма размежавання за гады свайго панавання, у твары нейкага аднаго чалавека: то нябожчыка, то былога кіраўніка, а то і цяперашняга...

Прыклад маю канкрэтны, з нядаўняга мітынгу ў Мінску, які напярэдадні выбараў арганізаваў Беларускі народны фронт. Галоўным болем, які агарнуў сэрцы людзей у той дзень на плошчы Леніна, быў, канечне, Чарнобыль. І калі на трыбуну выйшаў кіраўнік рэспублікі, яго сустрэлі крыкамі абурэння. Нібыта толькі ён, адзін, быў за ўсё ў адказе. Са шквалу галасоў найбольш моцна вылучаўся адзін: «Судзіць яго!».

Небяспечная прыкмета для ўсіх, хто ведае айчынную гісторыю. Ці не занадта дарагім будзе кошт «новага» жыцця, да якога розныя бакі раз'яднанага грамадства клічуць новымі лозунгамі, у якіх лёгка распазнаць усё той жа: «Но пасаран!» І крочаць з ім, нібы ў псіхічную атаку, не толькі «апаратчыкі-партакраты». Ці не тое ж з другога, супрацьлеглага боку?..

Адзін мой знаёмы з новых, «нефармальных», людзей, кандыдат у Вярхоўны Савет, ганьбіў як мог «апарат» і абяцаў кожнаму выбаршчыку кватэру нават раней 2000 года. Дый не толькі яе. Шмат чаго яшчэ. Адным словам — рай. А на выбарах яго ён прайграў. Ведаеце, што ён мне потым, у роспачы, сказаў? Час рыхтаваць стрэльбы, каб абудзіць гэты сонны статак, што завецца народам. Вядома, дзеля яго ж, народнага, шчасця... Знаёма, ці не праўда? Жывы, жывы дух «д'ябла» Пятрушы Верхавенскага!

ТОЛЬКІ людзі нашы ўжо не спяць, яны — на мяжы адчаю. Што будзе, калі прагучыць першы стрэл? Ці не да новай бяды, да новага, крывавага Чарнобыля гэты шлях? Пытанне, якое вельмі непакоіць цяпер і Віктара Казько.

— Што бывае, калі «барацьба супярэчнасцей» няспынна абвастраецца, мы ўжо няблага ведаем. Сапраўды, варта толькі пачаць. Потым кроў прыцягвае кроў.

Калі ж гаварыць пра суд, дык справа ў тым, каго і за што судзіць. Мы пераважна садзім у турму таго, хто знёс з мясакамбіната кавалак каўбасы. А што таму, хто на «апаратных» пасадах робіць у тысячу разоў большыя злачынствы? Пальчыкамківаем. А той у адказ: нарэшце, хачу папрацаваць канструктыўна. І яго... павышаюць. Бо дзеля «ідэі» шчыруе.

Для яўных злачынцаў, і начальнікаў, зразумела, павінен быць звычайны — ад раённага да Вярхоўнага — суд на падставе крымінальнага кодэксу. Сведкаў для яго хопіць... Калі ж абвінавачваць толькі за халопскае падпарадкаванне «но пасаранцам», дык гэта колькі ж будзе падсудных? На якую лаву іх усадзіць? І хто кіне ў іх «камень»? Ты? Я?

Думаю, найперш, кожны з нас павінен сам сябе судзіць.

**— Як робяць гэта Мацвей Роўда з «Неруша» ці Янка Данілюк з «Но пасарана»?**

— Яны здольныя на гэта, бо яшчэ маюць сумленне. Трэба шчыра сабе адказаць: хто, як не мы, надзялілі «шкілет» названага прывіду сваёй плоццю і крывёю? З гэтага ж усё пачалося — з ілжывага сну, які бяздумна прынялі за рэальнасць, калі збочылі, збіліся са сваёй дарогі. Амаль увесь народ сышоў. І доўга нават не ўсведамляў гэта. Нібы нападпітку быў. А співаўся ж добраахвотна...

Мы з малаком маці ўсмакталі: пра гэта — не думаць, туды — не хадзіць. Бо ідэя — святая. Мы, атэісты, у яе веруем больш, чым вернікі ў бога. А «бажкоў» нам час ад часу падмяняюць... Вось скуль яна — «зона». Трэба бурыць яе ў сваёй свядомасці, дзе ёсць думкі-«ахоўнікі» і думкі-«зэкі».

У поўным сэнсе мы заслужылі тую гісторыю, якую маем. І за тое, каб працверазець, ужо досыць заплацілі. Тым жа Чарнобылем. Сёння больш важна не караць вінаватых, а дапамагчы ахвярам. Не ўсеагульны крымінальны суд распачынаць, а хутчэй брацца за справу. Інакш будзе яшчэ горш. Сёння мы даядаем вясковых, бацькавых, кабанчыкаў. А што будзем мець увосень, залежыць ад таго, што зараз пасеем.

***— Аднак пытанне пра накірунак руху і пра дарогу застаецца...***

— Найперш вабіць «дарога» ўжо наезджаная. Асудзім старых кіраўнікоў, маёмасць іх канфіскуем, прывілеі перадзелім... Гэта ўжо некалі было. А далей, далей што? Толькі перадаць уладу іншым, нават тым, каго сёння на мітынгах называюць «сумленнем нацыі», замала. Трапяць яны, новыя, у старую сістэму, дык тая іх на свой капыл перайначыць.

Што ж рабіць? Асноўнае пытанне, на якое спрабуюць адказаць усе. Калі абагульніць, дык адны нам прапануюць той жа прывід, толькі — «з чалавечым тварам». Але ён, дарэчы,




і сёння крывіцца ад нянавісці да іншай думкі. Інакш як зразумець, што дагэтуль афіцыйна не прызнаны Беларускі народны фронт?.. Сумна ўсведамляць, што пэўная частка людзей па-ранейшаму шчыра не жадае «паступацца прынцыпамі». Нібыта нам не ставала часу пераканацца, што нездарма ў народзе прывід заўжды лічыўся істотай з «таго свету». Дык няўжо ўсім трэба перайсці туды, каб догму пакінуць тут? І яе мерцвякоў на пасадах, што трымаюцца за іх мёртвай хваткай.

А што на другім «полюсе»? Ёсць слушныя прапановы. Ды як не заўважыць, што і тут зноў-такі пераважае чорна-белае бачанне, агрэсіўнасць і нянавісць да тых, «хто не з намі». Што адчувалася і на тым жа мітынгу: маўляў, уся партыя — «злачынная арганізацыя», аніякага дыялога з «апаратам»...

**— Аднак у гэтым «апараце» трэба заўважаць і такіх людзей, як Пракопаў, якія са свайго народа ніколі не «выходзілі». Яны з ім застаюцца. Нават у «зоне»... Ну, а пра што сведчаць вынікі выбараў у мясцовыя Саветы, якімі, ведаю, незадаволены ні «правыя», ні «левыя»? Першыя спрабуюць растлумачыць іх дэмагогіяй «экстрэмістаў», апошнія — недасканаласцю закона, яго парушэннямі, абыякавасцю выбаршчыкаў... А, можа, большасць усё ж выказала на выбарах своеасаблівую, праменжкавую, прапанову «грамадзянскага міру»? Бо ён адзін дае *магчымасць на справе ліквідаваць вынікі Чарнобыля і не дапусціць новых разбурэнняў?..* Вось і ў тваёй аповесці аддадзены камунізму і загнаны ім Но Пасаран хоць і памірае «ад сусветнай рэвалюцыі», але з той кнігай у руках, дзе выкладзены дзесяць запаведзяў. Ці можна разумець гэта і як пазіцыю аўтара: каб уратавацца, трэба «палюбіць блізкага свайго», не зважаючы на яго «класавую» прыналежнасць? Мо менавіта такім бачыцца нармальнае, людскае жыццё, у тым ліку тваё — асабістае, з мяжы пяцідзесяцігадовага ўзросту?**

— Я таксама збіраюся зараз будаваць новую хату і, вядома ж, садзіць сад, бо тое, што меў у вёсцы свайго маленства, не абмінуў Чарнобыль. Вось і думаю, як гэта зрабіць?..

Не перабудова нам трэба, а пабудова. Калі пачнём сапраўды істотна мяняць сваё жыццё, мусім закладваць новы падмурак. На «ўзроўні» ідэі, якая не падзяляе, а злучае людзей. Толькі згода будуе, нязгода — руйнуе. Якой будзе гэтая ідэя — не ведаю. Бо я ж не прарок-месія і нават не дэпутат-заканадаўца.

Хаця, між іншым, звярталіся да мяне мазырчукі з такой прапановай. Аднак не было ў мяне часу весці перадвыбарчую кампанію. Дапісваў «Но пасаран». Дый, шчыра кажучы, падумаў: а раптам ва ўсіх ста тысяч маіх выбаршчыкаў пацячэ дах? Яны — да мяне: дапамажы! А што я зраблю! Думаю, кожны павінен усё-такі займацца сваёй справай. Пісьменнікі — таксама. Каб, апроч неабходных будматэрыялаў, знайшлося і слова, якое адновіць у чалавеку неадкладную патрэбу жыць у дыхтоўным доме са спраўным дахам і з суседам ладзіць.

Для такога жыцця звычайнаму, маленькаму, чалавеку трэба не звароты і пастановы, на якія заўсёды быў шчодры «апарат». Колькі ж можна заклікаць адзін аднаго? Неабходны простыя, як паветра і хлеб, рэчы. Гэта воля і дзела. без ідэі, вядома, таксама не абысціся. Ды якой бы «перадавой» яна ні была, не трэба ўзводзіць яе ў абсалют і даводзіць да абсурду, як нашу ранейшую. Задумана ж было сапраўды няблага... У кожнага павінна быць свая ідэя, што ад патрэб чалавека паходзіць. Калі ж ідэя наперадзе, дык гэта колы паперадзе каня.

Вольная стваральная праца — вось што можа ўсіх нас аб'яднаць. І паступова, без стрэльбаў, паставіць усіх на свае месцы ў жыцці: кожнаму — па справах яго. Прыклад гэтага — вопыт мірных рэвалюцый ва ўсходнееўрапейскіх краінах. Хоць я не выключаю, што тады ў нас пачнуцца новыя мітынгі — беспрацоўных «апаратчыкаў»...

Тут Казько, здаецца, упершыню за ўвесь час нашай гутаркі гарэзліва, як хлопчык, усміхнуўся, і скончыў прыкладна так:

— Як выйсці на гэтую дарогу, вырашаць нам усім разам. Думаю, трэба ўважліва прыглядзецца да тых магістраляў, па якіх шыбуюць іншыя народы, што шмат чаго ў сваім жыцці дамагліся. А мы засталіся наводшыбе. І апынуліся перад усім светам — кашуля нарасхліст. Голенькія, але ганарлівыя: што ж нам, зноў пад прыгнёт капіталу?.. Вось чаго не трэба, дык гэта «ізмаў». Быў я ў Злучаных Штатах. Там, вядома, шмат сваіх праблем. Аднак здолелі яны ўладкаваць сваё жыццё так, каб мэты асобы і ўсяго грамадства ў асноўным супадалі. Сапраўднай роўнасці людзі ў цывілізаваным грамадстве рукамі і галавой дамагаюцца. Працай. Банкруцтва ж нашай сістэмы «роўнасці» відавочнае нават для сляпых, якія галадаюць разам з усімі. І ўсё крычаць: «Дай!» А ўжо няма чаго даць. І ўсе зноў пачынаюць шукаць «чужынцаў», вінаватых у нашым жабрацтве. Зараз вось абрынуліся на кааператараў. Дбайны вясковец, увішны рабочы, сумленны інтэлігент — ці ацалелі яны ў гэтым няспынным падроўніванні? Ці ачуняем мы?

Разлічана наша завядзёнка менавіта на стан вайны. Тады яна дзейсная. Што, дарэчы, і паказалі войны... Галоўная загана: ніхто не гаспадар свайго дома і свайго жыцця. Дзе больш, дзе менш, але паўсюдна — «зона адчужэння».

НУ, а я на развітанне раскажу, як жартуе ў «чорнай зоне» народ. Пытанне: што такое наш «ізм»? Адказ: гэта такое рэчыва — з перыядам паўраспаду ў 70 год. Гумар, канечне, чорны. Ды што зробіш, калі жыццё такое ж.

...Ля веснічак Федзевай хаты мы мусілі спыніцца. Увесь двор быў шчыльна зарослы ўсё тым жа бур'янам-чарнабылам. Аднак гаспадар не разгубіўся. Нешта прыгадаўшы, праціснуўся ў хлеў, адкуль выйшаў з касой. Удакладніў: дзедава. Бо ў гэтых абставінах яе хутчэй можна было прыняць за «бабуліну». Ды Федзя пераканаў. Узмахнуў раз, другі... І хоць каса была вызубленая, іржвая — столькі без гаспадарскага кляпання, — ад веснічак да ганка пачаў класціся роўны пракос. І паказалася зямля з першымі зялёнымі парасткамі.

А касец усё завіхаўся. Касіў ён хвацка. Ды яшчэ і пакрыкваў:

— Вось так! Бі гадаў, трушчы іх! Чарнабылу — канец! Канец!

Мы купкай крочылі ўслед. І дзіўноснае пачуццё нашай еднасці агортвала мне душу.

Потым мы рвалі з Федзевых рук касу:

— Спыніся. Пакінь і на нашу долю трохі.

Толькі Казько моўчкі стаяў поруч, засяроджана сачыў за кожным нашым рухам, чуйна прыслухоўваўся да кожнага слова, нібы вёў да пары нябачны воку «пракос»...

**Мікола МЯТЛІЦКІ**



# ПАЛЕСКІ СМУТАК

●

Палескі смутак,
Агромністы смутак
Шукае да сэрцаў людскіх
Першапутак,
Ступае з ношай
жахлівых чутак,
Гняздуе ў хатах —
у межах сутак,
Бяссоннем сцятым
парыўна дыша,
Маю Радзіму —
Наскрозь —
Калыша
Прагорклы самы
Палескі смутак.

●

Я прыйшоў: пустыя хаты,
Вокнаў выбітыя шыбы.
Крык драча ў лазе дзяркаты,
І аблок над шляхам глыбы.

Шум ігрушы на падворку
Разліваецца паныла.
Я стаю, вяду гаворку
З тым, што тут адгаманіла.

Што на далечы — былое —
Ажывае галасамі.
Неба тое, сонца тое
Над палямі, над лясамі.

І быльнёг — з мяжы калішняй
Падступіўся да парога.
Хмеліць лета віннай вішняй.
Вішняй выспела трывога.

Горкне доля ў шырах поля.
Хто збярэ насенне тое,
Што пасеяла нядоля?
Поле Вечнасці — пустое.

І няма, няма працягу
Ў нікуды.
Тут мёртва стыне,
Спарадзіўшы думак смагу,
Лёсу чорная пустыня.

●

Радасць вярніце маю,
Чорныя ветры атруты!
Вам узамен аддаю
Сум нечуванай пакуты.

Грозна сваволілі вы,
Свету мінаючы мілі,
Лёткае семя жарствы
Крылы шугалі, круцілі.

Вам жа няўцямна было,
Што вы насілі і трэслі.
Колькі й дасюль на сяло
Пылу сусветнага неслі.

Змораным пошугам крыл
Гаслі ў барах Прыдняпроўя.
Вамі абронены пыл
Точыць людское здароўе.

Селішча кідае дзед,
Лічыць зямлі кіламетры.
Дзеду кідаюцца ўслед
Толькі драпежныя ветры.

Б'юць навасёлу у дом
Цераз зямлі небасхілы,
І над магільным грудом
Згорнуць атрутныя крылы.

●

«На падворку маім
расцвілі касачы!»
Выгук чорнага болю
між чорнай начы.
Страпянецца, як птушка
ў час буры ў гняздзе.
Ад падворка жанчына
пагляд здвядзе.
Схлыне ноч, і яна
прыпадзе да акна:
«А ў якім жа баку,
ты мая старана?!»



**Віктар Трыхманенка**

# СПАТКАННЕ

АПАВЯДАННЕ

ДУМКІ не давалі спакою Кавальчуку.

Урачы раілі расслабіцца, пра ўсё забыцца, тады хутчэй пойдзе выздараўленне, ён і сам гэта разумеў, ды нічога з сабой зрабіць не мог.

Ну, як прымірыцца і не ўспамінаць пра тое, што інфаркт напаткаў яго не на цяжкай рабоце, не ў час нервовага ўсплёску, а ў ціхі, радасны дзень наваселля, калі атрымалі з жонкай доўгачаканую двухпакаёўку, хоць і кааператыўную? Ці як не думаць, не перажываць, калі адзіны любімы сын, якому тэрмінова паведамілі аб інфаркце па радыётэлефоне, не можа адразу прыехаць — у далёкім акіянскім плаванні цяпер капітан другога рангу Кавальчук-малодшы.

Акрамя гэтага, клопатнага, лезла ў галаву ўсялякае — часам нават цяжка было зразумець, ці на самай справе прыходзіць яно з мінулага, ці адбываецца ўсё гэта ў сне. Так ці інакш, а ў думках і ў душы ўсё вайна, вайна, вайна...

Кажуць, калі чалавека моцна цягне да родных мясцін, дзе не бываў ён доўгія гады і ад якіх зусім адарваўся, дык гэта на смерць. Магчыма, і Кавальчука пацягнула? Шэсцьдзесят сем, браток, шэсцьдзесят сем! Заняршыла ў горле. Але адразу ўхапіўся за выратавальную здагадку: у думках ён вяртаецца ў баі, а гэта ж не родныя мясціны! Калі фарсіравалі Дняпро, ён упершыню ў жыцці на Украіну трапіў, родам жа з Віцебшчыны, з Дуброўна — туды, як быццам, не цягне зусім. Пажывём яшчэ, Алёха! Справа прыкметна ідзе на папраўку, і захадзіць паболей ужо хочацца, і зарадачку лёгкую з дыхальных практыкаванняў зрабіць ранічкой — усё да лепшага.

І зноў...

З-за суцэльнай масы агню батальён спыніўся перад вёскай і залёг. Замацаваліся хутка ў старой траншэі, якая, на шчасце, апынулася па ходу атакі. А на КП палка якраз знаходзіўся генерал са штаба арміі. Загадаў звязаць яго з камбатам, вырваў трубку ў тэлефаніста: «Слухай, сцярвоза, ты ж затрымліваеш агульнае наступленне, вылежваешся перад нейкай вёсачкай!» — крычыць на ўсё горла. — «Слухай баявы загад: асабіста давай у ланцуг, асабіста падымай сваіх у атаку!» Пайшла пяхота наперад, а агонь праціўніка такі, што ланцугі сталі на вачах радзець. Упаў скошаны кулямётнай чаргой і камбат. Напраўленец з арміі яшчэ больш раззлаваўся, як бачна быў з тых, хто прывык, не задумваючыся, класці асабісты састаў дзеля паўкіламетровага руху наперад. Аблаяў матам усё палкавое камандаванне. Яго налітыя крывёй вочы затрымаліся на Аляксею. «Ты хто?». Памочнік начальніка штаба па разведцы капітан Кавальчук. «Ага! Ну, дакажы, на што здатны. Вазьмі пяць аўтаматчыкаў і жмі ў батальён, два-тры рыўкі і ты там. Прымеш камандаванне і каб вёску ўзяў. Не возьмеш — расстрэл перад строем».

З пяцёркай аўтаматчыкаў з камендацкага ўзвода, баявымі такімі хлапцамі, Кавальчук дабраўся ў батальён, прыняў камандаванне. Ужо падступала ранняе зімовае змярканне і ён зразумеў адразу, што трэба рабіць. Загадаў ротным камандзірам: адкрыць па праціўніку агонь з усіх відаў зброі, самім галоў з траншэі не высоўваць. Пачалася неймаверная страляніна, немцы адказалі лютым агнём. Калі крыху сціхла, Кавальчук далажыў па тэлефоне: атака захлынулася, рыхтуемся да паўторнай. «Якая можа быць падрыхтоўка?! — прама-такі б'е яму ў вуха ваяўнічы голас. — Адразу наперад!».

Ён зноў тую ж самую каманду падраздзяленням: адкрыць агонь з усіх відаў зброі, галоў не высоўваць. Пастралялі, пакрычалі «ўра» ва ўсё горла — салдаты народ мудры, хутка ўсяклі, што і да чаго. Дакладвае Кавальчук: атака захлынулася, рыхтуем чарговую. З КП яму: «Цяпер я, генерал, прыбуду туды, сам павяду батальён у атаку, але перад гэтым сам жа цябе расстраляю!» Як ні горка было Кавальчуку, а ён ухмыльнуўся, падумаў: хрэна з два ты сюды дабярэшся, ды і не такі ты смелы. Яшчэ разы два імітавалі яны атаку, а потым навалілася на спаласаванае ды абпаленае поле вячэрняя цемра. У немцаў распарадак, хоць і на фронце: адваявалі дзень, павячэраць і адпачыць неабходна. Пачакалі яшчэ з гадзінку, пакуль заснуць фрыцы, пасля чаго Кавальчук абходным манеўрам па балоцістаму хмызняку скрытна вывеў батальён на фланг і ўзяў вёску з ходу, амаль без бою. Па тэлефоне дакладваць не стаў, ды і сувязісты яшчэ не наладзілі сувязь. Паслаў салдата з кароткім пісьмовым данясеннем: «Населеным пунктам авалодаў».

Цяпер фраза гэтая, як і тады, калі была накрэмзана алоўкам, нарадзіла ва ўсім целе, у душы палёгку ад выкананага, і Кавальчук моцна заснуў. Прытым тут, у чыстай бялізне, на шпітальным ложку, наўрад ці падалося ямчэй, чым там, у вясковай хаце, даўно апусцелай і непаленай, калі, нацягнуўшы шапку на вушы, адно крысо шынялі падаслаў, а другім накрыўся.

Разбудзіла яго медсястра:

— Па-першае, прыміце таблеткі, Аляксей Іванавіч, а па-другое, да вас наведвальнік ірвецца...

— Хто такі, не ведаеш, Верачка?

— Чула ды не запомніла прозвішча. На прахадной расшумеўся, ён, бачыце, Герой Савецкага Саюза, перад ім усе расступіцеся. А вахцёр яму жалезна: да семнаццаці ў хворых адпачынак, уваход на тэрыторыю шпіталя забаронены.

— Не Сівалапаў, прозвішча?

— Вось-вось, Сівалапаў.

Нечакана-негадана. Любы іншы аднапалчанін мог зайсці праведаць, толькі б не гэты. На фронце, праўда, служылі ў адной часці, але наўрад ці былі нават знаёмы, штабны афіцэр Кавальчук і радавы Сівалапаў, здаецца, з пятай роты. Пры фарсіраванні Дняпра сямёра салдат на чале з лейтэнантам раптам праславіліся, у іх ліку быў і Сівалапаў. Калі ўспомніць, як усё адбылося, то варта было б сёе-тое, правільней, таго-сяго вывернуць навыварат.

— Да спаткання колькі ж засталося? — Кавальчук намацаў гадзіннік на тумбачцы. — Яшчэ дваццаць мінут... Вера!

— А-я! — адгукнулася сястра ад вуглавога ложка.

— Як вызвалішся, зайдзі на хвілінку.

— Ужо іду.

Па яго жэсту сястра нахілілася, калі ён ужо хацеў сказаць нешта на вуха.

— Як ён прыйдзе, Сівалапаў, пастарайся, Вярусь, не выходзіць з палаты, я цябе вельмі прашу, — прашаптаў Кавальчук.

— Усё зразумела! — адрапартавала сястра, якой зусім не было зразумела, чаго палохаецца адстаўны палкоўнік-франтавік. У яе шырокіх вачах прамільгнуў і свой невытлумачальны спалох.

Дзеля чаго ідзе да яго Сівалапаў! Не сябравалі, хлеба-солі не дзялілі, сустрэліся толькі, калі перавялі служыць у гэты горад і хутка звольнілі, ды і то звёў выпадак — на ўрачыстым сходзе, пры ўручэнні юбілейных медалёў. Сівалапаў, паблісквачы Залатой зоркай сядзеў у прэзідыуме. У перапынку сутыкнуліся лоб у лоб, патрэбна было паздароўкацца, пагаварыць. Сівалапаў зрабіў шырокую ўсмешку на вялізнай, як гарбуз, фізіяноміі, трымаўся высапарна, быццам вялікі начальнік, якім, між іншым, не з'яўляўся. Якога д'ябла нясе яго цяпер сюды? Працяла халадком дзікаватая загадка: даведаўшыся пра інфаркт, вырашыў чым-небудзь даканаць адзінага сведку — а хто ведае, такі на ўсё здатны.

Фартуна, яна гледзячы якім бокам павернецца... Яна і на вайне яшчэ як паказалася! Фарсіраванне Дняпра ў гісторыі вайны, канечне, вялікі этап. Наступаючыя войскі выйшлі да ракі на сямісоткіламетровым фронце, загад Вярхоўнага: фарсіраваць з ходу! Што не растлумачвалася пры чытанні загада перад строем, тое дайшло да штабнога афіцэра Кавальчука: групы тых, хто пераправіўся першымі на падручных сродках, прадстаўляць да звання Героя Савецкага Саюза. Толькі не сказана было «прадстаўляць спісамі», але трэба было так разумець. За час аперацыі каля дзвюх з паловай тысяч удастоіліся такога гонару, трэба думаць, усе заслужана, асабліва тыя, што са словам у двухкоссі — пасмяротна. А як пагледзець на нашага героя і некаторых падобных? Каму-каму, а Кавальчуку вядома ўсё, што сам «герой» даўно закідаў зямлёй ва ўласнай памяці.

Сем чалавек іх, лейтэнант і шасцёра салдат, ноччу пераплылі Дняпро на дзвюх рыбацкіх лодках. Пад агнём праціўніка. Ля самага берага кулямётнай чаргой скасіла лейтэнанта, які сядзеў на носе лодкі, і ён кульнуўся ў ваду. Камандаванне ўзяў на сябе Васіль Сівалапаў. Што там было далей — цьмяна, як сама ноч: суткі пра групу ніякіх звестак, па паводзінах праціўніка не заўважна было, каб яна нечым праявіла сябе. Калі ж пачалася масавая пераправа войск пры актыўнай падтрымцы з іншых занятых плацдармаў, шасцёра салдат прымкнулі да сваёй часці, усе жывыя-здаровыя, галодныя, як ваўкі, адзін толькі лёгка ранены асколкам у плячо.

Калі рыхтавалі ўзнагародныя дакументы, пасля ўжо фарсіравання і жорсткіх баёў на правым беразе Дняпра, начштаба выказаўся справядліва: «Калі прадстаўляць да звання Героя, дык толькі лейтэнанта, пасмяротна, а гэтых гаўрыкаў на чале з Сівалапавым няма за што, узводнага не стала, яны і ўзрадаваліся, забіліся

●

Восень далічыць асін пятакі,
Ветру паведае скрушную думу.
Радасці поле — з левай рукі,
З правай рукі — поле вечнага суму.

Сеялі тут безліч вякоў
Рупныя рукі потную долю.
Песня звінела адна жаўрукоў
Светламу полю і змрочнаму полю.

Колькі ў абсягах зямной даўніны
Сечаў пачулі, крыві паспыталі.
Разам, было, дзірванелі яны,
Горкай травой забыцця зарасталі.

Плужылі іх, выцершы пот,
Чорныя рукі і потныя душы.
Неба студзіла голас грымот,
Зыркала сонца вокам відушчым.

Як на сугрэве прэлай раллі
Цегла зялёныя парасткі жыта!
Ды пачарнелі разам палі,
Глянулі ядзернай згубай пабіта.

Неба навісла ў зыбучай імжы
І захліпнулася, чорнае, болем.
Размежавалася дротам мяжы
Сумнае поле з радасці полем.

Так і ляжаць два малыя шматкі,
Скрушныя, як чалавечая доля.
Ходзіць там смерць, сноп нясе напрасткі
З кожнага поля!

## *Пячнік*

Даўно бяссоннем змучаны пячнік
У гарадской выгнанніцкай далечы.
А збеглы цень —
Угодлівы двайнік —
На вуліцы свае распаліць печы.

Ён думае з маркотай аб былым.
І да астатняй ранішняе зоркі
З'ядае душу вёскі роднай дым,
Як ні каўтай — адно, да болю, горкі.

На вуліцах палескага сяла,
Наўкруг — у Рудакоўскім сельсавеце —
Дзед печы клаў,
каб прыбыло цяпла
Паміж віхур усіх на белым свеце.

Драпежна сцюжа грукае ў акно.
Сляпучы змрок.
Цягучы дух махоркі.
І ўжо нічога ў свеце не відно.
І толькі дым.
Як памяць,
горкі-горкі...

## *Паводле аднае сустрэчы*

Амаль пятроўскім быў твой кліч
халодны:
«Найпрыгажэйшы горад будзе тут!»
Казаў яшчэ: «Любіце Брагін родны,
Аварыя не закранула кут».

Няшчырасцю абпоенае слова
Прайшло па душах спорным болем
спрэс.
Ты глянуў так, бы век глядзеў сурова,
Прысудны век. Жахотны, як АЭС.

І ўжо не толькі жорсткасцю прагрэсу,
Даваў усходы ядзерны засеў,
Бяздушнасцю тваёй
на кроны лесу,
І на душу атрутны стронцый сеў!

Ты быў скупым. І не было спагады,
Мальба не далятала да вушэй,
Бо ведаў ты адзін закон улады:
Абы цішэй... Абы было цішэй...

Далёка страх ад вокнаў тваёй хаты,
І ты занёс на боль чыноўны бот.
Ды ведаю, што прыйдзе час адплаты,
І для такіх — калючы ўстане дрот.

●

Дзе яны, вёскі роднае вёсны?
Вярста,
Абарваная явай драпежнай пагрозы.
Тут гушкаецца ядзерных дзён пустата
На галінах бярозы.

Я жыву — за мяжой успаміну.
Жыву
Днём выгнанніцкай долі, адчаем-
расстанием.
Пературчаных векам нябёс сіняву
Працінаю дыханнем.

Як паверыць душой —
Свет адпрэчыць бяду,
Не счакае свайго выпадковага скону?
Хай адзіны за ўсіх,
Я, выгнаннік, прыйду
Ценем горкай журбы
Ў палыновую зону.

ў якую-небудзь яміну і сядзелі, як мышы, немцы нават не заўважалі, што яны «там». Камандзір палка выслухаў свайго начштаба, спытаў яхідна: «Адкуль такія падрабязнасці, вы што, былі разам з імі?» Начштаба, старэйшы гадамі і больш вопытны, не спасаваў перад ім. «Быць я, дык не быў, — адказаў з годнасцю. — Але абстаноўку ўяўляю. Гэты праныра Сівалапаў дакладваў блытана, астатнія быццам вады ў рот набралі». Кавальчуку, які прысутнічаў пры размове, хацелася дадаць, што ўсе шасцёра жывыя, а ў другіх групах, што пераправуляліся вышэй і ніжэй па цячэнню, ляглі амаль усе, аднак, прамаўчаў. Камандзір палка аб'явіў рашэнне: «Будзем прадстаўляць усіх». Зразумела, чаму настаяў — разлічваў, што старшыя начальнікі і яго самога не забудуць. Так, між іншым, і выйшла.

Дачакаліся Указа аб прысваенні геройскіх званняў не хутка, калі ваявалі ўжо на тэрыторыі Балгарыі. І вось навіна: у пятай стралковай роце, дзе толькі медалі пабрэньквалі на салдацкіх гімнасцёрках, зрэдку ардэнок Чырвонай зоркі палымнеў, адначасова стала шэсць Герояў Савецкага Саюза. А дзе тады праходзілі, у кожным сяле гасцямі сустракалі, ды віна было — заліся, і пры ўсіх строгасцях дысцыпліны папівалі ўсё ж. Сівалапаў, у той час сяржант ужо, забраўся неяк у пограб да добрага дзеда, напіліся да чорцікаў — што-што, а гэта рабіць ён умеў. Панеслі яго, дык рассакрэціўся наконт дняпроўскай пераправы, пахваліўся ўласнай «ваеннай хітрасцю». У ліку сабутыльнікаў выпадкова аказаўся штабны пісар, увогуле добры, сумленны хлопец, які праз некаторы час расказаў, што чуў з першых вуснаў, гвардыі капітану Кавальчуку. Ды што заставалася рабіць... Толькі ведаць, што шасцёра лаўкачоў схапілі вышэйшыя ўзнагароды — на вайне, магчыма, рэдка, але бывае і такое. Рыхтаваў Кавальчук чарговую разведгрупу ў тыл праціўніка. У час інструктажа, пахаджваючы перад строем, затрымаўся насупраць сяржанта, кінуў яму ў твар са скрыгатам у голасе: «Узнагароды трэба апраўдваць... хоць бы пазней». І Сівалапаў зразумеў, што гвардыі капітану ўсё вядома. У адным з баёў яго раніла, не так і цяжка, але накіравалі ў тыл. Папаў у шпіталь, на шкляных дзвярах палаты, куды паклалі, бялела папяровая таблічка: «Для генералаў і Герояў Савецкага Саюза» — гэты радок канчаткова ўзвініцў Сівалапава. З цягам часу Кавальчуку ад таварышаў сталі вядомы яго далейшыя прыгоды. На фронт больш не вярнуўся, выказаў жаданне паступаць у ваеннае вучылішча — накіравалі. Ён і ў школе сядзеў па два гады ў адным класе, а тут вучоба яму ніяк у галаву не ішла, лайдацтва сказвалася ды і дысцыпліна не падабалася. Многае яму даравалася, якніяк Залатая зорка на гімнасцёрцы курсанта, сяк-так дацягнулі да выпуску, накіравалі ў часць лейтэнантам. Яго часта пераводзілі па службе, таму што працаваць па-сапраўднаму з асабовым складам ён не хацеў, а больш п'янстваваў, і кожны камандзір імкнуўся ад такога «кадра» пазбавіцца, даўшы станоўчую характарыстыку. У рэшце рэшт яго звольнілі з арміі.

Праз шмат гадоў Кавальчуку натрапіўся ў газеце артыкул за подпісам Героя Савецкага Саюза маёра запасу В. Сівалапава. Гэта былі ўспаміны франтавіка да Дня Перамогі, несумненна напісаныя некім з журналістаў, бо сам «аўтар» з граматай і стылем быў вельмі не ў ладах. Чаго там толькі ні было, у тых успамінах! Высадзіліся пад агнём праціўніка на правым беразе Дняпра, шасцёра смельчакоў на чале з Васілём Сівалапавым уступілі ў бой і выцеснілі немцаў з іх жа траншэі, занялі яе самі, замацаваліся. Ноч прайшла спакойна, але на досвітку пачаліся і не спыняліся ўвесь дзень варожыя атакі. Наступаў на іх узвод гітлераўцаў — адбіваліся дружным агнём з аўтаматаў і ручнога кулямёта. Потым наступала рота — таксама адбілі. Дурныя немцы, магчыма, падумалі, што ў траншэі засела вялікае падраздзяленне. Рынуліся яны ў атаку сіламі цэлага батальёна і зноў не змаглі адолець шасцярых агневікоў, якія размясціліся на шырокім участку абароны...

Чытаючы, Кавальчук не ўстрымаўся, сплюнуў: хоць бы прыдумаў больш праўдападобна, сукін сын! Ну, напрыклад, іх падтрымлівалі з левага берага мінамётным агнём, адсякаючы праціўніка, нарасцілі іх групу невялікім парашутным дэсантам — ну, нешта ў гэтым родзе, а то ж казка атрымалася для малодшага школьнага ўзросту! Патэлефанаваў таварышам у ваенкамат, распытаў пра Сівалапава — былы аднапалчанін, маўляў, цікава, як далейшы лёс склаўся. Яму сказалі, што таварыш Сівалапаў Васіль Ігнатавіч — вядомы ў горадзе чалавек, грамадскі дзеяч, дэпутат райсавета, яго, як правіла, уключаюць у склад дэлегацый, якія накіроўваюцца за мяжу і гэ дэ, і тэ пэ... І падумалася проста з жахам, як чалавек, што схапіў ні за што сорак з лішнім гадоў назад вышэйшую ўзнагароду, пасля вайны карыстаўся ёй, адхапіўшы столькі даброт.

Аднойчы, напярэдадні 9 Мая, выступаў Сівалапаў па радыё, блытаючыся чытаў падрыхтаваны яму тэкст. Паўтараў тую самую, прымітыўна выдуманую гісторыю — наступалі на іх, шасцёра смельчакоў, варожы ўзвод, потым рота, потым батальён. Такую бессаромную, непісьменную хлусню людзі павінны былі слухаць па радыё! Чаму ніхто з франтавікоў не абурыцца, не напіша ў рэдакцыю? З тых, хто вынес вайну на сваіх плячах, і ведае, як умелі ваяваць немцы, наколькі дзелавіта, ініцыятыўна вырашалі яны тактычныя задачы на полі бою. Навошта б ім, тадышнім фрыцам, цэлы дзень хадзіць у лабавыя атакі на траншэю, дзе ўсяго пяцёра аўтаматчыкаў і кулямётчык. Яны разок, магчыма, абпаліліся б і адразу б зразумелі, як выкурыць прышлых са сваёй жа траншэі. Літаральна ўсё не падобна на праўду ў байках Сівалапава, і проста дзіву даешся, чаму ніхто з франтавікоў не пашле ў рэдакцыю абуральны ліст.

А сам ты, Кавальчук, чаму не напішаш? Тым больш, што дакладна ведаеш праўду, амаль сведкам з'яўляешся... Маўчыш, адстаўнік няшчасны?! Хаця, калі паглядзець з другога боку: хто б усур'ёз прыняў тваё абурэнне? Супраць Героя Савецкага Саюза, які лічыцца ва ўсіх ганаровых спісах? «Ды хто ты такі, Кавальчук! — затопае нагамі начальнік, якому рэдакцыя перашле твой ліст.— Прыцягнуць яго да адказнасці за паклёп!». Дапусцім, нехта ўсё ж згодзіцца выслухаць, нават пажадае ва ўсім разабрацца — чым дакажаш? Паслухае і скажа: гэты ваш прафесіянальны аналіз абстаноўкі не ўсім зразумелы. Прыжмурыцца, скрывіцца як ад кіслага. А, можа, вас, таварыш, Кавальчук, даруйце, зайздрасць апанавала, што сам усю вайну прайшоў, адзначаны ордэнамі, але не асабліва, а ён за адзін бой атрымаў Залатую зорку, і на ўсё жыццё яму павага. І паклыпаеш з установы дахаты як абпляваны. Калі сумленна перад самім жа сабой, дык ніякай там зайздрасці няма. Проста зло бярэ. Многія гады і дзесяцігоддзі выстаўляе пыху авантурыст, п'яніца, лайдак, а яго праслаўляюць, выбіраюць, штогод даюць бясплатныя пуцёўкі ў санаторыі. Ну і што? Ці мала на свеце падману і крыўды. Лепш ты, Кавальчук, памаўчы...

Без мінуты семнаццаць... З'явіцца ж! Праваліцца б скрозь падлогу ад такога спаткання.

Ён увайшоў паважна, пыхліва, як дзеяч, удастоены ўвагі кагосьці звычайнага. Нездаровая паўната, касалапасць паходкі, фіялетавыя мяшкі пад вачыма.

— Дзень добры, таварыш Кавальчук. — Звярнуўся да яго, а сам глядзеў кудысьці міма. Улавіў павадку некаторых начальнікаў не адразу прыкмячаць субяседніка. — Дайшло да мяне, што прыхварнуў таварыш, злёг з інфарктам. Вырашыў праведаць, аднапалчане ж...

— Здравія жадаю, — адказаў Аляксей Іванавіч быццам старшаму, са схаванай насмешкай, вядома. Не дастаў пры гэтым рук з-пад коўдры, і ніякая сіла не прымусіць яго зрабіць гэта.

— Вы ўжо вельмі афіцыйна: «Здравія жадаю!», — запярэчыў Сівалапаў, не заўважыўшы падвоху. — Прасцей трэба, па-сяброўску.

Яшчэ і вучыць збіраецца. Лічыць, відаць, што няшчасны адстаўнік гатовы трэсціся перад яго персонай. А адстаўніку вельмі ж хочацца, нават язык свярбіць, паслаць яго...

— Урача я заслухаў. На яго думку, справы ідуць на папраўку, хутка выпішуць вас. Як вы ўладкаваліся, Аляксей Іванавіч, на заслужаным адпачынку ці працуеце дзе?

Расчараваны Сівалапаў, бачна — расчараваны, і не ўдаецца яму гэта замаскіраваць робленай усмешкай — разлічваў жа заспець у палаце інфарктнікаў Кавальчука ледзь-ледзь жывога.

— Пакуль што працую, — з некаторай затрымкай адказаў Аляксей Іванавіч на пытанне. — Грамадзянская абарона...

— О, гэтая справа важная і патрэбная, — працягваў пыхліва Сівалапаў. — Каму ёй займацца, калі не нам, старым ваякам. Ажыццяўляць заадно і ваенна-патрыятычнае выхаванне.

— Так, канечне...

— Што?

— Пацвярджаю вашу думку.

Двое суседзяў па палаце спалі, а трэці ляжаў, гледзячы ў столь і не вельмі прыслухоўваўся да іх размовы. Увайшла медсястра, Кавальчук паглядзеў на яе з маўклівым дакорам: ну што ты, мілая, прыпазняешся? І засаромеўся сваёй ранейшай думкі, што гэты нежаданы наведвальнік мог яму нечым нашкодзіць. Хаця як сказаць... Калі інфаркт у самай цяжкай стадыі, калі ні напружвацца, ні нервавацца нельга, даканаць можна адным словам. Асобнае слова можа забіць, як куля.

Сапраўдны сябра Верачка, хоць і з невялікім спазненнем, але прыйшла і села непадалёку на табурэтцы. Сівалапаву гэта не спадабалася, зірнуў на яе, зморшчыўшы нос, але нічога не сказаў.

— Як тут адносіны да вас? — звярнуўся Сівалапаў да яго, не прыдумаўшы нічога лепшага.

Сястрычка адказала:

— Не крыўдзім Аляксея Іванавіча, хваляваццa няма чаго.

Пабыўшы яшчэ мінут з дзесяць, Сівалапаў, як чалавек заняты — так ён пра сябе сказаў, пачаў збірацца. Пайшоў, перавальваючыся, з нагі на нагу, апрануты ўнакідку халат спаўзаў з яго аб'ёмнага тулава.

Дзверы за ім зачыніліся, Кавальчук з палёгкай уздыхнуў, што не прамінула заўважыць медсястра.

— Нешта ў вас не тое, Аляксей Іванавіч, з вашым сябрам, — заўважыла яна. — Не тыя адносіны.

— З маім заклятым сябрам? — перапытаў, выклікаўшы яе задзірысты смех. — Вельмі даўняя гісторыя, Вяруня. І па тэме не падыходзіць для юных, цікаўных медычак.

Міжволі зноў пераключыўся на сябе: для такіх, як ён сам, гэтая тэма, хутчэй за ўсё, вечная... Для тых, хто быў з ім тады на вогненным рубяжы ды не вярнуўся з вайны. Як яны, салдаты, развіталіся з ім, калі ў батальён прыбыў новы камандзір? Вусаты мужык гадоў сарака, ад імя ўсіх радавых, падышоў, выцягнуўся струной: дазвольце звярнуцца, таварыш гвардыі капітан. Усё па статуту імкнуўся рабіць, а калі загаварыў, ад хвалявання, ці што, збіўся на «ты»: не забудзем цябе, таварыш гвардыі, родны ты наш, дзецям сваім расказваць будзем, а можа, і ўнукам.

Начштаба, разумны, сардэчны мужчына, пасля таго бою, звязаўшыся па тэлефоне, загадаў яму пабольш пабыць на перадавой. Ведаў, што гаварыў у пяхоце на «перадку» доўга цэлым заставацца не будзеш. Раніла ў нагу, яго не ў медсанбат, а ў прыфрантавы шпіталь, далей ад вачэй таго, хто гразіўся пакараць з такой лютасцю.

...Сястрычка Вера пасля спаткання з аднапалчанінам неяк па-іншаму пачала глядзець на Кавальчука, быццам ён стаў для яе вялікай загадкай.

Яго жартаўліва-колкае слова запомніла і, з'яўляючыся ў чарговы раз з лекамі, калі-нікалі ціха пыталася:

— Больш не наведваецца «закляты сябра»?

Пераклад з рускай.

## «Вядзі, беларуская зорка!»

Пад такім дэвізам (гэта радок з верша) адбыўся 10 красавіка ў Доме літаратара вечар аўтарскай песні «двух Алегаў» — Алега Лойкі і яго вучня, выпускніка філфака, маладога паэта-песенніка і спевака Алега Атаманава. Для многіх прысутных гэта быў вечар адкрыццяў і сюрпрызаў. Выконвалася, напрыклад, «Беларускае танга»: словы і музыка... Алега Лойкі. Потым шаноўны прафесар, паважаны членкар АН БССР Алег Антонавіч Лойка выходзіў сам... з акардэонам, потым сам спяваў пад гітару (акампаніраваў яго вучань). Потым... Гучалі песні лірычныя («Ніхто са мной так радасці не дзеліць», «З коміна дым ідзе»), трагічныя («На маёй Беларусі бяда», «Кветкі Курапатаў»), сатырычныя («Гімн каўбаснікаў»: «Каўбаса, каўбаса, еш і будзь здаровы, — ты радней, каўбаса, ад роднае мовы!»), гумарыстычныя («Філалагіні»). У зале было шмат выкладчыкаў і студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ, шмат «філалагінь», і прысвечаная ім песня прымалася на «біс».

Прыемным адкрыццём вечара было, безумоўна, для шмат каго выступленне універсітэцкага барда Алега Атаманава— паэта, кампазітара, выканаўцы. На ўзроўні быў і вядучы, выкладчык БДУ У. Навумовіч (вёў з добрым тактам і гумарам). Спрыяў агульнай атмасферы і інструментальны ансамбль «Біг Бэнд».

**Наш кар.**

## І ў перакладзе на рускую...

Як вядома, з мэтай найбольш поўнага выяўлення, сістэматызацыі і вывучэння помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР падрыхтаваў «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», які ў васьмі кнігах выпусціла выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Хоць у друку з'яўляліся і заўвагі наконт гэтага «Збору...», указвалася на няпоўнасць матэрыялаў, нельга адмаўляць яго значэнне ў культурным і грамадскім жыцці рэспублікі.

Адначасова не трэба забываць, што беларускі «Збор...»— частка «Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР», які выпускаецца ў краіне. Зроблены першы крок і ў гэтым кірунку: толькі што выйшаў першы том (прысвечаны Брэсцкай вобласці) у перакладзе на рускую мову.

**Наш кар.**

## Новы «Дзень паэзіі» чакае...

Здадзены ў друк «Дзень паэзіі-90», а рэдкалегія штогодніка прыступае да падрыхтоўкі наступнай кніжкі. Часу застаецца не так і шмат, таму чакаем ад літаратараў у бліжэйшыя тры месяцы арыгінальных твораў. Матэрыялы просім дасылаць на адрас часопіса «Беларусь», складальніку «Дня паэзіі-91» Віктару Шніпу, або ў выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Творы не рэцэнзуюцца і аўтарам па пошце не вяртаюцца.

**Рэдкалегія «Дня паэзіі-91».**

# Вяртанне да ісціны

**Новыя кнігі пра У. І. Леніна і яго аднадумцаў**

Адказ на тое, кім быў У. І. Ленін для Расіі, рэвалюцыі і кім ён з'яўляецца для нас сёння, дадзены ў прапановах ідэалагічнай камісіі ЦК КПСС да 120-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Каб глыбока і ўсебакова зразумець У. І. Леніна, неабходна часцей звяртацца не толькі да яго прац, але і да сведчанняў людзей, якія добра ведалі правадыра, працавалі поруч, а то і сябравалі з ім, былі саратнікамі па рэвалюцыйнай барацьбе.

**М. С. Альмінскі гаварыў: «Пазнаць У. І. Леніна — для нас азначае пазнаць саміх сябе». *Пазнаць такімі, якія ёсць і якія былі.* Зразумець, як здарылася, што мы прыйшлі да такога стану. У жыцці дзяржавы і ў жыцці грамадства. Як здарылася, што святая ідэя стала малітвай, пазбаўленай зямной асновы? Чаму атрымалася так, што чырвоны сцяг набрыняў не вільгаццю шквальных, навальнічных вятроў барацьбы за новае, а крывёю тых, хто трымаў яго дрэўка і быў забіты сваімі ж таварышамі па партыі? Чаму?**

**Пытанні, пытанні... На асобныя з іх ужо ёсць адказ, на іншыя — адказ на падыходзе. Ды кожны наступны дзень колькасць гэтых запытаў не змяншае, а павялічвае. Чым далей адбываецца ачышчэнне грамадства ад накіпу гадоў, тым часцей узнікае неабходнасць пераацэньваць учарашні дзень, не ператвараючыся пры гэтым у нігілістаў, але і не становячыся ў позу ўсёдаравальнікаў.**

Бліжэй да ісціны, бліжэй да Леніна. Наблізіцца да гэтай ісціны дапамагае кніга «І вечна ў памяці людской» (складальнікі Э. Забродскі і Э. Карніловіч), выпушчаная выдавецтвам «Беларусь» пад эгідай Інстытута гісторыі партыі пры ЦК Кампартыі Беларусі.

Пераважная большасць матэрыялаў зборніка доўгі час не публікавалася, а то і ўвогуле захоўвалася ў так званым «спецхране». Прынамсі, такі лёс напаткаў зборнік «У великой могилы», які саратнікі і сябры правадыра пасля яго смерці выпусцілі на працягу месяца (а памер кнігі — 30 друкаваных аркушаў). Сярод аўтараў зборніка было нямала і ўраджэнцаў Беларусі. Іх выступленні, сведчанні, успаміны і склалі частку кнігі «І вечна ў памяці людской».

Што адразу кідаецца ў вочы, кранае ў гэтых матэрыялах, дык гэта шчырасць, непасрэднасць, з якой рэвалюцыянеры гавораць пра таварыша па партыі.

**Не, не ў тыя балючыя студзеньскія дні дваццаць чацвёртага года з У. І. Леніна пачалі рабіць ікону. Ідэалізацыя спатрэбілася пазней, калі ж вельмі зручна стала *прыкрывацца* імем правадыра і ў сваёй бяздзейнасці, і ў злачыннай дзейнасці, якая вяла да адыходу ад марксізму. Тады ж камуністы развітваліся з сябрам, таварышам, саратнікам. Як пісаў у сваім слове «Памёр Ленін» П. Смідовіч, «памёр просты, добры ЧАЛАВЕК (выдзелена П. Смідовічам). Ён любіў траву, жывёл, дзіця, чалавека».**

**А вось сведчанне аб ленінскай сціпласці другога беларуса — Б. Воліна: «На грудзі паклалі ордэн Чырвонага Сцяга, які яму быў даўно прысуджаны, але які ён з-за сціпласці ніколі пры жыцці не насіў».**

**Нешматслоўны і П. Коган (ураджэнец Ліды, ён у 1921 годзе стаў прэзідэнтам Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук, у асабістай бібліятэцы У. І. Леніна ў Крамлі захоўваецца восем работ П. Когана). Дык вось, ён у артыкуле «На мяжы дзвюх эпох» пісаў: «Ён памёр, і ў свеце стала цямней... Нам не ўвайсці ў зямлю абетаваную, але нам выпала шчасце быць яго сучаснікамі. А шчасце абавязвае. Жыць у Леніне — гэта значыць умець жыць дзеля будучыні, не толькі свядомасць сваю, але кожную звіліну душы сваёй напаўняць ідэяй адзінства свайго з чалавецтвам, аддаваць сябе беззапаветна і ў гэтым прысвячэнні не ахвяру адчуваць, а радасць і свабоду».**

**Тады ж, калі адчуванне болю па незваротнасці страты было асабліва невыносным, самыя празорлівыя з ленінскіх саратнікаў не маглі не задумвацца і над сваёй асабістай адказнасцю перад будучымі пакаленнямі. Як ніхто іншы, разумеў гэта П. Лепяшынскі, калі ва ўспамінах «Партрэт Уладзіміра Ільіча» заклікаў таварышаў «зрабіць усё магчымае, каб сапраўдны, жывы воблік Ільіча для будучых пакаленняў не быў бы канчаткова страчаны і каб найцікавейшая індывідуальнасць не сцерлася з часам, не растварылася б у моры легенд, якія, несумненна, будуць у вялізнай колькасці ўзнікаць вакол яго імя».**

*Многае* разумеў П. Лепяшынскі і нямала выказаў у гэтым сваім выступленні. Задумваўся і над тым, як «рабіць гісторыю» (яго словы) далей. Папярэджваў: «І гора павадыру, калі ён вельмі зазяваўся, скіраваў погляд на канчатковую мэту і не паспеў своечасова разгледзець асаблівасці шляху ў сябе пад носам, ці, наадварот, цудоўна разбіраючыся ў навакольных дэталях, страціў арыенціровачную кропку на далёкім гарызонце. Ён рызыкуе ці завесці натоўп, які паверыў яму, у непраходнае балота, ці закруціць яго ў зачараваным першачарговым крузе».

Няцяжка здагадацца, які лёс *быў наканаваны гэтай публікацыі* П. Лепяшынскага. Змешчаныя ў другім нумары «Красного журнала для всех» за 1924 год, успаміны П. Лепяшынскага надоўга аселі ў «спецхране».

Да Леніна набліжае і кніга кандыдата гістарычных навук Э. Карніловіча «На хвалі гісторыі», таксама выпушчаная выдавецтвам «Беларусь». Аўтар яе не першы год займаецца зборам звестак аб забытых ці малавядомых прафесійных рэвалюцыянерах, удзельніках Вялікага Кастрычніка і грамадзянскай вайны, якія нарадзіліся на Беларусі. Дагэтуль выйшлі зборнікі Э. Карніловіча «Рэвалюцыяй прызваныя» і «Людзі рэвалюцыйнага подзвігу». Трэці зборнік, як і папярэднія, таксама багаты на адкрыцці яркіх імёнаў. Напрыклад, асобны нарыс прысвечаны А. Цыхону («Дэлегат дзесяці з'ездаў»). Менавіта Антону Міхайлавічу 6 мая 1922 года (тады сакратару Замаскварэцкага райкома РКП(б) Масквы) выпаў гонар уручыць партыйны білет за нумарам 114482 самому У. І. Леніну.

Расказвае Э. Карніловіч і пра іншых палымяных ленінцаў, людзей, у якіх словы ніколі не разыходзіліся са справай — Д. Басалыгу («Ля вытокаў савецкага кіно»), І. Казлоўскага («Бальшавіцкі паэт»), мінчанку З. Прышчэпчык, якая ў дваццацігадовым узросце была выбрана дэлегатам VIII з'езда партыі («Сакратар губкома»), А. Беленькага («Памочнік Дзяржынскага») і іншых.

Дзевятнаццаць нарысаў — і кожны з іх слова пра рэвалюцыю і людзей, якія рабілі яе. Слова ў абарону тых светлых ідэалаў, што напаўнялі сэрцы барацьбітоў за светлае, новае грамадства. І не іх віна, што *многае засталося няздзейсненым.* Многія з іх склалі свае галовы яшчэ да таго, калі пачалося, як пісалі нядаўна ўсе падручнікі, «трыумфальнае шэсце Савецкай улады». Іншыя пазней сталі ахвярамі сталінізму.

**Сёння вядомыя ленінскія словы — «марксізм Расія выпакутавала» — набываюць больш шырокі сэнс, чым быў закладзены з іх напачатку. Выпакутавала не толькі тады, калі ён складваўся як вучэнне, тэарэтычная платформа. На жаль, пакуты працягваліся і тады, калі, здавалася б, неабходна было спажываць плён рэвалюцыі.**

«Чысціць сябе пад Леніным» — гэта значыць, ведаць глыбока, без прыхарошвання яго жыццё і жыцці яго саратнікаў, аднадумцаў. Якія гэта былі сумленныя людзі, сведчыць хоць бы прыклад Казіміра Петрусевіча, таксама беларуса, ураджэнца Капыльшчыны, аднаго з дзевяці дэлегатаў І з'езда РСДРП, на якім ён прадстаўляў екацярынаслаўскі «Саюз барацьбы». Рэвалюцыйную дзейнасць ён спалучаў з адвакацкай практыкай. Дарэчы, К. Петрусевіч абараняў на судзе К. Міцкевіча (Якуба Коласа), пазней — Максіма Танка... Дарогай бацькі пайшоў і яго сын, таксама Казімір, які ў маі 1937 года быў асуджаны польскімі ўладамі да чатырох гадоў турмы.

Пра К. Петрусевіча і яго сына расказвалі ўжо многія аўтары. Але тым, каму трапіцца

# ДАР БРАТЭРСТВА

**Замест рэцэнзіі**

Пішу як зацікаўлены чытач, узрадаваны выхадам у свет двухтомнай «Анталогіі грузінскай паэзіі» ў перакладзе на беларускую мову (выдавецтва «Мастацкая літаратура»).

Першае, што хочацца адзначыць, — гэта змястоўнасць выдання. «Анталогія» адлюстроўвае шляхі развіцця грузінскай літаратуры са старажытных стагоддзяў да сённяшняга дня. Даказана, што пісьменнасць грузін датуецца V стагоддзем.

У першым томе прадстаўлены многія слаўныя імёны паэтаў IX—XVII стагоддзяў — цароў-асветнікаў, вучоных, гісторыкаў і «чыстых» вершатворцаў.

Другі том умясціў больш за восемдзесят аўтараў, пачынаючы ад класікаў грузінскай паэзіі — Ільі Чаўчавадзе, Акакія Цэрэтэлі, Нікалоза Бараташвілі, Важа Пшавела, Давіда Гурамішвілі. Потым ідуць імёны нашых сучаснікаў старэйшага пакалення — лепшыя з іх Галакціён Табідзе, Паола Яшвілі, Тыцыян Табідзе. Заканчваецца том паэзіяй тых, хто нядаўна ўвайшоў у літаратуру.

Трошкі нагадаю гісторыю маёй радзімы, населенай нешматлікім, *але мужным, свабодалюбівым* народам. У старажытнасці яна мела шмат трагічных падзей, несупынных разбуральных нашэсцяў варожых плямёнаў, якія ішлі то з Захаду, то з Усходу.

У IV стагоддзі Грузія трапіла ў залежнасць ад Візантыі і ў той гістарычны перыяд прыняла хрысціянства як дзяржаўную рэлігію. Легенда расказвае, што хрысціянскую веру ў Грузію з Візантыі прынесла святая Ніна-асветніца, якую на іконах паказваюць з крыжам у руках, утвораным з вінаграднай лазы, перавітай пасмамі яе валасоў.

Пасля ўпадку Рымскай імперыі Грузія зноў падверглася нашэсцю, на гэты раз з Усходу. Дзікія орды арабскага ўладара Шах-Абаза захапілі слабую яшчэ краіну, якая складалася з некалькіх адасобленых княстваў.

У выніку шматвяковай барацьбы з панаваннем арабаў Грузія скінула, нарэшце, іга і да IX стагоддзя аб'ядналася ў адзіную дзяржаву, якая дасягнула асаблівага росквіту і магутнасці ў цараванне царыцы Тамары (1184—1213 гг.). Адлюстраваннем гэтай велічнай эпохі з'явілася славутая паэма Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры».

Наступным было нашэсце манголаў. А следам — орды турэцкіх полчышчаў, якія аднялі ад Грузіі ўвесь прыбярэжны раён Чорнага мора і завярнулі насельніцтва ў магаметанства. І дасюль многія, носячы грузінскія прозвішчы, маюць мусульманскія імёны.

Ратуючы свой народ ад поўнага знішчэння, цар Вахтанг VI узмоцнена дамагаўся збліжэння з адзінавернай магутнай дзяржавай Расіяй. Тым жа шляхам дзейнічаў цар Іраклій II, які змяніў яго на прастоле, і ў 1783 годзе быў падпісаны руска-грузінскі дагавор аб саюзе, які назваўся Георгіеўскім трактатам. Грузія ўвайшла пад пратэктарат Расійскай імперыі.

Вялікая заслуга перад грузінскай культурай цара Вахтанга VI, паэта і вучонага: ён заснаваў першую ў Пярэдняй Азіі друкарню, у якой была надрукавана паэма Шата Руставелі з навуковымі каментарыямі і тлумачэннямі.

«Анталогія грузінскай паэзіі», што выйшла на беларускай мове, пачынаецца вельмі падрабязнай і living разнабаковай прадмовай доктара філасофскіх навук, члена-карэспандэнта Акадэміі навук ГССР Саргіса Цаішвілі. Біяграфічныя каментарыі напісаны Уладзімірам Сіўчыкавым.

Не лічу для сябе магчымым, не маючы арыгінала, меркаваць аб якасці перакладу старажытных пісанняў манастырскіх дзеячаў, вучоных, гісторыкаў — такіх, як Георгій Мэрчуле, Іаанэ Зосіме, а таксама Песнапенняў вялікага цара Давіда-Будаўніка. Магу толькі дазволіць сабе выказаць свае ўражанні чытача, досыць знаёмага з абедзвюма мовамі: калі тэкст перакладу ўспрымаецца як самастойны твор, гаворка льецца натуральна, без шарахаватасцей, калі захавана вобразнасць, не скажоны сэнс фразы, засвоены рытмічны лад, значыць работа перакладчыкаў удалася. Тым больш калі гэта датычыць узораў *старажытнай літаратуры.* А гэта ў «Анталогіі», безумоўна, ёсць. Прыкладам магу прывесці пераклад паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры» А. Звонака, М. Федаровіча, *змешчанай у першым томе.* Што вельмі важна — захаваны памер вершаскладання ў шаснаццацiскладовым радку, нават дакладнасць рыфмаў і іх чаргаванне. Гэта вельмі сур'ёзная, па-сапраўднаму зацікаўленая праца.

Удалыя пераклады вершаў старадаўняга вершатворцы-спевака Саят-Новы (Х. Жычка). Добрыя пераклады вершаў Бэсікі, прыдворнага паэта цара Саламона II, які ўдастоіў паэта княжацкага тытула (А. Вольскі).

Другі том — гэта ў асноўным *сучасная паэзія.* Фармальна гісторыя савецкай грузінскай літаратуры пачынаецца з лютага 1921 года, калі ў Грузіі ўстанавілася Савецкая ўлада. Маё юнацтва супала з гэтай эпохай...

У «Анталогіі» большасць перакладаў сучасных паэтаў адпавядае патрабаванням адпаведнага гучання на маёй роднай мове. Не магу не адзначыць работу В. Віткі над цудоўнымі вершамі памёршага І. Нанешвілі, адзначу вершы «Восень у Тбілісі» і «Эпітафія рэзчыку па камені». Мой любімы паэт Паола Яшвілі гарманічна гучыць у радках С. Грахоўскага «Я верны сабе» і «З лірычных адрасоў». Дакладны па форме і вобразнай выразнасці ў перакладзе М. Лужаніна вядомы верш Тыцыяна Табідзе «Не я свой верш пішу». Хочацца ўспомніць вершы Сасо Грышашвілі «Ці пастарэў?» і «Развітанне са старым Тбілісі» (пераклаў В. Тарас). І ўсё-такі гэта далёка не лепшыя вершы гэтага лірычнага паэта.

Разглядаючы падбор твораў сучасных грузінскіх паэтаў (усіх

ў рукі зборнік нарысаў Б. Клейна «Позірк з мінулага», які нядаўна пабачыў свет у выдавецтве «Навука і тэхніка», раім прачытаць яго. Аўтар прыводзіць нямала цікавых звестак з гісторыі Беларусі, а Петрусевічам прысвяціў нарыс «Памілаваць не прасілі». Назва характэрная, яе падказаў выпадак, што адбыўся пасля асуджэння Петрусевіча-малодшага.

Асобныя калегі бацькі настойвалі на падачы прашэння аб памілаванні. Былі зроблены адпаведныя захады да прэзідэнта Польшчы. Той, ведаючы, што асуджаны сын старога камуніста, гатовы быў пайсці насустрач. Сын завітаў да бацькі. Адбылася размова, якая адразу канчаткова расставіла ўсе кропкі:

«— Казік, — сказаў бацька,— я ведаю, калі ты падасі просьбу аб памілаванні, Масціцкі яе падпіша. Не ведаю, якія ў вас звычаі. Прэзідэнт і цар, канечне, не адно і тое ж... У мой час такія просьбы цару не падавалі.

Яны абняліся і больш на гэтую тэму не гаварылі».

...Такая яна была, ленінская гвардыя. Пра гэта нельга забываць, вяртаючыся да незабыўных гадоў рэвалюцыйнага абнаўлення свету. Зразумела, як сказана ў прапановах ідэалагічнай камісіі, «вяртанне да ленінскіх ідэй сёння не ёсць простае вяртанне назад да Леніна, гэта рух наперад разам з Леніным. Размова ідзе, з аднаго боку, аб вяртанні ленінскіх ідэй у разрад рэальных, таму што ў мінулым яны ў значнай меры толькі абвяшчаліся. З другога — востра неабходны глыбокі аналіз сучасных працэсаў жыцця нашага грамадства, новыя тэарэтычныя ацэнкі і вывады, абгрунтаваныя рэкамендацыі для ажыццяўлення палітыкі перабудовы».

Тым самым, вяртанне да ісціны — не толькі вяртанне да Леніна, а і рух з Леніным — наперад. Таму адмаўляючыся ад усяго, што спрабаваў унесці ў марксізм Сталін, асцярожна будзем абыходзіцца з самім падмуркам. Каб не атрымалася так, што, знішчаючы ідалаў, знішчым і самі ідэі дабра, справядлівасці, чалавечнасці.

Іх жа сёння ў свеце і так паменела.

**Наш аглядальнік.**

**не пералічыць), у мяне ствараецца ўражанне, што рыхтаваўся гэты зборнік многія гады, задоўга да пачатку эпохі перабудовы, бо пры складанні яго перавага аддавалася вершам часоў «указанняў і забарон зверху». Тэматыка вершаў у асноўным сацыяльная, палітычная, вытворчая.**

**У прадмове Саргіса Цаішвілі асабліва падкрэслена значэнне ў грузінскай літаратуры творчасці вялікага паэта сучаснасці Галакціёна Табідзе, але ў «Анталогію» ўключаны не лепшыя яго творы. На жаль, няма ў ёй шэдэўраў, якія ўславілі імя Галакціёна: «Мэры», «Блакітныя коні», «Я і ноч», «Персікавае дрэўца» і іншыя. З гэтага цыкла ўвайшоў у зборнік толькі адзін верш «Блакіт альбо ружа ў пяску».**

**Трагічны быў лёс паэта, якім ганарыцца Грузія. Дазволю сабе адзін асабісты ўспамін. У трыццаць сёмым годзе са мной у Тбілісі сядзела ў адной камеры жонка Галакціёна Вольга Акуджава. У той страшны год іх сям'я была рэпрэсіравана — і стары і малады... Самаго Галакціёна не кранулі: надта вялікая была яго слава. А жонка яго загінула. Ён цяжка перажыў гэта і скончыў тым, што выкінуўся з вакна.**

**Заканчваючы свае невялікія нататкі, хачу ад усёй душы сказаць вялікі дзякуй беларускім пісьменнікам за іх высакародную працу ў імя братэрства двух нашых народаў. Спадзяюся дачакацца такога ж шчодрага дару беларусам ад сваіх землякоў.**

**Тамара ЦУЛУКІДЗЕ.**

*Спрэчкі, палеміка*

# ...Мы ў адным замацаваны радзе

**Таіса ГРАМАДЧАНКА**

Было ўжо такое ў нашым прыгожым пісьменстве. Калі маладыя самаўпэўнена аб'яўлялі, што з іх твораў пачынаецца сапраўдная літаратура. Тады, у 20-я гады, маладосць сама па сабе ўяўлялася перавагай, нібыта выступала гарантыяй новага, сацыялістычнага светаўспрымання аўтара і давала яму права паблажліва паглядаць на пісьменнікаў сталых, на зробленае імі. Праўда, колішнія паэты, празаікі, крытыкі браліся «ў рожкі са старымі» і «бурапенілі» хутчэй ад жыццёвай і творчай нявопытнасці, ад перапоўненасці спадзяваннямі, бо прыходзілі ў літаратуру вельмі маладымі.

Можна яшчэ шукаць падобнае і адрознае паміж маладымі пісьменнікамі 20-ых і 80-ых гадоў. Аднак галоўнае для мяне, што робіць блізкімі гэтыя пакаленні, — большае, чым ва ўсіх астатніх, «права» адмаўляць. Адмаўляць нацыянальную традыцыю, форму, змест, створанае папярэднікамі і зробленае равеснікамі, якія пішуць «не так, як мы». Адмаўляць рэзка і катэгарычна, не пакідаючы мастка ці хоць бы кладачкі для будучага паразумення, прымірэння.

«Адмаўляльны» пафас сённяшніх маладых узмацняецца і ў многім жывіцца крытыцызмам, які з нейкага часу дамінуе ў свядомасці грамадства. Адсюль, пэўна, тая крайнасць меркаванняў, рэзкасць выпадаў, пракурорскі тон, беспардоннасць параўнанняў, што назіраюцца ў асобных артыкулах і выступленнях. Чаго варта, напрыклад, наступнае: «З капітанскага мосціка (гэта значыць, з асяроддзя кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў БССР. — **Т. Г.**) усё яшчэ **прапануюць** усім адзін метад і адну тэму. На гэты раз тэма для аднадумства... перабудова... Чуючы такое ў шматлікіх дакладах, я чамусьці абсалютна недарэчна ўспамінаю А. Н. Шапіру і ягоны артыкул «Прастытуцыя ў БССР». Прыходзіць у галаву і ўсё. Нічога не магу з сабой зрабіць. Можа, гэта залежыць ад дакладаў? І калі-небудзь я пачую такія даклады, якія не выклічуць кепскай асацыяцыі?..»

Кепскую асацыяцыю ў С. Дубаўца, артыкул якога «Хто там?» («Крыніца» № 2, 1990) цытуецца, выклікаюць не толькі даклады, а і сам будынак СП. На нейкі момант крытык аж разгубіўся. Што ён нагадвае з выгляду: клуб ветэранаў вайны і працы, сучасны басейн з саунай ці нямецкі дот? Больш, аднак, спадабаўся дот. І далей С. Дубавец ужо не вагаючыся, пра што сведчаць кропкі-цвікі пасля кожнага вобраза-параўнання, канстатуе: «Пішчалаўскі замак. Замак Кафкі. Бастылія. Сымболь манапалізму ў нацыянальным прыгожым пісьменстве. Арганізацыя-ўласнік усёй літаратуры, усіх літаратурных выданняў, ахоўнік ідэалагічнай прававернасці, адзіна правільнага курсу».

Перапала ў артыкуле «і вашым і нашым». Нават тым, хто асмеліўся на штурм «бастыліі». Так, В. Шніп называецца «дэманстратыўна шэрым», «ціхім будаўнічком, які з торбачкай вершаў хадзіў па рэдакцыях і сціпла прапаноўваў свой тавар». Пра Л. Дранька-Майсюка сказана, што яго хутка прыручылі. Адчувальных кухталёў па-сяброўску атрымалі таксама «дабрадушна - бесшабашны Толік Сыс» і «чалавек з «іншай оперы» Адам Глобус...

Аднак калі ў дачыненні да паплечнікаў-аднадумцаў выявілася звычайная фамільярнасць, то супраціўнікі ўсяляк ганьбяцца. Гнеў крытыка скіраваны супраць пакалення старэйшых. Адмаўляецца іх мараль, эстэтычныя і этычныя каштоўнасці.

Патрабавальнасць С. Дубаўца да папярэднікаў можна было б неяк прыняць, калі б не перапаўняла яго выступленні злараднасць. Найперш гэтае пачуццё, а не сум і боль, выклікае ў крытыка складаная сітуацыя ў беларускай літаратуры. Пісьменнікі маюць тое, — упэўнены ён, — чаго варты, што заслужылі. Іх не чытаюць, з імі не лічацца, таму што яны неталенавітыя, графаманы, таму што ў свой час волю, незалежнасць, праўду прамянялі на матэрыяльныя выгоды і мяшчанскі спакой. Аж дзіва, наколькі ў даным выпадку С. Дубавец падобны на С. Букчына! Адно што не папракае беларускую літаратуру ў правінцыйнасці.

Безумоўна, нельга сказаць, што пазіцыя маладых пісьменнікаў і крытыкаў спрэс такая, як у аўтара артыкула «Хто там?» Кінуўшы старэйшаму пакаленню сур'ёзныя папрокі ў прыстасавальніцтве, адступніцтве ад праўды, Л. Дранько-Майсюк усё ж не ставіць сябе над літаратурай («Як» і «навошта»?» «ЛіМ», 17.07.87). Занятыя больш удзячнай справай, чым пошукі вінаватага, спрабуюць разабрацца ў стратах і набытках сучаснай літаратуры—П. Васючэнка, Г. Тычка... Наколькі ведаю, і сярод тых, каго С. Дубавец залічыў у атрад штурмавікоў, не ўсе імкнуцца знішчыць існуючы літаратурны свет, каб на яго руінах адбудаваць свой.

Што кіруе востра наточаным пяром крытыка? Клопат пра родную літаратуру? Так. Але, відаць, не ён адзіны. Можна рабіць справу спакойна і незаўважна. А можна так, што кожны мусіць адарвацца ад сваёй дзялянкі, каб зірнуць на працаўніка. І зусім пэўна, што гэты шумны працаўнік здасца самым адданым справе, самым спраўным і спрытным. А калі яшчэ ён пачне тыркаць пальцам у тых, хто не так і не тое робіць, называць многіх і, найперш, начальнікаў, то яму гарантаваны лаўры змагара за прынцыповасць і праўду.

Любіць С. Дубавец «шумавыя эфекты». Калі ўжо ён загаварыў пра паэзію, то трэба аб'явіць пра несапраўднасць, анамальнасць такой з'явы, як мужчына-паэт. Трэба адмовіць усім прадстаўніцам сярэдняга пакалення ў шчырасці, натуральнасці. Паказаць іх прамежкавым, неабавязковым, а мо і непатрэбным звяном у беларускай паэзіі: «Па-жаночы першасныя вершы я знаходжу сёння альбо сярод практыкаванняў пачаткоўцаў — яшчэ неўтаймаваных, не абнявоЛеных «персанальным таўром», альбо ў паэзіі старэйшага пакалення», — сцвярджае крытык у артыкуле «Тры паэзіі» («ЛіМ», 30.03.90).

Калі ён наважыўся прадставіць маладых літаратараў, то дзеля гэтага трэба спарышаваць, каб «раскласці на два парадоксы», паважаных класікаў. А яшчэ сказаць пра тое, што маладая змена не чакалася, не прызнавалася і не пускалася.

Даўно чакаю ад С. Дубаўца (а таксама ад А. Сідарэвіча) не «абаронных» артыкулаў, а аналізу, разгляду, канкрэтнай гаворкі пра творы і творчасць маладых. Іншым, здаецца, быццам і нязручна забіраць у апекуноў і абаронцаў іх законнае права — адкрыць маладую літаратуру, паказаць, хто прыйшоў. Толькі гэта, пэўна, цяжэй, чым проста заявіць, што вырасла «шматаблічная і таленавітая змена». Чамусьці «крытычнае забеспячэнне, інтэрпрэтацыя і месца ў табліцы элементарных часціц беларускай і агульнай літаратуры», што, згодна з С. Дубаўцом, неабходна маладому таленту, па-ранейшаму адбываецца і вызначаецца ў выніку ваенных дзеянняў.

Каб даць адказ, хто вінаваты ў тым, што сёння беларускія пісьменнікі не з'яўляюцца маральнымі настаўнікамі нацыі, крытык не абцяжарвае сябе пошукам прычын, экскурсамі ў мінулае. Для яго ўсё ясна і зразумела, як божы дзень. «Тады, у канцы 70-х, — зазначае ён, — капітаны СП узялі курс на дно (пасля нас хоць патоп!) і... кінуліся актыўна выдаваць уласныя кніжкі, цешачы сябе зямнымі дабротамі... Тым часам усё вакол, без чаго не можа існаваць і развівацца літаратура — мова, традыцыі, гістарычная памяць, культура — усё вымірала. Каб спыніць гэты працэс, трэба было ахвяраваць сабой, а гэта зусім няпроста».

Так, ёсць віна беларускіх пісьменнікаў у сітуацыі з роднай мовай, культурай, літаратурай, і яна сапраўды большая, чым тых, хто працуе на ферме ці ля станка. Аднак вінаваціць іх адных, значыць, не бачыць многае іншае, знарок спрашчаць сітуацыю.

Калісьці ў спрэчцы з Т. Чабан С. Дубавец заявіў, што не адчувае нейкай віны за зробленае не ім. Асабістага няўдзелу ў хлусні і крыўдзе (з-за таго, што «спазніўся» нарадзіцца ці больш літасцівым выдаўся лёс) крытыку дастаткова, каб лічыць сябе бязгрэшным і, галоўнае, мець права маральнага суда над іншымі. І над тымі, хто па руках і нагах звязаны сваім часам, дзе прынятыя правілы і нормы паводзін супярэчаць звычайным уяўленням пра чалавечую прыстойнасць.

У 70-я, а пэўны час і ў 80-я гады працягвалася, даробліалася тое, з чым не было скончана ў 30-я, 50-я, 60-я — вынішчэнне нацыянальнага. Наша грамадства доўга і бяздумна крочыла ў светлае заўтра, дзе ўсё для ўсіх, нават мова, будзе агульным і адзіным. Што ў такіх абставінах павінны былі рабіць пісьменнікі? Кінуць пісаць і друкавацца? (Некаторыя, найбольш нягнуткія і чуйныя, кідалі ... і мы цяпер шкадуем загубленыя таленты). Пісаць для будучыні — у стол? Аб'явіць галадоўку, выйсці да Дома ўрада з бела-чырвона-белым сцягам?

Адчуванне ўласнай невінаватасці нарадзіла ўжо зусім жорсткае абвінавачванне, якое кідае крытык пісьменніцкай арганізацыі. Быццам яна «ўнесла важную лепту» ў выяўленне «ворагаў народа» (гл. «Адказы на анкету», «ЛіМ», 1.09.89). У безапеляцыйнасці, з якой малады чалавек мяркуе аб трагедыі мінулага, праглядваецца штосьці ад сумнавядомай «звышпільнасці». Тая ж вера ва ўласную праведнасць, тая ж прамалінейнасць і правільнасць.

Хіба можна вытлумачыць арышты 30-х гадоў сярод творчай інтэлігенцыі маральнай непераборлівасцю, непрывабнасцю паводзін саміх пісьменнікаў? Неяк не ўпісваецца ў прапанаваную крытыкам схему — нязгодныя і згодныя — пісьменнік, які пасля дзесяці жахлівых гадоў у сталінскіх лагерах пісаў пра ворага-кулака і шчасліваe жыццё калгаснікаў, звяраў канцэпцыю свайго гістарычнага рамана з тэзісамі Сталіна (гл. «Повесть для себя» Б. Мікуліча). Урэшце з кім і чым былі нязгодны Ц. Гартны, Я. Нёманскі, П. Галавач, М. Зарэцкі і многія-многія іншыя, каго, як піша С. Дубавец, «беларуская пісьменніцкая арганізацыя... проста растаптала з дапамогай кампетэнтных органаў»? Няўжо такое спрашчэнне мінулага спатрэбілася дзеля аднаго, каб заявіць: «Цяпер жа СП БССР сваю гісторыю выводзіць чамусьці ад тых нязгодных, а не ад уласных рэзалюцый і пратаколаў, пакаянняў і вернападданскіх лістоў»?

...Менш за ўсё хацелася б некага агулам ці паасобку абараняць ад С. Дубаўца. Як і пераконваць яго, што для беларускай літаратуры 70-я застойныя гады не з'яўляюцца цалкам страчанымі, а 80-я застануцца ў гісторыі не толькі дзякуючы прыходу маладых Л. Галубовіча, А. Сыса, а яшчэ «забытых» крытыкам (ці не з-за іх традыцыйнасці?) Х. Лялько, А. Наварыча. Калі чалавек надзеў цёмныя акуляры, то пусты занятак звяртаць яго ўвагу на светлыя фарбы і колеры.

Даўні вопыт вучыць, што некалі ўсё ўтрасецца. Сапхнутыя самаўпэўненым маладым локцем класікі (вядома, калі яны сапраўдныя) зноў зоймуць свае месцы. Можа, пры гэтым толькі крыху пасунуцца дзеля новых талентаў, якія, як вядома, чародамі не ходзяць.

Аднак не дазваляе спакойна пазіраць на амбіцыі некаторых маладых аўтараў наша скрушная беларуская рэальнасць, паправіць якую страшэнна цяжка і пры ўмове дзяржаўнасці роднай мовы. Не маем мы часу і сілы на міжусобную вайну. Вельмі нешматлікая нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, каб дзяліць яе на «чыстую» і «нячыстую».

**Я не лепей за іншых.**
**А вы — за мяне,**
**Мы ў адным замацаваны радзе...**

Гэта радкі з верша Л. Рублеўскай, якія змешчаны ў калектыўным зборніку маладых літаратараў «Тутэйшыя».

Можа, задумаемся над імі ўсе? І сталыя, і маладыя. Адну рабіць нам справу, адну несці ношку.

# ТЭАТРАЛЬНЫЯ ПРЫЯРЫТЭТЫ

**Адбылося сумеснае пасяджэнне калегіі Міністэрства культуры і прэзідыума праўлення СТД БССР. Адкрыў і вёў яго кіраўнік тэатральнага саюза М. Яроменка, які запрасіў прысутных абмеркаваць кола праблем, звязаных з дзейнасцю драматычных тэатраў рэспублікі ў рамках комплекснага эксперыменту і пераходу на новыя ўмовы гаспадарання.**

Як адзначалася ў дакладзе галоўнага рэдактара рэдакцыйна-рэпертуарнай калегіі Міністэрства культуры В. Валадзько, у выніку перабудовы арганізацыі тэатральнай справы ўсе творчыя калектывы атрымалі поўныя правы ў пытаннях фарміравання і эксплуатацыі рэпертуару, пашырылася іх эканамічная самастойнасць, дэмакратызаваліся формы і метады тэатральнага самакіравання. Разам з тым, трохгадовая практыка работы ў новых умовах выявіла шмат супярэчлівых тэндэнцый тэатральнага працэсу.

Падрабязны аналіз гэтых тэндэнцый зрабілі ў сваіх выступленнях тэатразнаўцы Р. Смольскі, Т. Гаробчанка, Т. Арлова, Г. Алісейчык, К. Кузняцова. У прыватнасці, было заўважана, што адбываецца пэўная «дэідэалагізацыя» мастацтва, у выніку якой тэатр набывае свае сапраўдныя функцыі. Працэс гэты няпросты, бо суправаджаецца шэрагам выдаткаў, дэфармацыяй духоўных і эстэтычных каштоўнасцей. Выказвалася заклапочанасць камерцыялізацыяй сцэнічнага мастацтва, інакш кажучы, імкненнем дасягнуць глядацкага *поспеху* шляхам найменшага супраціўлення.

У выступленнях практыкаў — рэжысёраў Б. Луцэнкі, Б. Утарава, В. Раеўскага, сцэнографа У. Жданава, дырэктараў тэатраў І. Вашкевіча, І. Пятроўскага (Гродна), Л. Падбярэзкінай (Бабруйск) — асноўнай, бадай, была думка аб тым, як мала яшчэ адбылося сутнасных змен у паўсядзённым існаванні сцэнічных калектываў. Тэатр і мастак у ім па-ранейшаму спавіты мноствам путаў, з той хіба розніцай, што сёння межы дапушчальнага вызначаюцца не столькі міністэрскімі рэгламентацыямі, колькі няўмольнымі рэаліямі жыцця.

Сапраўды, праблемы, аб якіх ішла гаворка на пасяджэнні, ніяк не назавеш новымі. Многія з іх трывожаць дзеячаў сцэны не адзін год, бо не вырашаюцца кардынальна. Маецца на ўвазе кадравы голад, адсутнасць самага неабходнага для нармальнай працы... Вось і мусяць тыя ж дырэктары тэатраў неяк «круціцца».

Альбо, напрыклад, каго сёння здзівіш «перманентным» канфліктам у Тэатры юнага гледача? Водгуллем гарачых спрэчак, якія ліхаманяць тэатр, прагучалі на пасяджэнні выступленні акцёраў А. Суцкавера, І. і А. Сідорчыкаў. *Праўда, дырэктар ТЮГа І. Андрэеў паспрабаваў растлумачыць, што, маўляў, нічога асаблівага не адбылося, проста новы галоўны рэжысёр В. Глыбокава (дарэчы, запрошаная калектывам) не «ўпісалася» ў тюгаўскую спецыфіку. Сам жа дырэктар бачыць выйсце ў перайменаванні ТЮГа — у Беларускі рэспубліканскі дзіцячы тэатр...*

**Намеснік начальніка ўпраўлення мастацтваў МК БССР В. Дапкюнас праінфармаваў удзельнікаў пасяджэння аб захадах, якія прымаюцца дзеля ажыццяўлення Праграмы развіцця тэатральнай справы. У прыватнасці, у Гомелі адкрыўся фальклорны тэатр «Жалейка», набываюць статус прафесійных народныя тэатры ў Слоніме і Мазыры, у Віцебску пачаў самастойнае існаванне тэатр «Лялька» і ствараецца дзіцячы музычны тэатр.**

**У сваім выступленні міністр культуры рэспублікі Я. Вайтовіч падзяліўся горкай высновай — «рэштkавы падыход» да культуры трывала ўкараніўся ў грамадскай свядомасці. Праўда, з наступнай пяцігодкі ў рэспубліцы чакаецца павелічэнне асігнаванняў на культуру з сумнавядомых 0,78 працэнта да 2,5, што ўспрымаецца сёння фантастычнай лічбай. Аднак міністр усумніўся ў тым, што можна штосьці змяніць эканамічнымі і адміністрацыйнымі мерамі ў мастацтве, дзе ўсё вырашае творчая асоба.**

**Дзе ж выйсце? Удзельнікі пасяджэння пагадзіліся з тым, што паўстала неабходнасць больш эфектыўнай сістэмы грамадска-дзяржаўнага ўплыву на дзейнасць тэатральных калектываў, распрацоўка гнуткай палітыкі дзяржаўных датацый. З гэтай мэтай вырашана стварыць (гэта асноўны пункт прынятай на пасяджэнні пастановы) на выбарнай аснове Рэспубліканскі экспертны савет з творчых работнікаў тэатра, тэатральных крытыкаў, прадстаўнікоў СТД і Міністэрства культуры. Гэты савет будзе падтрымліваць прыярытэтныя накірункі развіцця тэатральнага працэсу.**

**Наш кар.**

# УСЯГО ТОЛЬКІ ПЕСНЯ...

**З нагоды юбілею заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Эдуарда ХАНКА**



ЭДУАРД Ханок — творца супярэчлівы. Пачаўшы з гэтых слоў, мушу растлумачыць іх. А гэта няпроста, таму што трэба гаварыць пра чалавека, які блізка пасябраваў са Славай, ды ў спадарожнікі жыцця выбраў куды менш прыкметную яе сяброўку — Работу.

Супярэчлівы кампазітар... Зрэшты, ці добра гэта, калі чалавек творчы не дае падстаў для спрэчак пра яго ды пра тое, што ім зроблена? Ці добра, калі ўсё ў творчасці мастака, пісьменніка, кампазітара — бясспрэчнае і выклікае толькі адну рэакцыю, «цягне на ўзнёсласць»? Мне думаецца, у такім выпадку наогул не варта брацца за пяро, бо як ні пішы, а нічога іншага, апрача гімна ці оды, не атрымаецца. Спадзяюся, што гімн Эдуарду Ханку не будзе напісаны ніколі. А калі нават і возьмуцца ягоныя сябры за гэты не вельмі папулярны сёння жанр, дык гімн атрымаецца дасціпны і жартоўны і будзе, думаю, складацца з мелодый ягоных песень, якія мы ўсе ведаем добра.

Тым і прывабная творчасць Э. Ханка, што яна дае падставы і паспрачацца пра яе. Значна горш, калі чыесьці песні не выклікаюць ніякай рэакцыі, калі яны проста «праглынаюцца» публікай, якая, здаецца, ужо прывыкла да таго, што шлягер — гэта нешта пустое і недаўгавечнае, што «ласкавамайскі» рэпертуар — гэта амаль абавязковы і адзіна магчымы прынцып сённяшняй музычнай эстрады.

Ды ўсё ж у сваёй творчасці Э. Ханок далёкі ад майскіх настрояў. Перш за ўсё дзякуючы прафесіяналізму. І няхай адна з ягоных асноў, халодны, цвярозы разлік, глушыць часам палёт думак і эмоцый — але не трэба забываць, што Э. Ханок шмат увагі надае шлягерам. А гэты занятак для кампазітара заўсёды надзвычай небяспечны, нечым нават нагадвае працу сапёра: і тут і там памыліцца можна толькі аднойчы. А *яшчэ выклікае паралелі з* вельмі папулярнай спартыўнай гульнёй. Як у футболе гледачы патрабуюць ад каманды толькі перамогі, так і ў шлягернай музыцы публіка «абавязвае быць» кожны новы твор хоць бы не горшым ад папярэдняга. Вядома, «горш» ці «лепш» — вызначэнні для музыкі вельмі адносныя, бадай што непрымальныя. Толькі вось калі «Дынама» згуляе горш, аўдыторыя «аддзячыць» камандзе свістам, а калі пасля шлягера неспадзявана загучыць песня са складанай мелодыяй, сур'ёзная па тэме, з глыбокім сэнсам, рокстадыёны адкажуць маўчаннем.

А што можа быць для кампазітара горшае за такую рэакцыю?

Вось чаму, як правіла, у кампазітараў, якія працуюць у жанры шлягера, кароткі век. Бо доўгі час падабацца адной жанчыне — масавай аўдыторыі — ой як няпроста! Тут хочаш не хочаш, а міжволі спрабуеш выконваць яе капрызы. Калі патрапіш, а калі і не...

Можа, менавіта таму Э. Ханок ніколі не спяшаўся спадабацца адразу ўсім. Ён, здаецца, і не хаваў свайго прынцыпу: пісаць адзін шлягер у год. Але такі, каб ён «пайшоў», каб яго спявалі і слухалі ўсе і ўсюды. Не думаю, што кампазітар свядома абмяжоўваўся ўсяго адной «гучнай» песняй на год. Безумоўна, пісаліся і іншыя, якія не прэтэндавалі на першыя месцы ў хіт-парадах. Яны не працавалі на рахунак кампазітара ў той меры, як гэта рабілі *шлягеры*. Ды кожны кампазітар, які хоць бы аднойчы, дзякуючы поспеху шлягера, дакрануўся да славы, можа пацвердзіць: без пастаяннай працы, без штодзённага клопату і мноства напісаных «проста» песень, значная частка якіх мо ўвогуле не ўбачыць сцэны,— шлягер не народзіцца.

Таму дарэмна сцвярджаць, што прафесія кампазітара-«шлягершчыка» належыць да лёгкіх і бестурботных. Папулярная песня мае свае дакладныя і вельмі жорсткія законы, абавязвае шмат слухаць, аналізаваць, супастаўляць. Кожны са знаўцаў сучаснай папулярнай музыкі, хто сустракаўся з Э. Ханком, можа засведчыць: ён ведае калі не ўсё, дык вельмі шмат з таго, што было напісана не толькі нашымі кампазітарамі, але і за мяжой.

Неабходна гэта? Безумоўна. На карысць гэта кампазітару? Як сказаць... Бо часам добрае веданне прадмета здраджвае творцу, калі той *падсвядома* пачынае вышукваць ва ўжо вядомым нешта найбольш прыдатнае для ўласных патрэб. Аўтар твораў папулярнай музыкі заўсёды балансуе на мяжы густу і падробкі, на мяжы самастойнасці і стандартызацыі.

У жанры папулярнай песні Ханок напісаў шмат твораў, якія шырока прагучалі па краіне ў выкананні вядомых ансамбляў і салістаў. Гэта «*Жураўлік*» (А. Пугачова), «Завіруха» і «Малінаўка» («Верасы»), «Конь незацугляны» («Песняры»), «Вы шуміце, бярозы» і «Салавей спявае» («Сябры»), «Шчаслівы выпадак» (Я. Паплаўская і А. Ціхановіч)... Сааўтары Э. Ханка — вядомыя паэты А. Вярцінскі і Г. Бураўкін, Н. Гілевіч і У. Карызна, А. Папярэчны і І. Рэзнік, Л. Рублеўская і А. Дзяменцьеў.

Не буду сцвярджаць, што ўсе гэтыя песні аднолькава ўдалыя, што ва ўсіх іх густ бясспрэчна перамог імкненне дагадзіць законам жанру. Але ў кожнай можна лёгка адчуць «ханкоўскую руку». І можна, вядома, спрачацца наконт агульнага ўзроўню беларускай эстрады, ды паспрабуйце ўявіць яе без песень Эдуарда Ханка.

Апошнім часам яго цяжка заспець у Мінску: новае захапленне — бясконцыя паездкі па краіне і сустрэчы са слухачамі, каму адрасаваныя ягоныя песні. Нават зносіны са шматлікай аўдыторыяй «праз музыкантаў» не даюць яму, відаць, такіх уражанняў, як уласныя гутаркі з залай вочы ў вочы, спрэчкі, дыялог. Тут ён гатовы адказаць на самае вострае пытанне, тут ён можа выказацца значна шырэй, чым у песні, растлумачыць тое, што часцей за ўсё застаецца па-за нотным радком. Гучаць і песні, таму што адных гутарак, безумоўна, недастаткова, каб выказаць свае пазіцыі ў мастацтве, данесці свае думкі да слухачоў.

І вось ужо некалькі гадоў Э. Ханок згадвае, што ён піша *кнігу пра савецкую эстраду*. Цяжка прадбачыць, якая гэта будзе кніга. Напэўна, такая ж, як і яе аўтар у час гутаркі: такая ж зацікаўленая ў прадмеце роздуму, такая ж спрэчная, як і сам кампазітар. З Ханком, зазначу, спрачацца цяжка. І не толькі таму, што амаль немагчыма ўклініцца ў ягоную скорагаворку, у парадаксальныя часам разважанні. Эдуард Сямёнавіч нібы імкнецца паспець выказаць усё тое, што назапасілася ў душы, што яго хвалюе і не дае спакою. Таму і кніга, мне здаецца, будзе вялікая.

Памятаю, неяк у гадзіну ночы ў мяне зазваніў тэлефон. Званіў Ханок, нагадваючы, што праз два дні адбудзецца пасяджэнне секцыі эстраднай музыкі Саюза кампазітараў Беларусі, работай якой ён тады кіраваў,— там я павінен быў выступаць з інфармацыяй пра адзін з фестываляў. І толькі ў канцы тэлефоннай размовы я зразумеў, што званіў Эдуард Сямёнавіч з Ташкента. Там была глыбокая ноч...

Па-рознаму можна тлумачыць гэты факт, ды адно не падлягае сумненню: ён сведчыць перадусім пра няўрымслівы характар кампазітара. Могуць запярэчыць: дык што, калі Ханок часцей за ўсё заняты ўласнымі праектамі? Сапраўды, і што з таго? Але ж ягоныя песні! І, нагадаю, зусім не *адна ў год: Э. Ханок піша значна* больш, чым мы чуем. Далёка не ўсе ягоныя песні «раскручваюць» радыё ды тэлебачанне, далёка не ўсе з іх, што маглі б прыцягнуць увагу да аўтара, сам кампазітар выпускае ў свет. Большасць твораў Ханка жыве непрыкметным жыццём, хрышчоная той самай работай, на якую кожны мастак — я ўпэўнены — шчыра аддае многія гадзіны, адведзеныя для творчасці.

Ці прынясуць такія творы славу свайму бацьку? Цяжка сказаць. Бо хто ж, скажыце, у хвіліны натхнення думае адно толькі пра славу?..

Дый задавальненне ад сумленна выкананай працы, думаю, таксама не горшая з узнагарод творцу. Яна не зіхаціць на грудзях, затое іх саграває.

Упэўнены, што Эдуард Ханок можа шчыра ганарыцца многімі ўласнымі *песнямі*.

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

# Гучыць «Франчэска»...

**Цікавая праграма з твораў С. Рахманінава была паказана 31 сакавіка ў зале Беларускай філармоніі. Апрача 2-га канцэрта для фартэпіяна з аркестрам (саліст заслужаны артыст БССР І. Алоўнікаў), што выконваецца досыць часта, у гэты вечар упершыню ў нашым горадзе прагучала опера «Франчэска да Рыміні». У канцэртным выкананні оперы на сюжэт адной з песень «Боскай камедыі» Дантэ (лібрэтыст М. Чайкоўскі) прынялі ўдзел Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР, камерны хор кансерваторыі на чале з Т. Слабодчыкавай і харавая капэла Рэспубліканскага таварыства сляпых (кіраўнік Л. Пашчанка).**

**Галоўныя партыі правіцеля Рыміні Ланчота Малатэсты і юных закаханых, жонкі і брата Малатэсты Франчэскі і Паола, выканалі салісты Беларускага опернага заслужаны артыст РСФСР М. Майсеенка, Н. Касценка і саліст Ленінградскага тэатра оперы і балета імя Кірава, народны артыст РСФСР і заслужаны артыст БССР А. Дэдзік. Выканаўцы партый Данта і Ценю Вергілія, што суправаджае паэта ў страшным падарожжы па кругах пекла, — А. Тузлукоў і А. Жураўлёў.**

**За пультам знаходзіўся дырыжор ДАВТа БССР, заслужаны дзеяч рэспублікі Л. Лях, які, як сам прызнаецца, марыў паставіць «Франчэску да Рыміні» амаль 20 год, з таго самага дня, калі ўпершыню пачуў яе ў Маскве на сцэне Вялікага тэатра.**

**Разам з удзячнасцю ўсім, каму мы абавязаны знаёмствам з надзвычай экспрэсіўнай і прыгожай музыкай рахманінаўскай оперы, хочацца выказаць надзею, што наш тэатр знойдзе месца на сваёй афішы для гэтай рэдкай і прыцягальнай назвы. Вельмі патрэбна тэатру яшчэ адна невялікая аднаактовая опера (яна, напрыклад, цудоўна спалучалася б у адзін вечар з «Маддаленай» С. Пракоф'ева), што выдатна «разыходзіцца па галасах» і ўжо знайшла сабе гарачых прыхільнікаў у асобе Н. Касценкі, М. Майсеенкі і Л. Ляха.**

**А. САЛАМАХА.**

МАЕ ПЕРШЫЯ ўспаміны пра беларускі тэатр — матуліны. «Беларуская хатка», «На Купаллe», Міхась Чарот — гэтыя назвы і гэтае імя я, здаецца, ведала заўсёды. Ад матулі чула пра казачныя прадстаўленні беларускіх акцёраў з песнямі і скокамі, якія адбываліся ў «Беларускай хатцы» — недзе каля Конскага рынку на ўскраіне Мінска. Пра пазнейшыя — ужо ў цэнтры горада, у тэатральным будынку, калі трупа атрымала назву загадзя, бо ў дзень спектакля іх ужо не было. На вячэрнія спектаклі «да шаснаццаці» не пушчалі, але толькі праз галоўны ўваход. Праз другі, са сквера, уваход, які вёў на балкон, прайсці было можна. Падлеткамі (ужо без «культпаходаў») мы шырока карысталіся ім.

Білет на балкон каштаваў два рублі (як дзве буханкі лепшага, «рублёвага» хлеба). Вось на гэты балкон, у першы яго рад, на месцы супраць сцэны, мы спяшаліся, каб перажыць якіх, аб'яўленыя «ворагамі народа», некуды знікалі... З нашай школы знік дырэктар Спіцэвіч, пасля матэматык Бурак, пасля біёлаг. А ў верасні трыццаць сёмага «па просьбе трудящихся» школу (яна была польская) закрылі. У 38-ым пасадзілі майго бацьку. Мне было 15, я пачала, не кідаючы школы, працаваць.

Але тэатр па-ранейшаму займаў вялікае месца ў маім жыцці. Хадзіла туды па ачышчэнне, як да споведзі.

# Як па ачышчэнне, як да споведзі

**Нататкі ўдзячнага тэатрала**

БДТ — Беларускі дзяржаўны тэатр. Уяўляла сабе прыгожых дзяўчат у вянках, дзёрзкіх хлопцаў у вышываных кашулях, русалак, якія гушкаюцца, як на арэлях, на дрэвах і спяваюць нешта вальсовае з прыпевам «гу-та-та, гу-ля-ля»... Пад гэтае матуліна «гутата» засыналі мае малодшыя браты і сястра.

З 30-х гадоў успаміны пра беларускі тэатр — мае ўласныя.

Я вырасла на Камароўцы. Гэта быў раён пераважна рамеснікаў, дробных гандляроў (да рэвалюцыі і ў час нэпа), драўляных дамкоў з садамі і агародамі. Людзі тут трымалі свіней, коз, нават кароў, куры і козы спакойна швэндаліся па нашай небрукаванай, з драўлянымі ходнікамі Цнянскай вуліцы.

Усе гаварылі па-беларуску — і тыя мае сябры, што вучыліся па-беларуску, і тыя, што папольску, і тыя, што па-руску, і тыя, што па-яўрэйску.

І мы хадзілі ў тэатр. У БДТ-1, ці проста — Першы. Класам, нават усёй школай (у нашай было каля 400 вучняў). Мы — не, не ўвальваліся! — прыстойна ўваходзілі, адмытыя і прычасаныя, у цесны вестыбюль з двума вялікімі, пад столь, люстэркамі ў шыкоўных «залатых», у выглядзе гірляндаў, рамах, прагульваліся па вузкім фае, займалі месцы ва ўтульнай зале.

Нас не цікавілі прозвішчы акцёраў, якія былі заняты ў спектаклях, бо ігру ўспрымалі як сапраўднасць, як жыццё. Прайшло без мала шэсцьдзесят гадоў з таго часу, а асобныя сцэны з тых «маіх» самых далёкіх спектакляў перад вачыма.

...Мітрафан, дваранскі недарастак,— рудая лахматая галава, доўгія рукі тырчаць з караткаватых рукавоў, моцныя ногі ў чырвоных панчохах: «Не хачу вучыцца, хачу жаніцца»... І такая зразумелая, такая сапраўдная мамачка, для якой галоўнае — паспрыяць роднаму дзіцяці, зрабіць усё, што яно хоча, і больш таго...

У спектаклі «Жакерыя» ўражвала высакароднасць паўстанцаў-жакаў, адданасць да канца ў барацьбе за народ.

Урэзаўся ў памяць стары на авансцэне ў спектаклі «Жыццё кліча». Ён хворы, яму кепска: дзяўчына ў жоўтай сукенцы падае яму вады, і шклянка дрыжыць у ягонай руцэ, і вада выплюхваецца на падлогу. І гучаць словы пра тое, што трэба жыць, трэба тварыць, бо—жыццё кліча. Пазней даведалася, што старога іграў наш выдатны артыст Крыловіч...

Білеты трэба было купляць радасць сустрэчы з вялікім мастацтвам. Там адкрылі для сябе Крапіву, Бядулю, Самуйлёнка, Астроўскага, Горкага, Шэкспіра, Мальера, Лопэ дэ Вэга...

Мы ведалі, здаецца, усіх артыстаў тэатра і самі маглі б размеркаваць ролі паміж імі для чарговай пастаноўкі. Мы спяшаліся на прэм'еру, а потым, імкнучыся падарыць радасць другім, прыводзілі на спектакль родзічаў, блізкіх, знаёмых.

Якой чужой і непрыемнай была для нас уся памешчыцкая брацiя з «Салаўя» З. Бядулі і як мы спачувалі галоўнаму герою п'есы — таленавітаму прыгоннаму хлопцу Салаўю!

А колькі розных пачуццяў выклікаў мальераўскі Скупы ў выкананні Глебава! «Грошыкі, мае грошыкі!..» Чалавек галосіць-забіваецца, а нам і смех з яго, і гідка, і недзе нават шкада...

Сапраўднай падзеяй была пастаноўка «Апошніх» М. Горкага. Для нас яна была нечым у шмат разоў большым, чым кніжкі пра «змрочнае мінулае», чым «жывыя сведчанні» бабуль і дзядуль і чым сама п'еса Горкага — прачытаная. У спектаклі бачыш Час «апошніх». А ігру акцёраў нават неяк няёмка называць ігрой, настолькі яна была натуральная і — артыстычная. І калі гэта датычыла бацькі сямейства паліцмайстра Івана Каламійцава, і калі самых маленькіх персон у яго доме — няні і пакаёўкі.

Спектакль прымушаў думаць, патрабаваў работы душы, бо кожны яго персанаж меў у сабе вельмі шмат усялякага-рознага.

Тэатр Першы Беларускі быў патрэбны, неабходны, без яго проста немагчыма было б жыць. Ён выклікаў добрыя пачуцці і ўсё мацнейшую патрэбу суіснаваць з ім. У маёй школе (№ 6, на Залатой Горцы) рыхтаваліся драматычныя прадстаўленні — няйнакш як пад уздзеяннем тэатра, хоць платных кіраўнікоў самадзейнасці не было. Жылі наогул небагата. Больш чым сціплае харчаванне (да вайны бачыць на вуліцы таўстуна было вялікае дзіва), беднае адзенне (мы проста не ведалі, што ў чалавека можа быць цёплая бялізна, цёплыя боты, куртка з капюшонам) — цела мірылася з тым, што было. Чагосьці новага, лепшага, узнёслага патрабавала душа. І атрымлівала гэта. Найбольш — у тэатры. І, можа, дзякуючы яму за гады вучобы я ні разу не пачула ў школьных калідорах брыдкай лаянкі, не памятаю выпадкаў злaдзейства ці хуліганства. Мабыць, менавіта дзякуючы яму дзеці не цкавалі тых сваіх таварышаў, бацькі

У Тэатры Купалы заўсёды адчуваеш сябе сваім, ён патрэбны табе, а ты — яму. Сваім, родным успрымаеш кожнага акцёра. І — незабыўнымі — жывуць у памяці створаныя імі вобразы. І не толькі галоўныя ў спектаклі. Ніколі не «псавалі сваёй баразны» Пола, Зінкевіч, Кашэльнікава, Кавалёва, Дакальская, Громава, Гейц, таксама як і Бараноўскі, Счансновіч, Шапко, Пекур, Іваноў... Не забыць Кацярыны Міронавай— такой «сапраўднай» нянькі ў «Апошніх», Галчыхі ў «Без віны вінаватых»; Грыгоніса — разумнага, хітраватага дворніка ў «Хто смяецца апошнім», які прыносіць адабраную ў сабакі костку для «вучоных адкрыццяў» прайдзісвета Гарлахвацкага...

А найвялікшае маё замілаванне — гэта Стэфанія Станюта. З «да вайны» — Глафіра ў «Ваўках і авечках». На погляд — патульная, някемная, богабаязная: чорнае ўбранне, вочы долу. А ў адпаведным моманце — адкуль што бярэцца!— спрыт, змяіная гнуткасць, драпежная дзёрзкасць ва ўчынках...

Зусім іншая, але такая ж запамінальная Дыяна — з «Дурной для іншых, разумнай для сябе».

А Зіначка Зёлкіна! Гэтакае зёлка! З таварышам Зёлкіным пáра — лепшай не прыдумаеш. Зграбная, точаныя ножкі на высокіх абцасіках, модная, вёрткая... Яна першая пачуе і распусціць плётку, усюды дапне, нашэпча начальству, наставіць рогі дарагому мужу...

З «пасля вайны» — мудрая грузінская Бабуля з «Я, бабуля, Іліко і Іларыён», мілая, кранальная Арына Радзівонаўна з Макаёнкавай «Верачкі», элегантная, бясконца чалавечная, загадкавая Мод з «Гаральд і Мод». Але гэта ўжо з іншага часу, часу поўнага прызнання вялікай артысткі,— дай ёй Божа як найдаўжэйшага творчага веку на радасць усім беларусам.

Маіх сяброў-равеснікаў, гарачых прыхільнікаў тэатра, на гэтым свеце засталося ўжо вельмі мала: вайна, пасляваенныя нягоды... Кожны нёс свой крыж.

Кожны нясе свой крыж. Які ён, гэты крыж, куды яго несці, дыктуе час. А вось як несці — падказвае сумленне. Сумленне, сумленнасць — выхоўваюцца. Бацькамі. Настаўнікамі. Адзін з іх — з самых першых у шэрагу — тэатр. Ад тэатра — вера ў дабро, спагадлівасць да слабых і пакрыўджаных. І ўсведамленне сябе як частачкі свайго народа, сына сваёй айчыны. Наш, Беларускі, Купалаўскі тэатр служыць свайму народу шчыра, разумна і самаадданa.

Г. БЯЛЬКЕВІЧ.



## Мартыралог Беларусі: імёны і факты

# «Быў арыштаваны ў Маладзечне...»

**Невядомае пісьмо Я. Коласа, Я. Купалы, З. Бядулі да П. К. ПАНАМАРЭНКІ**

Гэты дакумент не мае патрэбы ў доўгай прадмове, каментарыях: ён сам гаворыць за сябе. Тры вядомыя не толькі ў рэспубліцы, але і ў краіне паэты і пісьменнікі звяртаюцца да першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі П. К. Панамарэнкі з просьбай перагледзець пытанне пра лёс незаконна арыштаванага ў верасні 1939 года органамі НКУС Аляксандра Мікітавіча Уласава, былога ў пачатку стагоддзя рэдактара газеты «Наша Ніва».

Пісьмо напісана рукой Я. Коласа на рускай мове, падпісалі яго таксама Я. Купала і З. Бядуля. Якія-небудзь адзнакі адрасата на ім адсутнічаюць. Гэта дае падставу меркаваць, што пісьмо не трапіла ў рукі Панамарэнкі. Цяжка меркаваць, чаму так выйшла, але факт застаецца фактам.

Пісьмо памылкова датавана 26 красавіка 1939 года, хоць з яго зместу відаць, што яно не магло быць напісана раней за верасень 1939 года.

Тут мы не будзем гаварыць аб адносінах, якія існавалі паміж Уласавым і аўтарамі пісьма. Гэта досыць грунтоўна на старонках штотыднёвіка («ЛіМ», 1987, 18 снежня), а таксама часопіса «Маладосць» (1989, № 7) выкладзена заслужаным настаўнікам БССР С. Белым. Адзначу толькі, што, на жаль, умяшальніцтва Я. Коласа, Я. Купалы, З. Бядулі не прывяло да станоўчага для А. Уласава выніку: ён быў асуджаны на 5 гадоў і, адбываючы тэрмін, памёр 11 сакавіка 1941 года ў Новасібірску. 6 студзеня 1961 года А. М. Уласаў быў пасмяротна рэабілітаваны.

М. ШУМЕЙКА,
кандыдат гістарычных навук.

**«Секретарю Центрального Комитета Коммунистической партии большевиков Белоруссии тов. П. К. Пономаренко**

**В сентябре месяце 1939 г. органами НКВД был арестован в г. Молодечно Александр Никитич Власов. С именем Власова неразрывно связана организация первых белорусских газет — «Наша Доля» и «Наша Нива». В «Нашей Доле» он был ближайшим и одним из руководящих сотрудников. После того, как «Наша Доля» была закрыта (в 1906 г.), а ее редактор был осужден к заключению в крепость, стала выходить другая белорусская газета «Наша Нива», редактором которой был Власов.**

**Мы также принимали активное участие в названных газетах, как их сотрудники, помещая свои статьи и стихи, протестуя в них против самодержавного произвола, против социально и национального угнетения белорусского народа. Мы хорошо знаем Власова, как человека, преданного трудовому народу, как культурного работника и собирателя разрозненной белорусской интеллигенции с тем, чтобы поставить ее на службу народа. Против русской культуры Власов никогда не относился отрицательно и в своей деятельности не ставил вопроса об отрыве белорусского народа от народа русского.**

**В настоящее время Власов уже старик, и было бы несправедливо для него, если бы он на склоне своих лет не принял участия в строительстве новой социалистической культуры народа, за который он боролся и много отдал лет своей жизни. Поэтому мы просим Вас, тов. Пономаренко, пересмотреть вопрос о Власове и отнестись снисходительно к его ошибкам, если они у него были, и дать ему возможность реабилитировать себя на советской работе.**

**Якуб КОЛАС Янка КУПАЛА Змитрок БЯДУЛЯ**

26.IV.39 г.».

# Ніхто з іх не вярнуўся...

**Родам я з Барысаўшчыны. З дзяцінства ведаю, што такое «чорны воран». У адну з начэй 1937 г. ён схапіў майго роднага дзеда Шпэта Ілью Сцяпанавіча і стрыечнага — Кушнярэвіча Сцяпана Пятровіча. Акрамя іх, з маёй роднай вёскі Дзедзілавічы, дзе ў 1937 годзе было каля 75 хат, забралі яшчэ 16 чалавек. Ніхто з гэтых людзей не вярнуўся. Ніжэй прыводжу іх спіс, што я склаў для «Мартыралога Беларусі» на аснове апытання мясцовых жыхароў.**

1. Бахановіч Іван
2. Бахановіч Пётр
3. Броўка Агата
4. Броўка Міхаіл
5. Броўка Паўла
6. Клімковіч Пётр
7. Рапацэвіч Юстын
8. Рапацэвіч Іван Юстынавіч
9. Рапацэвіч Юлія Юстынаўна
10. Рапацэвіч Павел Юстынавіч
11. Розынка Вінцук
12. Савіцкі Мікалай Амяльянавіч
13. Сушко Іван Пятровіч
14. Турчыновіч Браніслаў
15. Церах Васіль Аляксеевіч
16. Шпэт Цімафей

**Называю таксама прозвішчы знішчаных у 1937 г. жыхароў суседніх вёсак.**

в. Вароўскае
1. Няверка Іван
2. Даўнаровіч Антон

в. Собалеўка
1. Макоўскі Віктар Францавіч
2. Загавалка Кароль
3. Загавалка Вінцук
4. Карніцкі Іван

в. Недаль
1. Кузура Пётр Мацвеевіч.

**А. КУШНЯРЭВІЧ,**
**аспірант Інстытута гісторыі АН БССР.**

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

# Нацыянальная самасвядомасць беларусаў: ДЭГРАДАЦЫЯ І АДРАДЖЭННЕ

## 2. ЧАС ВЯЛІКІХ СПАДЗЯВАННЯЎ І ПАКУТ

Самасцвярджэнне большасцю беларусамі сябе як самабытнай нацыі дапамагло хутка і ўпэўнена прыстасавацца да ўмоў, якія адкрыліся для іх далейшага эканамічнага, палітычнага і сацыяльна - культурнага развіцця ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вядома, у сваёй праграме яна прама не ставіла пытання аб аднаўленні, усталяванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, але многае з таго, што ў той час рабілася, спантанна садзейнічала яе ажыўленню. У іх душах адбывалася такое, у што яшчэ зусім нядаўна мо нават не верылі самыя вялікія аптымісты, бо, як не кажыце, у дарэвалюцыйны час аб беларусах шырока распаўсюджваліся чуткі, як аб народзе без усялякай будучыні, што «яго нацыянальнымі асаблівасцямі з'яўляюцца лапці на нагах, каўтун на галаве ды ціхая пакорлівасць у вачах»[1].

Працэс пераадолення поглядаў на сябе як на непаўнацэнны этнас праходзіў бы куды больш гладка, калі б адразу пасля перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі да ўлады ў нашым краі не прыйшло шмат людзей, якія не жадалі прызнаваць беларусаў за самастойную нацыю. Сур'ёзна абцяжарвала справу і тое, што доўгі час пасля Вялікага Кастрычніка ўсходнебеларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай Федэрацыі, а ў адпаведнасці з заключаным у 1921 годзе ў Рызе дагаворам вялікія абсягі заходняй часткі Беларусі адышлі да буржуазна - памешчыцкай Польшчы. Спрадвеку адзіная ў тэрытарыяльным плане беларуская этнічная супольнасць разадралася на тры часткі, прычым тая, на якой сфарміравалася ўласная дзяржаўнасць, аказалася самай маленькай: усяго толькі адна былая Мінская губерня, на якой пражывала 1,5 мільёна чалавек. Да таго ж не ўсе яны былі беларусамі.

Дзіву даешся, колькі энергіі, сілы волі, нацыянальнага энтузіязму было ў гэтай жменькі людзей! На развалінах старога свету яны пачалі будаваць нацыянальнае жыццё так, каб у ім як мага больш было ўвасоблена ўласцівага традыцыям былых пакаленняў, г. зн. таго, што стагоддзямі зневажалася ўрадамі Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Таму не адразу змяніліся адносіны да ўсяго беларускага і з перамогай сацыялістычнай рэвалюцыі. І вельмі небяспечна, што на пазіцыях непрызнання беларусаў як самабытнай нацыі стаялі многія з тых, хто быў прысланы ў гэты край для заняцця высокіх пасад у дзяржаўных і партыйных органах. Што, да прыкладу, карыснага можна было чакаць ад сакратара ЦК КПБ(б) В. Г. Кнорына (займаў гэтую пасаду са студзеня 1919 года), які яшчэ ўсяго толькі за некалькі месяцаў таму назад заяўляў, «што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх выдзяляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжыты. Нашай задачай з'яўляецца не стварэнне новых нацый, а знішчэнне старых нацыянальных рагатак. Беларускі ж рух з'яўляецца такім збудаваннем новых нацыянальных рагатак, якія не існавалі да гэтае пары, а таму камуністы не могуць у якім бы то ні было выглядзе браць удзел у гэтым руху».

На шчасце, нацыянальна свядомыя камуністы з асяроддзя беларусаў не паслухалі партыйнага кіраўніка высокага рангу. Паралельна са стыхійнай цягай народных масаў да сваіх нацыянальна-культурных вытокаў рабіліся з боку дзяржаўных і партыйных органаў рэспублікі і мэтанакіраваныя захады па будаўніцтву ўсяго яе духоўнага жыцця на самабытным этнаграфічным грунце. Беспамылкова вызначылі і яго асноўны культураносны пласт, з дапамогай якога можна было сцвердзіць сябе як пэўную нацыянальную супольнасць, — мову. Трэба думаць, і тады ў нас былі інтэлігентныя людзі, якія добра ведалі, што пра яе гаварылі сусветна вядомыя вучоныя, у прыватнасці Вільгельм фон Гумбальдт: «Кожная мова ўбірае ў сябе нешта ад канкрэтнай своеасаблівасці сваёй нацыі і ў сваю чаргу дзейнічае на яе ў тым жа накірунку... Паколькі развіццё ў чалавеку яго чалавечай прыроды залежыць ад развіцця мовы, гэтай апошняй непасрэдна і вызначаецца паняцце нацыі як людскога згуртавання, якое ідзе ва ўтварэнні мовы сваім непаўторным шляхам».

Упершыню з усёй канкрэтнасцю і выразнасцю пра родную мову беларусаў як фактар не толькі нацыянальна-культурны, але і сацыяльны было сказана ўжо ў снежні 1920 года на другім Усебеларускім з'ездзе Саветаў, а затым у лютым 1921 года на другой сесіі ЦВК Беларускай ССР.

Нягледзячы на атрыманую да Вялікага Кастрычніка добрую порцыю прымусовай русіфікацыі, беларускі народ у цэлым вельмі прыхільна паставіўся да ўсяго таго, што рабілася пралетарскай дзяржавай па адраджэнні і развіцці яго нацыянальнай культуры, уключаючы і такі яе найважнейшы кампанент, як мова. Але на поўную моц адчуць свой нацыянальны гонар не дазвалялі такія фактары, як малая колькасць насельніцтва, невялічкі памер тэрыторыі. Зазначаныя фактары, заўважым, не так уплывалі на нацыянальную самасвядомасць толькі тады, калі гаворка ідзе пра народ з багацейшымі духоўнымі традыцыямі, высокім узроўнем эканамічнага развіцця, чым тады ніяк не маглі пахваліцца беларусы.

Адчуванне крыўды за несправядлівае вырашэнне тэрытарыяльнага пытання ў ходзе падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі і замежнай інтэрвенцыі глыбока параніла сэрцы беларусаў, бо, зразумела, хацелася жыць разам, адзінай сям'ёй. Непакоіла гэта і простых людзей, і тых, хто знаходзіўся ў верхніх эшалонах улады (што можа разглядацца як сведчанне даволі трывалага ўсведамлення беларусамі сябе адзінай этнічнай супольнасцю незалежна ад сацыяльна - класавага статуса тых ці іншых яе пластоў).

Перагляд заходніх межаў Беларусі лічыўся зусім нерэальным, паколькі была добра вядомая непахісная пазіцыя буржуазна-памешчыцкай Польшчы адносна сваіх «усходніх крэсаў». Позірк скіраваўся на ўсход, на тыя землі, якія ў сувязі з небяспечнымі акалічнасцямі замежнай ваеннай інтэрвенцыі першы Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў (праходзіў 2—3 лютага 1919 г.) павінен быў перадаць Расійскай Федэрацыі па яе ж прапанове. Пакуль не быў створаны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, урад Беларускай ССР неяк вельмі нясмела ставіў пытанне аб вяртанні ёй гэтых зямель. Зусім іншыя абставіны ўзніклі, калі яна ўвайшла паўнапраўным членам у склад адзінай федэратыўнай дзяржавы — СССР. Характэрная ў гэтых адносінах пазіцыя VII з'езда КП(б)Б, які праходзіў у сакавіку 1923 года. У яго рэзалюцыях «Па нацыянальным пытанні» было запісана: «Хутка адрадзіць Савецкую Беларусь можна толькі, уключыўшы ў тэрыторыю Беларусі родныя ёй суседнія раёны...» Тут меліся на ўвазе Віцебская і Гомельская губерні, а таксама частка Смаленскай губерні з пераважаючым па колькасці беларускім насельніцтвам.

Саюзны ўрад з разуменнем паставіўся да законных патрабаванняў беларускага народа. У выніку праведзенага ў 1924 і 1926 гадах рэгулявання ўсходніх межаў Беларускай ССР яе тэрыторыя перасягнула 125 тысяч квадратных кіламетраў, на якой жыло каля 5 мільёнаў чалавек, абсалютную большасць якіх складалі беларусы. Такая колькасць людзей ужо давала дастаткова падстаў лічыць сябе немалой нацыяй, ставіць перад сабой буйнапланавыя задачы па эканамічным і культурным развіцці, ад паспяховага вырашэння якіх непасрэдна залежаў і рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

Напачатку складвалася ўсё вельмі спрыяльна. Неўзабаве пасля першага ўзбуйнення тэрыторыі нашай рэспублікі другая сесія ЦВК БССР (ліпень 1924 года) аб'явіла аб пераходзе да палітыкі беларусізацыі. Да сённяшняга дня, бадай, нішто так, як яна, не паўплывала на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. За гранічна сціслы тэрмін яны выказалі такую адданасць традыцыям старэйшых пакаленняў, што нават разгул сталінскіх рэпрэсій быў бездапаможным адарваць беларусаў ад роднай культуры і мовы. Палітычнае кіраўніцтва БССР, зусім маладая і часта з нізкім узроўнем адукацыі інтэлігенцыя правільна знайшлі тое галоўнае звяно, з дапамогай якога ўдалося выцягнуць беларускі народ з забыцця, глянуць на сябе як на вартую павагі супольнасць у сусветнай цывілізацыі. Такім звяном стала духоўная культура з яе ўнутраным асяроддзем — мовай.

Яшчэ спрэс адчуваліся цяжкія вынікі сусветнай і грамадзянскай войнаў, не ўсё было зразумела з наладжаннем эканамічнага жыцця на сацыялістычных пачатках, але і ў гэтых неспрыяльных умовах народ пацягнуўся да культуры. Асабліва добра заявіла аб сабе пісьменніцкая інтэлігенцыя, відаць, ведаючы, што з дапамогай мастацкага слова да культуры можна далучыць самыя шырокія пласты народа. За два дзесяцігоддзі новага жыцця, нягледзячы на тое, што ў ім трагічнага было не менш, чым радаснага, у галіне мастацкай літаратуры ўдалося зрабіць у некалькі разоў больш, чым за поўныя сто гадоў да сацыялістычнай рэвалюцыі. З дапамогай мастацкага слова, перыядычнага друку, праз усе тыпы навучальных устаноў на беларускай зямлі трывала ўсталёўваліся адзіная і добра зразумелая для ўсіх літаратурная мова, што мела вырашальнае значэнне для паглыблення нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Не бяруся сцвярджаць пра знаёмства пісьменніцкай інтэлігенцыі Беларусі з тэарэтычнымі выказваннямі аднаго з вядучых дзеячаў германскай сацыял-дэмакратычнай партыі Карла Каўцкага, але сфармуляванае ім палажэнне, што «нацыянальная сувязь становіцца тым мацней і цясней, чым больш на грунце агульнай літаратурнай мовы разрастаецца агульная нацыянальная літаратура», вельмі добра дастасоўвалася да ўсяго таго, што тады рабілася ў нашым краі ў гэтай галіне культуры.

Духоўная культура, усё больш уплываючы на нацыянальную самасвядомасць беларусаў, не вяла іх да замкнутасці, не адгароджвала кітайскай сцяной ад культур суседніх ім народаў, хоць у недалёкім мінулым ад кантактаў у гэтай сферы дзейнасці чалавека беларуская культура не пазбегла і значных страт. Стварыўшы згодна з палажэннямі ленінскай нацыянальнай палітыкі ўласную рэспубліку, беларускі народ усур'ёз паклапаціўся аб тым, каб на яе тэрыторыі мелі магчымасць развіваць сваю культуру і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, і вядома ж, рускай і польскай, як найбольш роднасных. Калі ў мінулым звязаныя з адміністрацыйнай дзейнасцю заможныя, лепш за ўсіх матэрыяльна забяспечаныя носьбіты гэтых культур не цураліся ніякіх сродкаў, каб асіміляваць беларусаў, цяпер жа апошнія пачалі будаваць адносіны з імі так, каб развівалася не толькі сваё, але і тое, што належала рускай і польскай нацыянальнасцям. Узаемакантакты, што вялі да ўзбагачэння культур гэтых славянскіх народаў, доўгі час былі пажаданымі для кожнага з іх, і ўсямерна падтрымоўваліся як афіцыйнымі ўладамі, так і самой мастацкай інтэлігенцыяй, шырокімі масамі людзей. А савецкай нацыянальнай палітыцы міжваеннага перыяду давялося мець справу з фактамі зусім процілеглага парадку. У інтэлігенцыі некаторых саюзных і аўтаномных рэспублік захоўваўся недавер, праяўляліся варожыя адносіны да рускай культуры. Вось, да прыкладу, якую пазіцыю ў гэтым пытанні займаў армянскі дашнак Дарбінян: «Толькі тады, калі мы адарвём нашыя адукаваныя класы ад рускай мовы, — мы зможам вызваліць нашую нацыю ад таго нездаровага ўплыву, які прыносіць з сабой літаратура, руская грамадская думка, руская культура».

У нас на Беларусі ніхто так не выказваўся, а вось паводле размаху арганізаванага тут па ўказцы цэнтра палявання на нацыяналістаў яна «праславілася» на ўсю краіну. Задоўга да сумнавядомага 1937 года ўжо многія паплаціліся жыццём, адышлі ад актыўнай творчай дзейнасці на карысць беларускай нацыі. Істотныя трэшчыны давала беларусізацыя, але ніхто не адважваўся яе ратаваць. У канцы 30-х гадоў каманднa-бюракратычная сістэма пад розным соусам пачала ў нашым краі ўводзіць рускую мову ў службовае справаводства, аўдыторыі інстытутаў і тэхнікумаў. Толькі бацькі-беларусы, як у зорную часіну беларусізацыі, працягвалі вадзіць сваіх дзетак у школы з роднай мовай навучання, бо хацелі, каб новыя пакаленні нацыі не адрываліся ад сваіх вытокаў, былі вернымі прадаўжальнікамі яе надзвычай пакутлівага лёсу.

●

Калі здавалася, што ўжо нішто не ўратуе, не прыпыніць дэградацыю нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, у іх жыцці адбылася велізарнай значнасці гістарычная падзея — з Савецкай Беларуссю ў 1939 годзе ўз'ядналіся ў адной дзяржаве заходнебеларускія землі, насельніцтва якіх зведала шмат несправядлівасці і пакут ад палітыкі буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Дзякуючы здзяйсненню шматгадовай мары беларускай нацыі жыць і працаваць разам, яна стала намнога большай па колькасці людзей і тэрыторыі, што надавала законны гонар за саміх сябе, натхняла да стваральнай працы дзеля свайго будучага лёсу. З уз'яднаным народам патрэбна было крыху больш лічыцца і цэнтральным уладам краіны. Нельга ж было, як раней, грэбаваць нацыянальна-культурнымі інтарэсамі беларусаў, бо ва ўяўленні іх заходняй часткі маглі б узнікнуць паралелі паміж тым, што рабілася за Польшчай, і цяпер чыніцца Савецкай уладай.

Практычна на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі пасля вызвалення распачаліся тыя ж самыя мерапрыемствы па беларусізацыі, як у 20-я гады ў БССР. Асабліва гэта адчувалася ў сістэме народнай адукацыі. Калі мы цяпер уводзім пяцігадовы і нават большы тэрмін для ўкаранення беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчы працэс, у Заходняй Беларусі да гэтага франтальна прыступілі ўжо на першым годзе пасля ўз'яднання. Там, дзе да верасня 1939 года не функцыяніравала ніводнай беларускай школы, праз год ужо мелася 4268. Нанава былі створаны і 173 рускамоўныя школы. На польскай мове навучанне вялося ў 932 школах, яўрэйскай—у 150, літоўскай—у 64, украінскай—у 49.

У цэлым займаючы правільную пазіцыю ў пытаннях нацыянальнай асветы на заходнебеларускіх землях, урад і Кампартыя Беларусі павінны былі стрымаць, а то і зусім адмовіцца ад працягвання русіфікацыі навучальных устаноў сістэмы народнай адукацыі, асабліва сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школы, ва ўсходніх абласцях рэспублікі. У процівагу былому афіцыйнаму курсу, Бюро ЦК КП(б)Б прымае ў студзені 1941 года спецыяльную пастанову аб вывучэнні беларускай мовы ў ВНУ, тэхнікумах і школах БССР. Не лічачыся з характэрнай для таго часу падазронасцю да ўсяго таго, што датычыла нацыянальна-моўнага пытання, вышэйшы партыйны орган рэспублікі востра крытыкаваў тых кіраўнікоў народнай адукацыі, дырэктараў ВНУ, тэхнікумаў і сярэдніх агульнаадукацыйных школ, якія зняважліва ставіліся да выкладання асноўных прадметаў на беларускай мове, не выкарыстоўвалі яе пры складанні ўсякага роду дакументацыі, у зносінах з навучэнцамі. Для выпраўлення такога ненармальнага становішча абкомам, гаркомам і райкомам КП(б)Б прапаноўвалася ў экстранным парадку правесці нарады з сакратарамі партарганізацый, дырэктарамі ВНУ, тэхнікумаў і школ, намеціўшы канкрэтныя захады па належным ужыванні беларускай мовы ў навучальна - выхаваўчым працэсе. Наркамасвету БССР ставілася ў абавязак усяляк

[1] Крапіва К. Аб характары беларуса. — Крапіва К. Нарысы, артыкулы, пераклады. Мн., 1976. С. 127.

дапамагаць выкладчыкам па вывучэнні і ўдасканальванні іх ведаў па беларускай мове, забяспечыць усе беларускія педагагічныя вучылішчы падручнікамі і метадычнымі дапаможнікамі на беларускай мове. Лічылася зусім недапушчальным, што з агульнай колькасці літаратуры, што выдавалася для беларускіх навучальных установ, на беларускай мове выходзіла толькі 40 працэнтаў. З прычыны недастаткова развітой матэрыяльна-тэхнічнай базы паліграфічных прадпрыемстваў рэспублікі ЦК КП(б)Б вырашыў звярнуцца да ЦК ВКП(б) з просьбай даць указанне ўсесаюзнаму Камітэту па справах вышэйшай школы, каб надалей усе вучэбныя дапаможнікі па асноўных прадметах, што выкладаліся ў ВНУ БССР, выдаваліся на беларускай мове.

Як бачым з пераказу зместу студзеньскай пастановы Бюро ЦК КП(б)Б, яна ніяк не «ўпісвалася» ў рамкі той работы, якая праводзілася ў рэспубліцы з сярэдзіны 30-х гадоў па згортванні нацыянальнага элементу ў культурным жыцці беларускага народа. Пагаджаючыся з тым, што разглядаемая пастанова і сапраўды магла быць выклікана́й да жыцця жаданнем хоць у якой-небудзь ступені паўплываць на негатыўныя вынікі звужэння сферы выкарыстання беларускай мовы ў навучальных установах Наркамата асветы БССР, усё ж немалаважную ролю ў з'яўленні на свет такога дакумента адыграла распачатая ў Заходняй Беларусі палітыка ў гэтай сферы. Сутнасць жа яе была выкладзена зусім адназначна: на далучаных заходнебеларускіх землях сістэма народнай адукацыі павінна будавацца на нацыянальным грунце, што якраз адпавядала этнічным інтарэсам іх насельніцтва. Рабіць жа ўпор на рускае там, дзе амаль два дзесяцігоддзі ажыццяўлялася пад самымі рознымі формамі апалячванне, дзе ў барацьбе за захаванне годнасці беларуса, яго культуры і мовы людзі ішлі на самыя жорсткія пакуты, было б проста незразумелым і наткнулася б, напэўна, на адпор, выклікала б нязгоду ў народа. Свядома ўносячы нацыянальны элемент у практыку дзейнасці ўсіх тыпаў навучальных устаноў заходнебеларускіх абласцей, нельга было па-ранейшаму абмяжоўваць яго на астатняй тэрыторыі рэспублікі. Таму ўз'яднанне беларускіх усходніх і заходніх абласцей— гэта не проста арыфметычная з'ява ў жыцці нацыі, у выніку якой адбылося павелічэнне яе тэрыторыі і колькасці насельніцтва. Гэта яшчэ і той фактар, з якім не магла не лічыцца саюзная дзяржава пры правядзенні нацыянальнай палітыкі ў гэтым рэгіёне СССР. Калі б без усялякіх змен русіфікатарскую палітыку, што праводзілася да верасня 1939 года ў БССР, перанеслі на заходнебеларускія землі, дык гэта нічым нельга было б апраўдаць перад сусветнай грамадскасцю. Нават зусім неспрактыкаваныя ў нацыянальнай палітыцы людзі зразумелі б, што пры такім падыходзе мела б месца простая замена паланізацыі на русіфікацыю.

Гісторыя не любіць умоўнасцей. Але ж мне хочацца не палічыцца з гэтым і выказаць такое меркаванне: не ўзнікні Вялікая Айчынная вайна, нацыянальна-культурнае жыццё ва ўз'яднанай Беларусі будавалася б у многіх адносінах зусім не так, як у яе ўсходніх абласцях у 30-я гады, і магло б станоўча паўплываць на ўзмацненне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

На момант развязанай фашысцкай Германіяй вайны супраць Савецкага Саюза як усходнія, так і заходнія беларусы практычна не адчулі, што яны жывуць у адзінай дзяржаве. І не таму, што мала часу мінула пасля вызвалення Заходняй Беларусі. Прычына была зусім іншага характару: захаванне ў недатыкальнасці былых дзяржаўных межаў з Польшчай, у выніку чаго падтрымоўваліся вельмі нязначныя кантакты паміж беларусамі, якія жылі па розныя бакі ад гэтых створаных рукою чалавека штучных бар'ераў.

Парадаксальна, але факт: усходнія і заходнія беларусы пайшлі на збліжэнне не на падставе свядома прынятага саюзным урадам нейкага дзяржаўнага акта, а ў ходзе развязаных гітлераўскай Германіяй баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі. Адсюль вынікае, што масавыя непасрэдныя міжасобасныя кантакты беларусаў, асабліва на тэрыторыях, што пралягалі паабапал былой дзяржаўнай мяжы, распачаліся ў вельмі цяжкі для нашага народа час. Ніхто не рэгуляваў такія кантакты, не імкнуўся скіраваць іх у патрэбнае рэчышча. Аднак нягледзячы на гэта ўсё адбывалася вельмі па-людску, бо як адны, так і другія разумелі, што належаць да аднаго этнасу і што толькі па волі ліхога лёсу, стваральнікамі якога былі імперыялістычныя дзяржавы, вымушаны былі два дзесяцігоддзі жыць паасобку.

Ішлі самыя цяжкія для беларускага народа першыя месяцы барацьбы з фашысцкай Германіяй. Хутка ўся Беларусь апынулася пад акупацыяй. Але і тады Янка Купала не забывае пра мову, звяртаецца да работнікаў рэдакцый газет «Савецкая Беларусь» і «Звязда» са словамі: «Пакуль жыў хоць адзін беларус — будзе жыць беларуская мова, пакуль жыве мова—жыве Беларусь»!

У час лютай схваткі з фашыстамі асабліва цеплыню, цягу да роднага слова зведалі ўсе салдаты шматнацыянальнай Чырвонай Арміі. Кожны разумеў, што вораг зрабіў замах не толькі на эканамічныя дасягненні, палітычныя заваёвы савецкіх народаў, але і на іх духоўныя багацці, трывалым падмуркам для якіх могуць быць толькі нацыянальныя мовы. На захопленай гітлераўцамі тэрыторыі ў кастрах інквізіцыі гарэлі кнігі і карціны, разбураліся ўстановы навукі і культуры, найбольш цікавыя і каштоўныя духоўныя здабыткі вывозіліся ў фашысцкі рэйх. Абмежаваныя магчымасці для духоўнага развіцця савецкіх народаў меліся ў савецкім тыле. Каб наталіць смагу салдата па родным слове, Камуністычная партыя, Савецкі ўрад у складанейшых умовах ваеннага часу наладзілі гэту справу так, што ў сярэдзіне 1943 года на мовах народаў СССР выходзілі 55 франтавых і армейскіх газет! Кожнаму перад боем хацелася хоць на момант пабыць разам са сваёй мовай, пачуць яе цёплае дыханне. Не ўсе выходзілі ўцалелымі з бою, а родная мова жыла. Перажываць кожнага ўзятага паасобку чалавека павінна яна і ў мірны час.

Вядомыя нам факты з часоў Вялікай Айчыннай вайны пераканаўча сведчаць, што ўсведамленне этнічнай супольнасці беларусаў стала яшчэ больш глыбокім, калі яны разгарнулі паўсямесную барацьбу з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Сам характар партызанскага жыцця вёў да масавых тэрытарыяльных перамяшчэнняў людзей, садзейнічаў іх хуткаму збліжэнню паміж сабой. Узнятыя на змаганне з ворагам народ адчуваў сябе на тэрыторыі ўсёй Беларусі як пэўнае цэлае і непадзельнае, жыў не толькі мясцовымі, але і агульнанацыянальнымі інтарэсамі. Нягледзячы на ўсю моц гебельсаўскай прапаганды па разлажэнні знутры кожнага народа, распальванні варожасці паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, беларусы, страціўшы ў вайне кожнага свайго чацвёртага чалавека, у плане нацыянальнай самасвядомасці на момант вызвалення іх тэрыторыі ад фашыстаў былі куды больш пераканаванымі і цвёрдымі, чым напярэдадні акупацыі. Гонар за гераізм у партызанскіх атрадах і падполлі доўгі час узвышаў сам беларускі народ, выклікаў да яго велізарную павагу з боку ўсіх савецкіх нацый і народнасцей, многіх замежных грамадзян.

(Працяг будзе).

## Прэс-канферэнцыя ў польскім консульстве

21 красавіка 1945 года быў падпісаны Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Польшча і СССР. 45-годдзю гэтай падзеі была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая днямі адбылася ў Генеральным консульстве Рэспублікі Польшча ў Мінску.

Гэта была першая рабочая сустрэча новага генеральнага консула Т. Мысьліка з работнікамі прэсы Беларусі. У ходзе свабоднай, жывой гутаркі з журналістамі Т. Мысьлік, а таксама консулы Х. Каліноўскі і С. Апала падзяліліся сваімі думкамі аб значэнні Дагавора, аб сучасным стане і перспектывах супрацоўніцтва паміж Польшчай і Савецкім Саюзам.

Дагавор 45 года, народжаны ў сумеснай барацьбе супраць фашызму, падкрэсліў генеральны консул, быў адной з галоўных падзей, якія сталі асновай міру і стабільнасці ў пасляваеннай Еўропе.

На жаль, за многія гады не былі выкарыстаны ўсе патэнцыяльныя магчымасці для развіцця эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі. Зараз, у новых умовах, важна знайсці новыя формы ўзаемадзеяння паміж польскай і савецкай дзяржавамі.

Сваю місію ў Беларусі ён ацэньвае як важную і ганаровую. Т. Мысьлік выказаў спадзяванне, што адраджэнне ў апошні час культуры польскай этнічнай меншасці на Беларусі, таксама як адраджэнне культуры беларусаў у Польшчы, будзе спрыяць узаемнаму духоўнаму ўзбагачэнню двух нашых народаў.

Закрануўшы ў кантэксце нядаўняга візіту В. Ярузельскага ў СССР тэму трагедыі ў Катыні, Т. Мысьлік гаварыў аб важнасці пошуку пахаванняў палякаў, якія загінулі на тэрыторыі Беларусі ў час вайны, і тых, што сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій.

Размова ў консульстве тычылася самых розных пытанняў — ад эканамічнай сітуацыі ў Польшчы да праблем тавараабмену і прыгранічнага гандлю і ад культуры турызму да свабоднага абмену інфармацыяй.

**Наш кар.**

### *З паэтычнай пошты*

## Прытча пра мытара і фарысея

**(Евангелле ад Лукі, раздзел 18, радкі 10—14)**

Аднойчы ў храм зайшлі два
чалавекі:
Адзін з іх — фарысей [1], другі
— мытар [2].
Яны былі духоўныя калекі:
Згінаў іх да зямлі грахоў
цяжар.

Але не думаў фарысей пра
тое
І верыў, што жыццё яго
святое.
Замест таго, каб памаліцца,
Ён, неразумны, стаў хваліцца.
І з непавагай да людзей
Сказаў: «Адзін я дабрадзей.
Прымі падзяку маю, Божа,
Што я не гэтакі, як кожны,
Напрыклад, як вунь той мытар
(І паказаў ягоны твар).
Я не такі, як людзі-злыдні:
Пашчуся два разы на тыдні,
Даю належную ахвяру,
І толькі пра дабро я мару».

Мытар не меў чым пахваліцца,
І з плачам ён пачаў маліцца:
«Даруй мне літасць, Божа
мілы,
Што я зусім не маю сілы
Дабром парадаваць людзей...
Я самы горшы ліхадзей».
Сваіх грахоў адчуўшы путы,
Мытар стаў думаць пра пакуты,
Якія грэшнікаў чакаюць,
Калі пра лепшы лёс не
дбаюць.
Быў на душы яго пажар,
І ён не мог падняць свой твар.
І не разлічваў ён жаданне,
Каб мець у Бога апраўданне,
Ды апраўданне атрымаў.
Аб гэтым Сам Хрыстос сказаў.
А фарысею-«дабрадзею»
За душ грахоўных варушэнне
І за яго самаўзвышэнне
Малую выказаў [3] надзею
На апраўданне перад Богам.
Ён... апынуўся за парогам [4].

Запомнім гэтай прытчы словы
І схілім да зямлі галовы,
Як той мытар, на пакаянні.
Паставім для сябе пытанні:
Ці фарысей я? Ці мытар?
Які ж маіх грахоў цяжар?
І калі ёсць у нас сумленне,
Да лепшага жыцця імкненне,
Сваіх грахоў цяжар убачым
І, як мытар, усе заплачым.

**Іван МІЦЬКО,**
**святар.**
г. Маладзечна.

**Заўвагі да верша:** [1] фарысей — прадстаўнік старажытнай яўрэйскай рэлігійнай секты, якія лічылі сябе ні ў чым непагрэшнымі і часта любілі пра гэта хваліцца. [2] Мытар — зборшчык падаці са свайго, яўрэйскага народа для рымскіх прыгнятальнікаў, пад уладай якіх у той час знаходзіўся яўрэйскі народ. [3] «выказаў» — маецца на ўвазе выказаў Хрыстос. [4] «апынуўся за парогам» — не атрымаў належнага ад сваёй прысутнасці ў храме.

## АДЗІН З СЯМ'І ПЕСНЯРА



Мікалаеўшчына, красавік 1956 года. Іосіф Міцкевіч, Якуб Колас і Максім Лужанін.

Чарговы літаратурны чацвер прайшоў у Коласавым доме. Прысвячаўся ён прапагандысту творчасці вялікага песняра, малодшаму брату Якуба Коласа Іосіфу Міхайлавічу Міцкевічу у сувязі з ягонымі 95-мі ўгодкамі.

«Найчасцей звалі яго пяшчотна і любоўна — дзядзька Юзік. Як некалі і Коласа — дзядзька Якуб. Відаць, ім абодвум зваротак гэты пакінуў у спадчыну любімы дзядзька Антось», — пачаў гаворку загадчык аддзела Літаратурнага музея Якуба Коласа І. Курбека. Ахарактарызаваўшы дзейнасць Іосіфа Міхайлавіча, з якім пашчасціла шмат разоў выступаць, вядучы прапануе уважліва паслухаць голас самога «юбіляра».

«Я з'яўляюся малодшым братам Якуба Коласа, — чуецца з магнітафоннай стужкі голас. — Пра мяне ў сваёй паэме «Новая зямля» ён піша:

**А гэты Юзік-шаляніца,**
**Малы яшчэ, зусім дурніца,**
**Так пад нагамі і таўчэцца**
**Або, як хвост той, валачэцца**
**І ад работы адрывае**
**І толькі сэрца ад'ядае».**

Выступаюць людзі, што не раз бачылі і чулі Іосіфа Міхайлавіча — пісьменнікі М. Татур і П. Прыходзька, намеснік дэкана філфака БДУ імя У. І. Леніна У. Лазоўскі, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР І. Цішчанка, настаўнік 68-й СШ г. Мінска П. Валкавец, дырэктар Мікалаеўшчынскай СШ імя Якуба Коласа А. Каменка, сябры сям'і дзядзькі Юзіка. Простым, мудрым, чалавечным паўстае з успамінаў гэты самародак беларускага народа.

З цікавасцю слухаюць прысутныя родных Іосіфа Міхайлавіча — пляменніка, настаўніка з Радашковічаў С. Белага і унука Г. Міцкевіча, які працуе ў філіяле музея Якуба Коласа, а таксама інжынера Мінскага аўтазавода І. Гарэцкага.

Уся вечарына была аздоблена песняй «Мой родны кут», якую спявалі Л. Барткевіч і Данчык.

**Г. ЖАРДЗЕЦКАЯ,**
**настаўніца-пенсіянерка.**

